# ПЯТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

З пятага па восьмае жніўня ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве адбывалася Пятая сесія Вярхоўнага Совета Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Вярхоўны Совет СССР прыняў Закон аб Дзяржаўным бюджэце СССР на 1953 год, Закон аб сельскагаспадарчым падатку і пастановы аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Совета. У гэтых дакументах знайшла яркае адлюстраванне палітыка Комуністычнай партыі і Совецкага ўрада, накіраваная на далейшы рост сіл і магутнасці нашай соцыялістычнай дзяржавы, на няўхільнае павышэнне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню совецкіх людзей — актыўных будаўнікоў комуністычнага грамадства.

Уся работа Пятай сесіі Вярхоўнага Совета, якая праходзіла ў абстаноўцы вялікага патрыятычнага ўздыму, прадэманстравала маналітнае адзінства совецкага народа, яго згуртаванасць вакол роднай Комуністычнай партыі і Совецкага ўрада.

На заключным сумесным паседжанні Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей выступіў з прамовай Старшыня Совета Міністраў Саюза ССР таварыш Г. М. Маленкоў.

Працоўныя нашай рэспублікі, як і ўвесь совецкі народ, з глыбокім задавальненнем і адзінадушным адабрэннем сустрэлі прамову Старшыні Совета Міністраў Саюза ССР таварыша Г. М. Маленкова і Законы, прынятыя Вярхоўным Советам. Адзінадушна ўхваляючы гэтыя дакументы, рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя рэспублікі абавязваюцца з падвоенай энергіяй змагацца за новыя поспехі ў развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры.



На здымку ўверсе — паседжанне Вярхоўнага Совета СССР 8 жніўня 1953 года. За сталом Старшыні (справа налева): намеснікі Старшыні Совета Саюза А. І. Ніязаў, А. Ю. Снечкус, А. І. Кірычэнка, Т. М. Зуева, Старшыня Совета Саюза М. А. Ясноў, Старшыня Совета Нацыянальнасцей Ж. Шаяхметаў, намеснікі Старшыні Совета Нацыянальнасцей М. Т. Якубаў, Т. М. Маціашвілі, М. В. Зімянін, В. Т. Лаціс. У ложах — таварышы Н. М. Швернік, М. Г. Первухін, М. З. Сабураў, Н. А. Булганін, А. І. Мікаян, В. М. Молатаў, К. Е. Варашылаў, Н. С. Хрушчоў, Л. М. Кагановіч, М. А. Суслаў, П. К. Панамарэнка, Н. М. Пегаў, П. Н. Паспелаў, Н. Н. Шаталін і М. Ф. Шкіратаў. На трыбуне — Старшыня Совета Міністраў Саюза ССР таварыш Г. М. Маленкоў.

На здымку справа — у зале паседжанняў Вярхоўнага Совета СССР. На пярэднім плане — дэпутаты ад Беларускай ССР.

(Фотахроніка ТАСС).



Група комсамольцаў-студэнтаў, якія ў гэтым годзе паступілі на першы курс Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна (злева направа): **Уладзімір Макарэвіч, Мікалай Рожын, Ніна Марцынкевіч, Зося Куц і Эдуард Чэчка.**

Фота А. Дзітлава.


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

№ 6. Верасень, 1953 год.

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, НАВУЧАЛЬНЫ ГОД!

Адзвінела салаўінымі песнямі, адшумела хвалямі збажыны ўраджайнае, шчодрае лета. Карацейшымі робяцца дні, даўжэйшымі ночы. Уранку сівыя туманы ахутваюць зямлю. Дыханне поўначы астуджвае сонца, скарачае яго шлях у блакіце...

Затое зырка пачынаюць палымнець бяздымныя вогнішчы залатой восені. Яркай чырванню і пазалотай гараць верхавінкі дрэў. Румяніцца, ірдзее, пунсавее лес...

Імчаць па дарогах, узнімаючы хмары пылу, паўтаратонкі і трохтонкі; яны да самага верху нагружаны буйным, важкім зернем. Багаты калгасны ўраджай працавітага савецкага лета збірае і захоўвае руплівая залатая восень!..

Добры дзень, багаты верасень!

Паглядзіш навокал — і здзівішся: шмат, вельмі шмат чым верасень паўтарае раннюю вясну. Раскоша апошняй цеплыні натхняе шпакоў, як і вясною, на залётныя спеўкі ля родных шпакоўняў. Звонка, гулліва спрачаюцца за месца пад сонцам чыжы, кнігаўкі... У маі вабіла наша вока сваімі кветкамі рабіна, а цяпер, нібы каштоўныя каменьчыкі гранату, вісяць гронкі яе ягад... Пад колер ягад пачырванела шыпшына... Спеюць, наліваюцца рубінавым зззяннем журавіны... А які маляўнічы робіцца ўвосень букет лісцяў берасклету — цьмянажоўтых, ружовых, фіялетавых. Шмат якія кветкі і расліны пачынаюць у верасні зноў цвісці — другі раз!

Што з таго, што па адвечнай паветранай дарозе паляцелі на поўдзень пералётныя птушкі! Па нашых дарогах вяртаюцца да родных мясцін, у родныя гарады і вёскі з дамоў адпачынку, турысцкіх паходаў, піонерскіх лагераў, санаторыяў адпачыўшыя і падужэўшыя за лета рабочыя і калгаснікі, студэнты і вучні.

Верасень — цудоўная, непаўторная пара, якую гэтак любяць савецкія дзеці, савецкая моладзь. Першага верасня — пачатак вучобы ў школах, тэхнікумах, інстытутах, універсітэтах. Як у родны дом, вярнуліся ў гэты дзень у светлыя, чыстыя, утульныя класы і аудыторыі тыя, хто пакідаў іх на час канікул. З пачуццём нязведанай яшчэ, але такой хвалюючай урачыстасці селі за парты і сталы першакласнікі і першакурснікі.

Як і кожны год, наша Радзіма, родная Комуністычная партыя, Савецкі ўрад шырока расчынілі дзверы новаму навучальнаму году. Мільёны школьнікаў, амаль тры мільёны студэнтаў — вось размах вялікай бітвы за веды ў нашай краіне. І таму з такой шчырай, непасрэднай удзячнасцю лунаюць з канца ў канец нашай неабсяжнай краіны гарачыя, палымяныя словы:

— Добры дзень, залаты верасень!

Па колькасці школьнікаў і студэнтаў савецкая краіна даўно выйшла на першае месца ў свеце, далёка апярэдзіўшы ўсе капіталістычныя краіны Еўропы, Азіі, Афрыкі і Аўстраліі, узятыя разам. Толькі ў адным мінулым годзе вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы выпусцілі звыш поўмільёна маладых спецыялістаў. З ліку тых, хто скончыў сярэднюю школу вясною, больш трыццаці тысяч чалавек былі ўзнагароджаны залатымі і срэбранымі медалямі. Гэтыя лічбы не могуць не выклікаць пачуцця законнай гордасці ў кожнага савецкага чалавека.

Вялізны прыток навучаючыхся ў гэтым годзе. Сярод іх ёсць і тыя, хто займаецца ў школах, тэхнікумах, інстытутах без адрыву ад вытворчасці — на вячэрніх і завочных аддзяленнях. Слесар рыхтуецца стаць інжынерам, пастух — аграномам, швачка — урачом, дамашняя гаспадыня — педагогам, шафёр — артыстам, муляр — геолагам. І мы бачым: побач з намі, на нашых вачах адбываецца велічны па сваёй значнасці працэс сцірання межаў паміж фізічнай і разумовай працай.

Першага верасня шырока расчыніліся дзверы ўсіх школ і вышэйшых навучальных устаноў нашай рэспублікі. Зноў ажылі, напоўніліся гоманам школы Мінска, Віцебска, Гомеля, Оршы і ўсіх іншых гарадоў і вёсак рэспублікі, зноў загулі аудыторыі універсітэта, інстытутаў, сельскагаспадарчай акадэміі, кансерваторыі...

З ліку тых, хто ўпершыню ў гэтым годзе прышоў у Беларускі Дзяржаўны універсітэт імя В. І. Леніна, — каля 200 медалістаў. Новае папаўненне прышло на ўсе факультэты універсітэта. Тут ёсць прадстаўнікі сталіцы рэспублікі, індустрыяльнага Гомеля, дзеці машынабудаўнікоў Бабруйска, хлебаробаў Палесся, ільнаводаў Віцебшчыны. Мы сустрэнем тут пасланцоў заходніх абласцей — з Гродзеншчыны і Піншчыны, з берагоў возера Нарач і з палёў прынямоння.

Сапраўдной кузняй інжынерных кадраў стаў Беларускі політэхнічны інстытут імя І. В. Сталіна. Сёлета тут займаецца каля чатырох тысяч студэнтаў, з іх звыш тысячы — уноў прынятых. Шматлікія факультэты інстытута — энергетычны, гідратэхнічны, тарфяны, механічны, будаўнічы і іншыя рыхтуюць высокакваліфікаваных спецыялістаў амаль дваццаці профіляў. Выхаванцаў інстытута ўжо можна сустрэць на будоўлях Волгі і Дняпра, на Далёкім Усходзе і ў Сярэдняй Азіі, у Сібіры і Прыбалтыцы...

У мінулым навучальным годзе ў нашай рэспубліцы было 28 вышэйшых навучальных устаноў. Цяпер прыбавілася яшчэ адна: у Гомелі створаны Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Зараз тут ідуць прыёмныя экзамены, а з першага кастрычніка пачнуцца сталыя заняткі. Недалёка той час, калі чыгуначны транспарт нашай рэспублікі пачне штогод атрымліваць значны атрад высокакваліфікаваных кадраў — паравознікаў, пуцейцаў, вагоннікаў, сувязістаў, эксплуатацыйнікаў.

«Зялёная вуліца» вам у вашай вучобе і жыцці, будучыя чыгуначнікі!

Нядаўна адбылася пятая сесія Вярхоўнага Савета СССР. У прамове Старшыні Савета Міністраў СССР таварыша Г. М. Маленкова і ў прынятых на сесіі Законах знайшлі сваё яркае адлюстраванне няспынныя клопаты Комуністычнай партыі і Савецкага ўрада аб далейшым павышэнні матэрыяльнага і культурнага ўзроўню нашага народа.

Дзяржаўны бюджэт прадугледжвае асігнаванні на соцыяльна-культурныя мерапрыемствы ў суме 129,8 мільярда рублёў — на 7 мільярдаў рублёў больш, чым у мінулым годзе. Вялікія сродкі адпускаюцца на народную асвету, ахову здароўя, соцыяльнае забяспечанне. У 1953 годзе адкрываюцца сотні новых школ, інстытутаў, тэхнікумаў, бібліятэк, клубаў, палацаў культуры.

Вялікая прага да ведаў у моладзі. Паглядзіце — якія ўсхваляваныя і радасныя твары ў юнакоў і дзяўчат! Вакол бурліць творчае, цудоўнае савецкае жыццё. Якое шчасце вучыцца, працаваць, змагацца ў імя гэтага жыцця!

Добры дзень, навучальны год!



# У шчаслівы шлях

Са словам «вайна» ў жыцці Таісіі, Генадзія і Марыі Пахомавых звязаны самыя жахлівыя ўспаміны. У тую пару, калі азвярэлы вораг знішчаў усё на роднай зямлі, ён спаліў і вёску Паддуб'е Ленінградскай вобласці. Бацькоў Пахомавых забілі, а іх, як і сотні іншых дзяцей, павезлі ў няволю.

На дарозе дзяцей часова пакінулі ў поўразбураным маёнтку, што недалёка ад мястэчка Карэлічы. Тут і выратавала іх родная Савецкая Армія.

У мястэчку Карэлічы быў арганізаваны дзіцячы дом. Сагрэтыя ласкай любімай Радзімы, дзеці знайшлі шчаслівае маленства. Ішлі гады. Дзеці раслі і вучыліся. Раслі Марыя і Таісія, раслі сёстры Анна і Марыя Антонавы. Яны, як і шмат іншых, закончылі сямігадовую школу і прадоўжылі вучобу ў спецыяльных навучальных установах.

Вера Іванова, Каця Блохіна, Вера Жохава заканчваюць Рыжскае паліграфічнае вучылішча, Марыя Антонава, якая закончыла вучылішча радыёсувязі, працуе радысткай у Запаляр'і, Ніна Жохава працуе комсоргам у Карэліцкай сярэдняй школе і завочна вучыцца ў Мінскім педвучылішчы.

Украінец Уладзімір Якаўчук пасля сямі класаў Карэліцкай сярэдняй школы будзе прадаўжаць сваю вучобу ў мараходным вучылішчы, рускія Раіса Паўлава, Лідзія Прошына, Анна Карпуціна — у Навагрудскім педвучылішчы, беларусы Зіна Трусевіч і Марыя Загорская — у Слонімскай школе медсясцёр, латыш Эрык Дамберг будзе вучыцца ў фінансавым тэхнікуме.

Моцная дружба гэтых юнакоў і дзяўчат, як і моцная дружба ўсіх народаў нашай неабсяжнай Радзімы. Ад'язджаючы на вучобу, ніхто з іх не забывае наведаць родны дом, цёпла развітацца з сябрамі, падзякаваць выхавацеляў Анатоля Іванавіча Бабкова, Тацяну Іванаўну Гарбацэвіч, Галіну Данілаўну Даніленка — усіх, хто іх выхоўваў у бязмежнай любві да Радзімы, выхоўваў у іх пачуццё таварыскасці і патрыятычнага абавязку — гэтыя выдатныя якасці, якія ўласцівы толькі савецкаму чалавеку.

Прыехалі пабыць у родным дзіцячым доме перад пуцёўкаю ў вялікае жыццё і Пахомавы. Усе ім жадаюць шчаслівага жыццёвага шляху.

Таісія з адзнакай закончыла Навагрудскае педвучылішча і едзе вучыцца ў Мінскі педінстытут, Марыя закончыла гэтае-ж вучылішча і будзе працаваць у адным з дзіцячых дамоў Баранавіцкай вобласці. Генадзій, які атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю, едзе ў авіяшколу.

Шмат хто з выхаванцаў дзіцячага дома ў гэтыя дні едуць працаваць і вучыцца.

Пажадаем-жа ім шчаслівага шляху!

**А. ПЕРАХОД.**

На здымку ўверсе: **у дружнай сям'і Карэліцкага дзіцячага дома Таісія, Генадзій** (злева) **і Марыя Пахомавы.**

Фота А. Перахода.

Р. ЯКАЎЛЕЎ

# НА ЛЕНІНСКІХ ГОРАХ

Пяць год назад у адзін з летніх сонечных дзён масквічы ўбачылі над Ленінскімі горамі паветраны шар. Ён некаторы час пратрымаўся ў небе і раптоўна знік. Ніхто не надаў гэтаму асаблівага значэння. Між тым шар быў узняты нездарма. За ім уважліва сачылі з розных пунктаў Масквы вучоныя, архітэктары і будаўнікі. Яны правяралі па шару, які трымаўся на пэўнай вышыні, як будзе «праглядацца» з розных раёнаў Масквы новы будынак Дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава.

У выніку ўсебаковага даследавання Ленінскія горы былі прызнаны лепшым месцам для будучага універсітэта: самы высокі пункт Масквы, цудоўны від на сталіцу, многа зелені і паветра, побач — Масква-рака.

У студзені 1949 года экскаватары вынялі на месцы будаўніцтва першыя кубаметры зямлі з катлавана пад фундамент галоўнага корпуса, а ўжо ўлетку таго-ж года пачаўся мантаж стальнога каркаса.

Больш 40 тысяч тон металічных канструкцый было змантыравана ў небывала кароткі тэрмін—за 18 месяцаў. А ўвосень 1951 года над Ленінскімі горамі ў сонечных промнях заззяла зорка, якая завяршае велічны будынак універсітэта. Пачалася ўнутраная аддзелка памяшкання.

Будоўля гэтая была ўсенароднай справай. У ёй прымалі ўдзел рабочыя, якія прыехалі сюды з розных канцоў нашай Радзімы. Каля чатырохсот вагонаў розных будаўнічых матэрыялаў атрымлівалі штодзённа будаўнікі з Урала і Украіны, Беларусі і Узбекістана, Алтая і Латвіі.

І вось цяпер новае памяшканне Маскоўскага Дзяржаўнага універсітэта, нібы казачны палац, узнімаецца над Масквою. Выкананы грандыёзны аб'ём работ. На будаўнічай пляцоўцы вынята 5,5 мільёна кубаметраў зямлі. У сцены памяшкання пакладзена 175 мільёнаў штук цэглы, у фундаменты і перакрыцці — 500 тысяч кубаметраў бетону. Звыш трох мільёнаў квадратных метраў сцен і столі атынкавана і пафарбавана тынкоўшчыкамі і малярамі.

Магутная тэхніка, якой краіна ўзброіла будаўнікоў, дала магчымасць максімальна механізаваць працу і забяспечыць за параўнальна кароткі тэрмін заканчэнне такога гіганцкага будаўніцтва.

Там, дзе Герцэн і Огароў далі клятву служыць народу і радзіме, цяпер вырас велічны палац, які з'яўляецца сімвалам прагрэса, навукі і міру.

Дзверы шматлікіх аудыторый, лабараторый, бібліятэк універсітэта 1 верасня 1953 года шырока адчыніліся перад шчаслівымі савецкімі юнакамі і дзяўчатамі. Каля дзевяці тысяч студэнтаў і аспірантаў — пасланцоў 60 нацыянальнасцей нашай краіны — знайшлі тут самыя выдатныя ўмовы для вучобы. Клапатлівая маці-Радзіма падрыхтавала ім гэты найкаштоўнейшы падарунак.

Лепшыя архітэктары краіны (аўтары праекта — група архітэктараў на чале з правадзейным членам Акадэміі архітэктуры СССР Л. В. Рудневым), творча скарыстоўваючы багатую спадчыну рускай архітэктуры, стварылі цудоўны архітэктурны ансамбль. Ён займае тэрыторыю каля 300 гектараў. Тэрыторыя новага памяшкання Маскоўскага універсітэта намнога перавышае плошчу, якую займае буйнейшая навучальная ўстанова Злучаных Штатаў Амерыкі — Калумбійскі універсітэт.

Ва універсітэцкі комплекс на Ленінскіх горах уваходзіць каля 40 будынкаў, якія маюць звыш двух мільёнаў кубічных метраў. Аб'ём аднаго толькі галоўнага 38-павярховага корпуса роўны 1 300 тысяч кубічных метраў. У ім налічваецца амаль 20 000 памяшканняў. Яго шпіль узнімаецца ў неба на вышыню амаль чвэрці кілометра. Падлічана, што каб абыйсці ўсе памяшканні універсітэта, трэба зрабіць шлях, роўны 145 кілометрам.

У высотнай частцы галоўнага корпуса новага універсітэта размясціліся механіка-матэматычны, геалагічны і геаграфічны факультэты. Тут-жа знаходзяцца фундаментальная бібліятэка, музей землязнаўства, рэктарат, актавая зала, клуб, спартыўная зала, водны басейн. Біёлага-глебавы факультэт займае асобны будынак у батанічным садзе. У асобных памяшканнях размешчаны таксама хімічны і фізічны факультэты.

На ўсіх факультэтах забяспечваецца цесная сувязь тэорыі з практыкай. З гэтай мэтай абсталяваны астранамічная абсерваторыя, інстытут механікі з шматлікімі лабараторыямі: аэрадынамікі, выпрабавання канструкцый, гідраканала, кліматалагічная і глебавая лабараторыі, метэаралагічная станцыя, велізарны, створаны на аснове перадавой мічурынскай навукі аграбатанічны сад з альпінарыем, дзесяткі гадавальнікаў, аранжарэй і г. д. Законную гордасць выклікае велічная актавая зала на 1 500 чалавек, бібліятэка з галоўным кнігасховішчам на 600 тысяч тамоў, зала вучоных і інш.

Адкрыццё новага памяшкання Маскоўскага універсітэта на Ленінскіх горах з'явілася святам не толькі для студэнтаў і выкладчыкаў, але і для ўсёй савецкай навукі, для ўсяго савецкага народа. Клопатамі Комуністычнай партыі і Савецкага ўрада ў новым памяшканні універсітэта створаны такія ўмовы для вучобы і навуковай работы, якіх не мела на працягу ўсёй гісторыі ні адна вышэйшая навучальная ўстанова. Навуковыя кабінеты і лабараторыі абсталяваны прыборамі і ўстаноўкамі, зробленымі па апошняму слову савецкай тэхнікі. Больш пяцісот прадпрыемстваў краіны выконвалі заказы універсітэта па абсталяванню.

Пазнаёмімся з абсталяваннем асобных факультэтаў. Фізічны факультэт, напрыклад, мае электронны мікраскоп — гэтую магутную зброю сучаснага даследавання. Апрача таго, тут ёсць спектографы, апаратура для атрымання высокага вакуума, аптычныя прыборы з надзвычай высокай сілай павелічэння, якія дазваляюць вывучаць будову малекул. Кафедры, якія займаюцца даследаваннем металаў і сплаваў, атрымалі магутныя індукцыйныя печы,

**Агульны выгляд Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Ламаносава.**
Фота І. Акуленкі.







**Адна са скульптурных груп, якія ўпрыгожваюць будынак універсітэта.**

магутныя электрамагніты і іншае неабходнае абсталяванне. У асобным корпусе высакавольтных і стэндавых установак размешчаны лабараторыі радыёфізікі, цеплафізікі і газадынамікі. Спецыялізаваная майстэрня фізічнага факультэта налічвае каля ста станкоў і механізмаў.

Хімічны факультэт мае спецыяльныя печы, электрычныя, электронныя і аптычныя прыборы. У лабараторыях новага памяшкання стала магчымым вывучаць уласцівасці тэрмастойкіх і тугаплаўкіх вяшчэстваў. Новае абсталяванне — палярографы, фотаэлектракаларыметры, спектографы, патэнцыёметры даюць магчымасць шырока ўжываць фізіка-хімічныя метады ў аналізах. Кафедры атрымалі апаратуру для выкарыстання метада мечаных атамаў пры даследаванні механізма хімічных працэсаў і ўласцівасцей хімічных злучэнняў. Навейшым абсталяваннем укамплектавана больш 600 лабараторных памяшканняў хімічнага факультэта.

На механіка-матэматычным факультэце змантыраваны буйныя ўстаноўкі, якія дапамогуць вырашаць рад важных праблем механікі. Калектыў кафедры гідрадынамікі атрымаў гідраканал і шэраг установак для даследавання турбін, вывучэння фільтрацыі і г. д.

Астранамічная абсерваторыя на Ленінскіх горах — гэта цэлы комплекс пабудоў: галоўнае памяшканне і сем вежаў і павільёнаў, размешчаных вакол яго. На даху галоўнага будынка ёсць чатыры астранамічныя вежы, у якіх устаноўлены складаныя інструменты, і пляцоўка для нагляданняў з пераноснымі інструментамі. Спецыяльная ўстаноўка знаходзіцца тут для збірання сонечных праменняў, якія перадаюцца затым па асобнай трубе ў цокальны паверх, у лабараторыю службы сонца і сонечнага спектра. На глыбіні 20 метраў ад паверхні зямлі абсталявана спецыяльнае памяшканне для першакласнага гадзінніка Службы часу, лабараторыя якога захоўвае дакладны час і абслугоўвае сігналамі дакладнага часу ўвесь Савецкі Саюз. У спецыяльнай круглай вежы ўстаноўлены магутны тэлескоп, падобнага якому не мае ні адна абсерваторыя свету.

У распараджэнні абсерваторыі шэраг такіх буйных і дробных інструментаў, як астрограф, якім робяцца дакладныя вызначэнні становішча нябесных цел і руху зорак, фотагеліограф, якім фатаграфуюць сонца.

Сем паверхаў у цэнтральным памяшканні палаца навукі займае геаграфічны факультэт. Шаснаццаць аудыторый для студэнтаў абсталяваны кіноўстаноўкамі і рознымі прыстасаваннямі. Створана больш сарака тэматычных кабінетаў і геаграфічная бібліятэка, другая па велічыні ў СССР.

Біёлага-глебавы факультэт, размешчаны сярод батанічнага саду, займае корпус, які па аб'ёму перавышае вядомы дом Савета Міністраў СССР у Охотным радзе ў Маскве. Шматлікае новае абсталяванне дазваляе глыбока вывучаць творчую спадчыну Паўлава, Мічурына, Дакучаева. Камеры для даследавання ўмоўных рэфлексаў, барокамеры, тэрмакамеры, спецыяльныя аперацыйныя клінікі для жывёл — усё гэта дае магчымасць значна шырэй, чым да гэтага часу, вывучаць пытанне вышэйшай нервовай дзейнасці.

Батанічны сад універсітэта займае каля 45 гектараў. Тут ёсць расліны ўсяго свету. Сад складаецца з дэндрарыя, мічурынскага селекцыйна-генетычнага саду, альпінарыя, участкаў карысных і дэкаратыўных раслін, участкаў руж і сістэматыкі раслін. У дэндрарыі растуць клёны, ліпы, арэхавыя дрэвы, таполі, бярозы, бэз, белая акацыя, піхты, хвоі, кедры, дрэвы Сібіры, Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі, Кітая, Японіі. Спецыяльны ўчастак адведзены для гібрыдных дрэў, выведзеных савецкімі дэндролагамі і селекцыянерамі. Усяго ў дэндрарыі каля тысячы відаў раслін і звыш 20 тысяч дрэў і кустоў.

Каля шасці тысяч квадратных метраў займае альпінарый. Гэта — дзівоснае нагрумаджэнне гранітных глыб, горак, цяснін — зменшаныя ў сотні разоў горныя мясцовасці розных краін свету. У альпінарыі багата прадстаўлены расліны свет Каўказа, Крыма, Сярэдняй Азіі, Гімалаяў, Запаляр'я, Афрыкі, Поўночнай і Поўднёвай Амерыкі.

Пашырэнне плошчаў навуковых і вучэбных лабараторый, дзе ёсць дастатковая колькасць сучаснага абсталявання, стварыла выключна добрыя ўмовы для развіцця навуковай дзейнасці і дазваляе прыцягваць да даследчай эксперыментальнай работы ўсіх студэнтаў. Кожны студэнт атрымаў сталае месца ў лабараторыі.

Фундаментальная бібліятэка, якая займае адзінаццаць паверхаў у галоўным корпусе, з'яўляецца своеасаблівым навуковым цэнтрам. Яе абкружаюць дзесяткі чытальных залаў, кожная з якіх мае свой асаблівы профіль. Фонд бібліятэкі дасягае паўтара мільёна тамоў. У чытальных залах студэнты могуць паслухаць і запісаныя на плёнку тэксты прачытаных лекцый. Тут-жа яны могуць атрымаць надрукаваную ва універсітэцкай друкарні лекцыю ўжо на наступны дзень пасля яе прачытання. Бібліятэка абсталявана пнеўматычнай поштай: кнігу можна атрымаць праз якія дзесяць мінут.

Багатае мастацкае афармленне новага будынка універсітэта. Звонку ўсе карпусы абліцованы керамічнымі пліткамі. Для знадворнай і ўнутранай аддзелкі скарыстаны лепшыя гатункі граніту і мармуру, каштоўныя пароды дрэў, каляровая кераміка. Столі вестыбюляў, аудыторыі, кабінетаў упрыгожаны мастацкай лепкай. Многія сотні каштоўнейшых твораў мастацтва, выкананых лепшымі мастакамі і скульптарамі краіны, упрыгожваюць памяшканне. Каля галоўнага ўваходу высотнай часткі ўзвышаецца на пастаменце скульптурны бюст заснавальніка Маскоўскага Дзяржаўнага універсітэта, вялікага сына рускага народа М. В. Ламаносава. Каля другіх карпусоў — скульптурныя бюсты геніяльных рускіх вучоных Мендзелеева, Лабачэўскага, Папова, Бутлерава, Сталетава, Кавалеўскай, Міклухі-Маклая, Дакучаева і іншых. На фасадзе галоўнага корпуса—скульптурныя фігуры з літага каменя.

Прасторныя, поўныя святла і паветра цэнтральны вестыбюль, зала вучоных, фае актавай залы, гасціная студэнцкага і аспіранцкага інтэрнатаў упрыгожаны творамі выяўленчага мастацтва. У памяшканнях універсітэта развешана каля двух тысяч карцін. Перад уваходам у актавую залу ўстаноўлены 40-метровы барэльеф на тэму «Дружба народаў».

На вышыні 76 метраў ад зямлі на двух вежах паказваюць час найвялікшыя ў свеце гіганцкія гадзіннікі. Кожная стрэлка такога гадзінніка важыць 80 кілограмаў, а даўжыня яе дасягае ледзь не трох метраў.

Вялікія клопаты праявілі партыя і ўрад аб бытавых умовах студэнтаў, аспірантаў, прафесараў, выкладчыкаў. Шэсць тысяч студэнтаў і аспірантаў атрымалі па асобнаму пакою ў жылых карпусах. Пакоі абсталяваны зручнай мэбляй, радыёфікаваны, маюць тэлефоны, душ, кухні, механічныя пральні.

Усё неабходнае ёсць і ў двухстах двух- і чатырохпакаёвых кватэрах для прафесарскага і выкладчыцкага саставу. Не забыты і культурныя патрэбы студэнтаў. Для гэтага тут ёсць выдатны клуб з глядзельнай залай на 800 чалавек, з пакоямі для заняткаў мастацкай самадзейнасці, спартыўны комплекс з плавальным басейнам, шматлікімі заламі, манежам, трэнерскімі кабінетамі.

У моцныя маразы і летнюю спёку ва універсітэце будзе заўсёды аднолькава чыстае паветра і нармальная тэмпература. Гэта забяспечвае ўстаноўленая спецыяльная апаратура для кандыцыяніравання паветра.

Звыш ста хуткіх камфартабельных ліфтаў падымаюць жыхароў дома з хуткасцю 3,5 метра ў секунду з паверха на паверх. Усяго 55 секунд патрабуецца для таго, каб узняцца, напрыклад, на вежу, якая размешчана на вышыні 185 метраў над зямлёй. Кіраўніцтва ліфтамі аўтаматызавана. Кабіны ліфтаў могуць адначасова ўзнімаць тысячу чалавек.

Маскоўскі Палац навукі нельга параўнаць ні з адным памяшканнем навучальных устаноў свету ні па прыгажосці архітэктурных форм, ні па тых зручнасцях, якія тут створаны для вучобы, навуковай работы, творчасці і жыцця студэнтаў, аспірантаў, прафесараў.

Нібы сімвал мірнай стваральнай працы савецкага народа, узвышаецца новы будынак Маскоўскага Дзяржаўнага універсітэта на Ленінскіх горах, знамянуючы сабою веліч эпохі будаўніцтва комунізма.

Гасціная студэнцкага інтэрната.






Мал. Ю. Пучынскага.

**Ігнат ДУБРОЎСКІ**

**Апавяданне**

Ніколі не згаджуся, што ўсё гэта здарылася выпадкова. На тое, каб мне стаяць каля ліцейнага каўша, было ажно дзве прычыны. Адно, што я дужа люблю ліцейную справу, а другое — дружба з Васілём, з якім не хацелася расставацца. Усю рамесніцкую прайшлі, можна сказаць, локаць да локця. Ён — пераростак, а я за яго яшчэ на год старэйшы. Мне ростам не надта ўдалося перагнаць другіх, а Вася ўзяў сваё, выцягнуўся, як сасонка, так што светларусая галава яго з мяккімі валасамі ў стружачку заўсёды маячыла паверх іншых. Я — нізкарослы, і мяне на практыцы ставілі на аббіўку дэталей ад фармовачнага пяску альбо на іншую якую неважнецкую работу. А страх як хацелася метал у формы заліваць!

На практыцы мы былі ўжо не раз, нават на Урал ездзілі. А цяпер выпускная, апошняя, практыка, і адбываць яе даводзіцца якраз на тым заводзе, дзе і працаваць застанемся. Я да сябра свайго, Васі, з просьбай:

— Закінь за мяне слова... Папрасі, каб разам з табой на залііўку паставілі! Я-ж за гэтыя гады трохі падрос.

Наколькі падрос я, Вася добра ведаў і сам. На вушаку нашага пакоя я праз кожныя поўгода ставіў зарубачкі на сваю вышыню. Эх, як хацелася мне быць высокім! Як зайздросціў я Васілю! Але зарубачкі гэтыя шчыльна сядзелі адна каля адной. З гэтага поваду хлопцы жартавалі, што вушак хутчэй расце, чым я. Добра, нічога...

— Папрашу, — паабяцаў Васіль. — Толькі, ведаеш, Сёма, паменш сваёй радасці цялячай на рабоце і каб слухаў мяне з першага слова!

Прышлі мы на новы завод. Гігант! Цэх — як плошча, і ўся гэтая прастора новай тэхнікай абсталявана.

Сустрэў нас стары ліцейшчык з чыста паголеным тварам, шчокі сухія, нос востры з гарбінкай, рот па куточках у маршчынкі сабраўся, з фарфоравай люлечкай-чорцікам у зубах. Чорцік гэты, ашчэрыўшы зубы, смяяўся, і з галавы яго ішоў махорачны дым. На твары старога курца вызначаліся чорныя строгія вочы і добры спакой. Ён папыхкаў, папыхкаў люлькай, узяў за самую бародку свайго чорціка і, выпусціўшы з рота дым, прыязна сказаў:

— Просім у нашу сям'ю, раднёй будзеце.

Хлопцы пасля расказвалі, чаго толькі яны ні ўбачылі ў першы дзень на заводзе! І канвееры, і транспарцёры, і вагранкі, і розныя формы, і дэталі цудоўныя. А мне і тут не пашанцавала ці, лепш сказаць, пашанцавала, ды не ў той бок. Адразу, як у цэх уваходзіш, да фармовачных станкоў трапляеш. Хлопцы паспелі і тыя станкі разглядзець, і ўсю тэхніку, а мне нібы засланіла вочы на ўсё адна фармоўшчыца. На станках гэтых больш дзяўчаты працуюць. Толькі і чуецца, як прэсы ў формах зямлю ўтрамбоўваюць: бух-бух-бух-бух-бух! — нібы тыя дзяўчаты дружна падушкі ўзбіваюць. І вось адна стаіць, такая невысокенькая, майго росту, валасы чубікам над ілбом, бровы чорныя. Усміхнулася нам, галавой кіўнула. І неяк адразу адчуў я нешта такое да гэтай дзяўчыны, што нават адыходзіць ад яе не хацелася...

Падышлі мы да майстра, стаім, а мяне ўсё цягне туды азірнуцца...

А майстар заўважыў мой неспакой і кажа:

— Ты, хлопча, пакуль што сюды глядзі, — папыхкаў люлечкай-чорцікам і дадаў: — Як завуць мяне — чулі? А калі спатрэбіцца прозвішча — Юшчанка, — і ён працягнуў Васілю тоўстую шурпатую руку.

Васіль збянтэжана ўсміхнуўся і не адразу назваў сябе. Упершыню ў жыцці давялося яму называць сябе Васілём Якубавічам Кур'янам. А я не разгубіўся і, жадаючы падкрэсліць, што ліцейная справа мне знаёма, працягнуў руку і выпаліў:

— Сямён Герасімавіч Дораш, ліцейшчык.

— Вось як! Няўжо-ткі спрабаваў ліць? — усміхнуўся Юшчанка і, звёўшы калматыя шэрыя бровы, уставіўся на мяне.

— А як-жа, — кажу, — нашы дэталі ва уральскія машыны пастаўлены.

У Васіля адразу апаў настрой, ён кінуў калючы позірк на мяне, непрыкметна, але рэзка тузануў за рукаў, а Юшчанку растлумачыў:

— Мы там, на Урале, Адам Лук'янавіч, першую практыку адбывалі.

— Пабачым, як у вас уральскі клёк трымаецца будзе, пабачым, — сцісну́ўшы зубамі люльку, працадзіў Адам Лук'янавіч і, змяніўшы голас на сур'ёзны, уладна скамандаваў: — Бярыцеся за коўш!

Мы нацягнулі брызентавыя рукавіцы, узяліся за рычагі каўша, падвешанага на рэйцы, і пагадналі яго да вагранкі. Эх, з якой радасцю глядзеў я, як жоўты расплаўлены чыгун цяжкім струменем хлынуў у коўш, абдаўшы нам твары прыемным цяплом!

Цяжкі, напоўнены коўш падагналі мы да канвеера і чакаем, пакуль падпаўзе форма. Васіль хвалюецца, на мяне пазірае, а мне непрыемна, што з-за мяне неспакой гэты. Я настрыўся, сачу за канвеерам, думаю, каб на першы пачатак справы не сапсаваць, не падвесці і сябра, што слова за мяне закінуў. Сарвешся — тады ўсё, станавіся на аббіўку. А тут яшчэ Адам Лук'янавіч наставіў свайго чорціка на нас і сам вачэй не зводзіць, кожны рух на прыцэле трымае. Тым часам падпаўзла і форма. Тут ужо і я занепакоіўся. Стаў рыхтавацца, ямчэй нагамі на месцы ўпёрся, за рычагі ўчапіўся. А падвешаны коўш зазыбаўся, захадзіў убакі, нібы не хацеў нам скарыцца.

— Цішэй, Сёма! Спакойна. Ну, давай! — шапнуў мне Васіль і ўзяўся накіроўваць коўш, нацэльваючы чайнік на чорную дзірачку літніка. Чаго мне захацелася ў гэтую хвіліну, — кінуць вокам на тую фармоўшчыцу, зірнуць, ці глядзіць яна на мяне. Якраз у гэты момант я і спатыкнуўся. Добра, што да мяне спрытна, як малады, падскочыў Адам Лук'янавіч, падхапіў пад локаць і выраўняў. Усё-ж, падаючы, я збіў коўш, і метал шырокім агністым языком лізнуў па паверхні формы, плёхнуўся на пясок, не трапіўшы ў літнік.

— Што-ж ты, Сямён Герасімавіч? На выгляд прыткі хлапчына, а збіўся? У нашай справе галоўнае, сынку, каб каленкі не дрыжэлі, — сказаў стары з дакорам і паказаў, як трэба нахіляць коўш.

— Гэта ў мяне нешта пад падэшву трапіла, драбок нейкі круглы... пакаўзнуўся, — стараючыся не губляцца, адказаў я і шапнуў Васілю: — Давай, Вася, у наступную!

— Ціха! — грозна кінуў Васіль.

І тут ужо, бачу, Вася мой перастаў хвалявацца. Значыць, злосць даняла. Я моцна сціснуў ручкі рычага і стаў скіроўваць коўш. З чайніка маланкай ударыла агністая страла і акуратна трапіла ў чорнае вочка літніка. Праз хвіліну метал дымком закурыўся на паверхні формы.

— Гатова! Добра! — спакойна сказаў Юшчанка.

Ах, Вася мой, Вася! Кінуў-бы я, здаецца, коўш ад радасці і расцалаваў-бы цябе. У гэты момант я паверыў, што і з мяне выйдзе ліцейшчык.

Потым Юшчанка сам узяўся за ручкі каўша, і я адразу ўлавіў, як Адам Лук'янавіч скіроўвае коўш, падводзіць да формы на канвееры. І ў самы момант, калі трэба чайнік каўша на літнік нацэльваць, коўш нібы выпадае з рук Юшчанкі. Трымаць-то ён трымае ручку рычага дзеля прыліку, але больш каўшом не кіруе. Выпрабоўвае, як спраўлюся.

— Спакойна, хлопча, не скачы ты як тарэадор перад быком, — вучыць стары і дапамагае скіроўваць коўш, а потым доўга тлумачыць, як трэба нахіляць.

У Васіля спрытней выходзіць, ён адразу бярэ коўш пад сваю ўладу, нацэльваецца і трапляе ў літнік.



— Мастак ты ў мяне, мастак! — не выпускаючы люлькі з зубоў, хваліць Адам Лук'янавіч Васіля.

Праўду сказаць, цярплівы чалавек Адам Лук'янавіч. Так клапатліва няньчыўся ён з намі тыдні два, усё тлумачыў, паказваў, як трэба рабіць. Тут-бы мне як след і ўзяцца за вучобу, дык-жа не! Страх нейкі на мяне напаў, што Жэню, маю дзяўчыну, возьме хто ды адаб'е. Вось гэта і была мая дурасць... Цяпер я разумею, не так-бы мне гэтую дзяўчыну заваёўваць. Сябе трэба было перад усім цэхам паказаць, які я работнік ёсць, які чалавек. А я замест гэтага з нецярплівасцю, бывала, чакаю гудка на абед, каб прайсціся міма фармовачных станкоў, жартачкі падпусціць дзяўчатам. Фармоўшчыцы ўсяго месяцы на два раней за нас на завод прышлі, а пераходны сцяжок ужо каля іх брыгады стаіць. Праходзячы аднойчы ля сцяжка, я ўзяўся за дрэўка і пажартаваў:

— Слабавата ён у вас трымаецца. Глядзіце, дзяўчаткі, каб мы не забралі яго!

— Ого, знайшоўся! — адазвалася Жэня. — Падрасці, хлопча, крыху, а то не дацягнешся. Хочаце сцяжок, дык трэба па-чэснаму, на спаборніцтва!

— А чаго-ж! Мы-ж не гвалтам, — кажу я, — збіраемся ўзяць.

Паклікаў я хлопцаў. Дзяўчаты сабраліся. І Жэня сярод іх. Цяпер дык і мне да розуму дайшло, што тады Адаму Лук'янавічу быць-бы нашым прадстаўніком і першае слова трымаць. Ну, ужо на крайні выпадак — Васілю, ён-жа за старшага быў у нашай групе. Але нейкая сіла пацягнула мяне за язык. Выходжу наперад, працягваю руку Жэні і кажу:

— Па дзве нормы ў дзень!

— А хоць па колькі, вам больш пацець, — адказвае яна, усміхаецца, а далоні маёй не выпускае. І я трымаю яе цёплую мяккую руку. І прыемна мне так, што ажно ў цэху неяк святочна зрабілася.

Адам Лук'янавіч стаіць сабе гэтак збоку, люлькай папыхквае.

— Слаўныя вы, — кажа, — дзяўчаты і хлопцы, але толькі на першы пачатак не дзве нормы бярыце, а хоць-бы паўтары. Лепш менш дакляруй, ды больш падаруй!

Згадзіліся пакуль што на паўтары. Спаборнічаем. Змагаемся.

Аднойчы падыходжу я да Жэні, а яна мне па-сталаму:

— Ты, — кажа, — Сёма, чаго так спяшаешся? Вось я збоку наглядаю за тваёй працай, ты-б спакайней трошкі ды больш сур'ёзна.

— А-а-а! Ты, відаць, баішся, каб я пяршынства не ўзяў?

— Нада мной табе пяршынства ніколі не мець. Хочаш — дык толькі раўнёй!

Ну, думаю, што-ж, сказана добра. Не такі нездагадлівы я, каб не зразумець, на якую роўнасць намякае дзяўчына.

Так вось праходзіў дзень за днём. А тым часам і палучка падаспела. Першыя зароблены грошы! Ад касы я накіраваўся на пошту; частку маці адаслаў, а на другую, думаю, касцюм трэба заказаць.

Пасля работы мы пайшлі ў кравецкую майстэрню, што пры заводзе. Пераступілі парог, а там поўна дзяўчат, усе ў сініх халатах і белых касынках. Вася мой тут разгубіўся, а я зняў кепку і на ўвесь голас:

— Добры вечар, мадзісткі! Ой-ёй-ёй, колькі-ж вас, і ўсе як адна, быццам адна мама нарадзіла!

Дзяўчаты засмяяліся, перакінуліся хітраватымі позіркамі.

Падышла загадчыца, пажылая жанчына з высокай прычоскай з сівізной, змерала нас з ног да галавы маленькімі ўсмешлівымі вачыма, спытала, што трэба, і ўважлівым позіркам пашукала кагосьці сярод сваіх дзяўчат.

— Вера, ідзі, твая чарга! — паклікала яна.

З-за машыны ўстала стройная, рослая дзяўчына з метрам-істужкай на шыі і нячутна, у мяккіх тапачках, падышла да Васіля. Павярнула яго за плечы сюды-туды, нібы ў салдаты вызначала, абхапіла яго грудзі метрам, сагнула руку ў локці, таксама памерала. І ўсё крадком на яго твар, на светлыя кучаравыя валасы пазірае. А шчокі, прыкмячаю, у дзяўчыны ірдзець пачынаюць. І дзяўчына нішто сабе. Блакітныя вочы, круглы лоб, ружовы, дужкай рот і востранькі падбародак. Словам — пралеска. Тут-бы што-небудзь вясёлае ёй сказаць, а Вася мой стаіць, доўгі, як жэрдка, шырокі падбародак угору задраўшы, анямеў і ні слова. А потым яна і з мяне мерку браць узялася.

— Мне, золатка, навырост, я крыху падцягнуцца збіраюся, — стаўшы на цыпачкі, закінуў я жарт у карысць Васіля.

— Дай-жа божа, каб вырас! — стрымана адказала Вера.

— А калі касцюмы будуць гатовы? — пытаю.

— На прымерку праз тыдзень, а гатовы будуць у канцы месяца.

— Ой, золатка, так увесь май і праляціць, бэз адцвіце, усе дзяўчаты замуж павыходзяць. А ці нельга раней, па знаёмству?

— Якое-ж у нас знаёмства?

— Знаёмства можна наладзіць, — вачыма паказваю ёй на Васіля. — Абы хутка касцюм быў. Ну, бывайце здаровенькі! — пакланіўся я, ушчапіўшы кепку на чуб, узяў пад казырок, і пад вясёлы смех дзяўчат мы вышлі з майстэрні. Зірнуў я на Васю, а ў яго пот на ілбе расой стаіць і твар невясёлы.

— Што ты засумаваў, Вася? Смялей-бы трохі з іхнім братам... Спытаў-бы, напрыклад, якімі сцежкамі-дарожкамі дахаты ходзіць...

— З тваёй весялосцю не ў ліцейшчыкі, а ў цырк ісці, — адказаў ён злосна і змоўк.

На рабоце Васіль і смелы, і спрытны. І з дзяўчатамі мог іншы раз пажартаваць. А тут перад Верай чамусьці разгубіўся. Прыкмета найлепшая. І мне гэта наруку. Можа перастане мяне за Жэню дакараць.

І на прымерцы пабывалі, і касцюмы забралі, а Васіль так і не перамог сваёй сарамлівасці. Праўда, цяпер я разумею, яму не да таго было. У цэху паставілі новы канвеер для адліўкі цяжкіх дэталей і перавялі да яго Адама Лук'янавіча — асвойваць. Мы з Васілём засталіся працаваць удваіх, амаль што зусім самастойна, зрэдку толькі заглядваў Юшчанка, дапамагаў.

У дзяўчат выпрацоўка ўсё ўгору ідзе, а ў нас без Адама Лук'янавіча захісталася і каторы дзень ні з месца. Затое, здаецца, мае адносіны з Жэняй наладзіліся. Сёння нававжыўся яе дадому праводзіць. Калі скончылася работа, я вышаў следам за ёю з цэха. Не пярэчыць, ідзем побач, гамонім, спытаў дзе жыве — расказала. Потым просіць мяне:

— Ты, Сёма, пачакай тут, а я забягу на хвіліначку, — і пабегла ў невялічкі белы домік. Вокны такія ўверсе поўкругам, з блакітнымі рамамі. Установа — не ўстанова, і на жылы дом не зусім падобна. Зірнуў угору — шыльда над ганкам: «Дзіцячыя яслі». Што ёй тут, думаю, трэба? Выходзіць адтуль Жэня... — родныя мае!.. — на руках у яе дзіцё... Маленькае, поўгода, не больш, з сосачкай-пустышкай у роце, у губках ружовенькае колца ўздрыгвае. У вачах маіх закружылася ўсё. Домік расплыўся, як у тумане, зямля з-пад ног кудысьці папаўзла.

— Сёма, хвіліначку патрымай, — звяртаецца да мяне Жэня. — Толькі-ж асцярожна! Я яму ножкі папраўлю. Спі, мой малюсенькі, спі. Дамоўкі пойдзем, — супакойвае яна малое. А яно пакрэхтвае, варушыцца ў мяне на руках, ножкамі дрыгае.

Трымаю я гэты цёплы камячок не сваімі рукамі, ледзь стаю на нагах, баюся, каб ён не хруснуў, як шкелца. А сэрца заходзіцца болем. У Жэні дзіцё! Што-ж гэта?

Дайшлі мы з ёй моўчкі да павароткі, яна зірнула на мяне, як мне здалося, насмешліва і толькі сказала:

— Мне сюды, — павярнула на другую вуліцу і пайшла.

Цэлы вечар я прашвэндаўся па парку і па лесе. Прышоў — Вася спіць. Устаў назаўтра, а з галавы не выходзіць Жэня з дзіцем на руках. І чаму мне так у жыцці не шанцуе?...

— Нешта ты, Сямён, нягеглы сёння, — сказаў Васіль. — Прывалачыўся позна. Глядзі, брат, не туды кірунак бярэш. Слова мне даў, дык трымай яго.

Сёння я і ў той бок не павярнуўся, дзе Жэня працуе. А Васіль, як на злосць, усё папракаў:

— Кінь ты заглядацца! Псуеш дэталі, ды і годзе. Не можаш, дык ідзі да яе апокі падносіць.

У абедзенны перапынак падыходзіць да мяне Жэня сама і з такой спакойнай усмешкай кажа:

— За сцяжком гонiцеся, а на брак перайшлі амаль цалкам?

— Дзе ты бачыла брак?

— А ты не бачыў? Ну, то ўбачыш, пачакай! — дакорліва сказала яна і пайшла.

Пасля перапынку ўзяліся мы за коўш і толькі падагналі яго да канвеера, бачым — побач з формай нейкія чарапы чыгунныя ляжаць. Я адразу пазнаў нашу дэталь, якую сапсавалі сёння раніцай. Васіль злосна ўдарыў гамашам па дэталі, і яна са звонам зляцела з канвеера. Але побач з другой формай зноў плыла сапсаваная дэталь. А далей мы ўбачылі трэцюю, чацвертую... І, як заўсёды бывае ў такую часіну, падышоў Адам Лук'янавіч, які, відаць, прыкмеціў нашу збянтэжанасць.

— Што гэта? — строга ўставіўся ён на Васю.

— Гэта Жэня, мусіць, падстроіла, — не то што ў апраўданне, а само неяк вырвалася ў мяне.

Так, гэта-такі падстроіла яна з дзяўчатамі-фармоўшчыцамі. Сабрала ўвесь наш брак і паклала на канвеер за кожнай формай. Вось дык пачаставала! На ўвесь завод ганьба!

Дачакаўся гудка і, каб ні з кім не спаткацца, вышмыгнуў з цэха — і дамоў. Прышоў — і адразу ў пасцель. Ляжу, ніяк не магу апамятацца ад усяго, што здарылася. Чую — крокі. Думаю, мусіць, Васіль з хлопцамі ідзе. Я — галаву пад падушку і чакаю — будзе зараз лазня... Ну што-ж, вінават. Вася, цярплівы дружбак мой, маю бяду заўсёды дзяліў са мной папалам, ды неяк выходзіла так, што больш цяжкая частка яе прыпадала табе! І сёння Адам Лук'янавіч за брак накінуўся не на мяне, а на яго. Васілю першаму чырванець прышлося.

Хтосьці цяжкі прысеў на край майго ложка, узяў мяне за плячо.

— Вінават, — кажу я, — Вася. Не стрымаў слова, дружбу не захаваў. І ўсё гэта праз дзіця...

— Якое дзіця? — пачуўся здзіўлены грубаваты голас.

— Я павярнуўся, — а нада мною фарфоравы чорцік, ашчэрыўшы зубы, смяецца і дыміць. Браточкі, ды гэта-ж сам Адам Лук'янавіч! Твар яго спакойны, спагадлівы, а побач з ім Васіль стаіць.

— Якое, — зноў пытае, — дзіця? Эх, ты, Сямён, Сямён, дзіцяці спудзіўся і зрокся дзяўчыны. А сёння нават браку нарабіў... — папракнуў мяне Юшчанка.

— Не зрокся. І з дзіцем магу ўзяць, калі ласка. Яшчэ як няньчыць буду. Толькі...

— Дык чаго-ж, бяры!

— ... Толькі мужа куды яна дзене. Муж, напэўна, ёсць. Кахае яго, а не мяне, — адкрыта сказаў я аб тым, чаго гэтак баяўся.

— За гэта ты, Сёма, маладзец, што і з дзіцем дзяўчыну браць рашаешся. Значыць, па сэрцу прышлася. Толькі, на жаль, табе самому прыдзецца дзяцей нажываць, бо ў Жэні ні дзіцяці, ні мужа. Гэта — сястрын хлопчык, пляменнік яе.

— Праўда?!. Адам Лук'янавіч! — не стрымаўся я і ледзь не кінуўся старому на шыю.

— Словам, даскакаўся, праславіўся, нечага сказаць! — папракнуў Васіль.

— І ты, Вася, вінаваты, — папракнуў яго Адам Лук'янавіч. — Няладная дружба ў вас, дуплістая. Усё ты Сямёну патакаеш, пакрываеш яго недахопы, а вось Жэня не даравала яму. І добра зрабіла. Што ты вясёлы, Сямён, гэта добра. Жыць трэба весела. І кахай, брат, колькі сэрца просіць, і весяліся, аднаго не забывай, дружа, што на нашым вяку камунізм бу-ду-ец-ца, што мы — рабочы клас. А гэта — галоўнае ў нашым жыцці. Забудзеш аб гэтым — і нікому твая весялосць не трэба. Вось Жэня табе і нагадала аб гэтым. — І Адам Лук'янавіч устаў, падышоў да акна і выбіў сваю фарфоравую люлечку аб падаконнік.

— Я таксама цярпець твайго блазенства больш не буду, спуску не дам! — заявіў Васіль такім рашучым тонам, якога раней ад яго я не чуў.

— Добра, — кажу, — я зразумеў цяпер усё. Ты мне спуску не давай, Вася. А я старацца буду, сур'ёзна за работу вазьмуся.

Назаўтра сустрэліся мы з Жэняй у цэху. Усміхнулася яна і пытае:

— Ці праўду кажуць, з таго ў цябе рукі на рабоце дрыжэлі, што дзіця чужое патрымаў? А калі рукі дрыжаць, то напэўна брак будзе.

— Жэня, я табе ўсё раскажу, толькі пачакай, сцяжок раней заваюем.

— Баюся, што доўга чакаць прыдзецца. Сёма, Сёма... — паківала дакорліва галавой і пайшла да станка.

Вечарамі мы з Васілём, як параіў нам Адам Лук'янавіч, за вучобу ўзяліся. Бралі вядро, увязвалі яго між двух пераплёцін, накладалі каменняў, каб цяжэйшым было, і, наліўшы вады, практыкаваліся ў прысадніку. Васіль толькі сачыў, як я кірую каўшом, як нахіляю яго, выліваючы ваду ў падрыхтаваную ямачку ў зямлі. Тут я мог памыляцца, колькі ўлезе, — вады не шкада і браку не будзе. Затое кожную памылку можна было, як кажуць, па костачках разабраць.

Перад самым выпускам сцяжок мы ўсё-ж адваявалі.

Выпуск наш святкавалі ў клубе завода. Сабралася шмат моладзі. Бачу — Жэня з Верай у зале побач сядзяць. Васіля запрасілі ў прэзідыум. Давялося яму і выступіць. У сваёй прамове ён расказаў аб усім: як стары ліцейшчык Адам Лук'янавіч нас вучыў, як з вядра мы разлівалі ваду ў ямачкі. У зале весела смяяліся, а я сядзеў, як на вуголлях, і думаў: пацягне яго за язык, дык яшчэ і пра дзіцё раскажа.

Вера заўзята пляскала ў далоні, калі скончыў Васіль, і ўсё штосьці Жэні на вуха шаптала.

Пасля ў парку было гулянне. Народу сабралася шмат, і, пакуль я дачакаўся Васіля, дзяўчаты нашы зніклі. Шукай іх цяпер! Васіль мой трошкі нават пакрыўдзіўся на мяне, што я не змог упільнаваць іх.

Мы вышлі на дарожку, абапал якой стаялі партрэты стаханаўцаў, і тут-жа ўбачылі Жэню з Верай. Яны трымалі пад руку Адама Лук'янавіча і глядзелі на вялікі партрэт Васіля. Кучаравы мой сябра на партрэце здаваўся задуменным і важным.

— А вось ён і сам, жывы, яшчэ лепшы, — сказаў Адам Лук'янавіч. — Знаёмцеся, мая дачка! — з гонарам паказаў ён на Веру.

— А мы знаёмы, — адказала яна бацьку, зірнула на Васіля вострымі, прыжмуранымі вачыма, нібы папракнула яго, і зморшчыла губы ў хітраватай, але цёплай усмешцы. Васіль смела падышоў да яе і ўзяў пад руку.

Мы запрасілі дзяўчат і Адама Лук'янавіча на веранду рэстарана, каб адсвяткаваць першую перамогу. Першы тост падняў сам Юшчанка.

— Мы, металісты, — сказаў ён, — робім усё з агню і сталі. Самі мы ўсімі агнямі гартаваныя. Вось такімі будзьце і вы ў рабоце, у дружбе вашай і ў каханні.

Жэня весела ўсміхнулася мне, Вася пераглянуўся з Верай, і мне стала прыемна і радасна, што ўсё наладзілася, што шчасце маё — Жэня — са мною, і што сцяжок пераходны на нашым стэндзе, і што Вера радасна глядзіць на лепшага сябра майго Васіля, і што разам з намі добры, клапатлівы Адам Лук'янавіч.

Пятрусь МАКАЛЬ

# Вершы

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Я помню нашу першую сустрэчу...
Не ў людным зале выпала ёй быць.
Паклапаціўся добры летні вечар
Над роснымі лугамі зоркі запаліць.
Нас вецярок вітаў паветам свежым
На беразе бяссоннае ракі.

І асвятляў касцёр агнём начлежным
Пацёртай кнігі родныя радкі.
К нам, пастушкам,
Цераз граніцу прама
Ты песняю свабоднаю прышоў,
Нібы зара,
Якая гэтаксама
Не ведае граніц і рубяжоў.
І чулі мы, як граў Сымон-музыка,
Як гаманілі струны пад смыком...

Пясняр любімы,
Ты да шчасця клікаў
Сваім прызыўным песенным радком!
Усход шляхі мне азарыў як сыну
І сцёр рубеж між намі і табой.
За гэта шчасце
Грозную часіну
З тваёю песняй я хадзіў у бой.
Ты і сягоння крочыш з намі першым,
Хоць скроні ўжо твае ў сівізне,
Ды век звінець тваім бяссмертным вершам:
Іх сівізна ніколі не кране!
Ці засяваю я палі вясною,
Ці рупна цэглу ў новы мур кладу, —
Я неразлучна з песняю тваёю
Гаспадаром
У комунізм іду.

## СЫН ПРЫЕХАЎ У ГОСЦІ

Сын прыехаў у госці,
У родны дом, да бацькоў,
Да сяброў маладосці,
Да сваіх землякоў.
Да заранак прыгожых,
Што гукаюць у даль,
Да шумлівага збожжа
І да нёманскіх хваль.
Тут калісь па загонах
Ён за статкам блукаў,
Спеў жалейкі ягонай
Лісці дрэў калыхаў.
Праз палоскі, разоры
Тая сцежка ішла,
Да жабрацтва, да торбы
Тая сцежка вяла.
А сягоння ...Сягоння
Поле зрокам акінь,
Коцяць жытнія гоні
Хвалі ў далячынь.

На палетку ўраджайным
Збажына, збажына...
Самаходных камбайнаў
Шумна просіць яна.
Звоняць хвалі бясконца.
Між іх хлопец ідзе, —
Гэта сцежка да сонца
І да шчасця вядзе.
Па бязмежнай прасторы
Яна йдзе да сяла.
У інстытут яна, ў горад
Юнака прывяла.
Ён прыехаў у госці,
У родны дом, да бацькоў,
Да сваёй маладосці,
Да сваіх дружбакоў.
Толькі год яшчэ пройдзе,
Ён не ў госці тады —
Аграномам прыедзе
У свой калгас назаўжды.

## МАЕ КАНІКУЛЫ

На канікулы
Ішоў я ў вёску
Сцежкай праз густую сенажаць.
З кнігаю любімай пад бярозкай
Марыў я ў спякоту палянжаць...
Удыхаў грудзямі пахі кветак —
Пахі аксамітных мурагоў.
Думаў, што наведаю за лета
З усяго раёна дружбакоў.
Гэтак марыў... Але толькі дома
Здарылася крыху па-другому.
Ледзь кранулі слых касілак гукі,
І мяне ў пакоі не ўтрымаць:
Лейцы сырамятныя — у рукі
І гайда к сябрам на сенажаць.

Там, касілку асядлаўшы жвава,
Лейцы тыя шчасны я трымаў.
І плылі, плылі насустрач травы —
Цэлы акіян зялёных траў.
Спелых каласоў узняўся гоман
Гэтак, што пачула ўсё сяло.
І ізноў не мог я ўседзець дома,
Бо спакою ў сэрцы не было.
Са жняяркай
Пад спякотным сонцам
Я нырaў між хваль жытоў бясконцых.
А пасля — снапы да малатарні,
Збожжа — на калгасны грузавік.
Можа і не быў з мяне ўдарнік,
Але ўсё-ж — нядрэнны працаўнік.

## НЕЧАКАНАЕ ПЫТАННЕ

Да цябе — да агранома —
Меў пытанні я не раз...
І заўсёды, як вядома,
Ты давала мне адказ.
А цяпер чамусь адразу
Не даеш свайго адказу.
Кажаш ты, сягоння хопіць,
Моў, пара ўжо канчаць,
Моў, з такім пытаннем, хлопец,

Трэба крышку пачакаць.
Пры растанні, як звычайна,
Паціскаеш мне руку
Гэтак спешна і нядбайна,
Бы малому хлапчуку.
Поўны горкага адчаю
Пакідаю я твой дом.
Эх, нічога ты не знаеш,
А яшчэ і аграном!

## У ДАРОГУ

Яшчэ ў вачах гарыць святло нядаўніх
Хвалюючых і незабыўных дзён.
Былы студэнт,
А сёння ўжо настаўнік,
З сям'ёй сяброў развітваецца ён...
Задумліва ты паглядзіш удалеч,
З таварышамі стаўшы ля дзвярэй.
Здаецца н'ат нябёсы вышай сталі
І далягляд — празрысцей і шырэй.
Ты прыгадаеш блізкіх і знаёмых,
З якімі быў сяброўствам злучан тут.
Паедзеш ты
З пуцёўкаю — дыпломам,
Які табе ўручае інстытут.
І кожны сёння шчыра і з прыветам
Табе руку паціcне, нібы брат,

І Сталін —
Як настаўнік твой —
З партрэта
Зірне з усмешкай:
Шчасцю твайму рад.

А за акном шуміць чароўны ліпень,
Дамы фарбуе сонечным агнём.
Здаецца, шумам лісцяў нават ліпы
Выпускніка вітаюць з гэтым днём.
У дарогу, друг!
Цябе чакаюць дзеці
І для цябе ўжо кветкі рвуць яны...
У дарогу, друг,
Дзе незгасальна свеціць
Праменні маладосці і вясны!

І. НАЎМЕНКА

# Новы далягляд

Нарыс

Старая сельпоўская аўтамашына бяжыць па лясной дарозе ў кірунку вёскі Дубровы. Дзве дзяўчыны пытаюць у хлопца, які сядзіць з імі ў кузаве:

— Вы да Заходаў?

— Бліжэй, да Чкалава. Хутка паварот, там я злезу.

— Даўно дома не былі?

— Тры гады, — ахвотна ўступае ў размову хлопец. — Я трактарыстам у Чкалаве быў. Пасля ў школу механізатараў паехаў, а потым на Далёкім Усходзе прышлося працаваць.

Лес скончыўся, пайшло невысокае разналессе. Дзесьці збоку гудзеў трактар. Праз хвіліну дарога збочыла, і тады стала відаць, як гусенічны трактар, упрогшыся ў незвычайных памераў плуг, нібы злізвае нейкім жалезным языком каравыя бярэзіны і вольхі. Твар у хлопца пасвятлеў:

— Ого, такога я яшчэ не бачыў!

— Кустарэз, — сказала дзяўчына. — Па дрыгве каля Заходаў, можа вадаеце, дзе летась асіннік быў, такое проса вырасла!..

Машына ўжо бяжыць па мяккай пясчанай дарозе. У кузаве цячэ жывая гутарка. Хлопец пытае і расказвае, вочы яго гарэць радасцю блізкай сустрэчы з роднымі, знаёмымі людзьмі. Вось і паварот на Чкалава. Хлопец спрытна саскочыў з машыны, падзякаваў шафёру...

За пясчаным узгоркам, за якінебудзь кіламетр, яго родная вёска. Усё тут блізкае, знаёмае, дарагое — і гэты сасоннік, які прыкметна падрос за тры гады яго адсутнасці, і тыя дубы з буслянінамі, што ўзвышаюцца ўдалечыні, і гэтая крывая дарога...

Заходзіла сонца, знікаючы вялізным чырвоным шарам за лесам. З-за сасонніку вышаў вялікі статак. Пастух, ляскаючы даўжэзнай пугай, падганяў адстаўшую карову.

«Хто-ж гэта?» — падумаў хлопец і адразу пазнаў старога Антона Юдзенку, якога ведаў пастухом з самага маленства. Хлопец падышоў і прывітаўся.

— Чый-жа ты будзеш? — запытаў пастух, углядаючыся ў твар юнака. — Ці не Іваноўскага Пятра сын Павел?

— Адгадалі, дзядзька!

— Гэта-ж ты, здаецца, са сваім братам на трактары працаваў?

— Працаваў, а цяпер вось еду з Далёкага Усходу.

— Дык хто-ж ты цяпер?

— Быў трактарыстам, стаў шафёрам. — Хлопец усміхнуўся. — Працаваў механікам таксама.

Ля самай вёскі, дзе раней на ўсю моц гулялі жоўтыя сыпучыя пяскі, пагражаючы калгасным агародам, Павел заўважыў новае, нябачанае раней: пясчаныя ўзгоркі былі роўна засаджаны лазою. Зялёныя кусцікі, відаць, увайшлі ў сілу, бо паміж імі на пяску густой шчоткай прабіваўся пырнік.

— Цякуць гады, як вада! — разважаў пастух, ідучы побач з Паўлам. — Ці даўно вось і ты падшывальцам быў, у агарод лазіў за гуркамі ды морквай, а цяпер, бачыш, і трактарыст ужо і шафёр. Машыны разумееш! Не ўгледзіш, як людзі растуць!

Сонца ўжо схавалася за дахамі хат, і на зямлю павольна спускаўся мяккі сіняваты змрок. З боку тарфянікаў павеяла вільготнай свежасцю. У лозах за канавай зацягнуў сваю драўляную песню драч. Дзесьці далёка звінелі званочкі табуна коней на начлезе...

— А я ўсё на месцы, — гаварыў пастух. — Дваццаць гадоў з адной спецыяльнасцю, — і ён паказаў на сваю пугу. — Усё не выпускаю яе з рук..

Вялізны чорны бугай, які ішоў у статку, раптам спыніўся, панюхаў зямлю і пачаў капытом злосна капаць дол. Ён соп, грозна вадзіў тоўстай шыяй. Каровы, стараючыся яго абыйсці, крыху сцішылі рух.

— Вось я табе, ваяка! — крыкнуў пастух і, у адзін момант апынуўшыся каля бугая, сцебануў яго пугай.

Бугай, нездаволена чмыхнуўшы, павольна рушыў наперад.

Павел аж засмяяўся, гледзячы, з якім спрытам стары пастух навёў парадак сярод сваіх рагатых падначаленых.

— Багата, брат, усякіх прафесій паявілася ў нашым калгасе зараз, — гаварыў пастух далей. — Тут табе і трактарысты, і шафёры, і механікі па розных справах. І ўсё мала! Быў я неяк на праўленні, дык вычытвалі, каму на якія курсы ехаць. Я аж рот разявіў, як пачуў. Пасылалі на манцёраў вучыцца, і на гэтых... якія радыё ўстанаўліваюць. Дзяўчат і тых пасылалі вучыцца, як малако пераганяць і як дзяцей у яслях няньчыць.

Дык вось, аднаго разу прыходжу я да нашага старшыні ды і пытаю, ці не перавядзе ён і мяне на якую-небудзь іншую работу. Хопіць, моў, пугай ляскаць. «Здароўем, — пытае, — слабы стаў? Калі так, — кажа, — то перавядзем цябе вартаўніком агароду». Ну, вядома, вераб'ёў пужаць ды з бабамі гуркі палоць я не згадзіўся. Яшчэ трохі сілы маецца. А старшыня засмяяўся ды і кажа: «Ты ў нас, дзядзька Антон, незамяніўмы чалавек. Няма табе ў тваёй рабоце роўных. Нездарма-ж табе калгас дваццаць пяць працадзён кожны месяц налічвае». Ды і запісаў мяне на курсы, якія ў нашым калгасе заатэхнік Хрушчанка праводзіць. Дык вось я дзве зімы і хаджу на гэтыя самыя курсы... Вучуся на старасці год. А праўленне, што праўда, то праўда, шануе мяне, два разы прэмію давалі. Брыгадзір Закружны, ты-ж ведаеш яго, пасмяяцца любіць, дык нават прапанову выносіў, каб матацыкл мне купіць. «Будзе табе, — кажа, — наўм ім спадручней за цёлкамі ганяцца...»

Статак уцягваўся ў вуліцу. Толькі тут Павел заўважыў, што жывёлы многа. Каровы, ідучы шчыльна адна пры адной, занялі ўсю вуліцу. «Галоў, мусіць, шэсцьсот, — у думках прыкінуў Павел. — Нездарма дзяўчат на курсы пасылаюць». Ён крыху адстаў ад статку, бо з-за пылу нельга было разгледзець вуліцу. Яна была но-

**Маладыя калгасныя спецыялісты** (злева направа): **электрамеханік Анатоль Рыбак, трактарыст Ігнат Бочка, старшыня калгаса Павел Кліменцьевіч Рыбак, трактарысты Павел Іваноўскі і Мікалай Заяц.**



вая. Калі ад'язджаў на вучобу — гэтай вуліцы яшчэ не было. Хаты цяпер лепшыя, чым тыя, якія будаваліся адразу пасля вайны. Амаль пасярэдзіне вуліцы стаяў вялікі дом. На ганку Павел убачыў старога акушэра Напалеона Гадлеўскага. У двор, пабраўшыся за рукі, уваходзілі дзеці. Яны неслі вянкі з палявых кветак... Вяла іх Надзя Юдзенка. «Яслі»,— здагадаўся Павел. Акушэр сышоў з ганка і пачаў размаўляць з Надзяй наконт нейкіх прывівак.

Убачыўшы сівую галаву Напалеона Гадлеўскага, Павел пасвятлеў. Стары акушэр даводзіўся «бабкай» шмат каму з паўлавых аднагодкаў. Іх звалі тады «напалеонавымі хрэснікамі».

Павел ішоў па вуліцы і вітаўся з калгаснікамі. На душы яго было радасна, але разам з гэтым ён адчуваў лёгкі непакой. Было ўжо амаль цёмна. Раптам вуліца залілася святлом, і вёска паўстала зусім у новым выглядзе. Яна шмат змянілася: больш стала будынкаў, ды і самыя будынкі неяк папрыгажэлі. На плошчы ўзвышаліся два вялікія дамы, якіх Павел яшчэ не бачыў. Адзін быў абсаджаны дрэвамі і абгароджаны, другі, размешчаны на ўзгорку, зіркаў яркім святлом з усіх вокнаў. «Школа і клуб», — сказалі Паўлу. Некалькі новых будынкаў налічыў ён і на грамадскіх фермах; па высокай трубе здагадаўся, дзе размешчан млын і дзе электрастанцыя.

«Як многа яны набудавалі!» — думаў хлопец, падыходзячы да свайго двара. З пісьмаў ён ведаў і пра электрастанцыю, і пра млын, і пра радыёвузел, але толькі цяпер па-сапраўднаму зразумеў, як многа значыць усё гэта для яго вёскі.

...Назаўтра быў ясны, пагожы дзень. Павел спаў доўга: калі прачнуўся — сонца стаяла ўжо высока. Паснедаўшы, пайшоў на калгасны двор. Яго брат Сяргей запраўляў свой «ДТ». Каля другога трактара корпаўся Анатоль Юдзенка з незнаёмым Паўлу трактарыстам. Механізатары сустрэлі Паўла, як свайго.

— У нас цяпер чатыры трактары, цэлая брыгада працуе, — расказваў Паўлу Анатоль Юдзенка.— Тры чвэрці ўсіх палявых работ на нашых плячах. Не толькі арэм, сеем, як раней, але і сена косім, і сілос нарыхтоўваем. Камбайн ёсць, чатыры трактарныя касілкі, сіласарэзка. Багата, брат, тэхнікі!..

— А чаго-ж так позна на работу?

— Дыслакацыю мяняем. Ведаеш Клімаву граду? Туды едзем. Залеж там, цаліна...

Хлопцы ахвотна расказвалі Паўлу пра ўсе важныя падзеі, што адбыліся ў калгасе і МТС за гэтыя тры гады. Падзей было багата. Павел даведаўся, што тэхнікі ў МТС цяпер разы ў тры больш супроць ранейшага і што тэхніка амаль уся новая. Ёсць зараз кустарэзы, карчавацелі. Дзякуючы гэтаму калгас імя Будзённага мае больш за тысячу гектараў асушаных тарфянікаў. Перад такой тэхнікай не можа ўстаяць дрыгвяная багна!

Падышоў Сямён Юдзенка, шыракаплечы, чарнявы хлопец. Ён быў цяпер намеснікам брыгадзіра трактарнай брыгады. Калісьці Павел разам з ім вучыўся на курсах трактарыстаў.

— Прыходзь да нас, — сказаў ён, прывітаўшыся. — Работы, ведаеш, колькі!



Радыётэхнік-камсамолец Васіль Пінчук вядзе перадачу.

Загудзеў трактар. Павел адчуў, як скаланулася сэрца і па целе прабег лёгкі халадок. Тры гады не сядзеў ён на трактары. Ездзіў на аўтамашыне, корпаўся ў маторах... Але гэта не тое! Хіба забудзеш сваё юнацтва, свае першыя крокі!

— Дай, братка, я сяду, — папрасіў ён Сямёна Юдзенку.

Механізатары засмяяліся. Павел сеў за руль, уключыў газ...

І вось ён едзе па роднай вуліцы. Роўна гудзе матор. Побач прабягаюць хаты, сады, агароды. А поплеч — ранейшыя сябры...

— На Клімаву граду не забыўся дарогі? — крычыць над вухам Сямён Юдзенка.

— Не забыўся!

Ён едзе грэбляй, пракладзенай па тарфяніках. Насустрач трактару цягнуцца вазы са снапамі. Паўлу здаецца, што калгаснікі, якія ідуць побач, усміхаюцца яму. Па балотах усюды, як кінуць вокам, узвышаюцца стагі збажыны.

Прыехалі на Клімаву граду. І зноў Павел адчуў, як напружыўся трактар, калі васьмікорпусны плуг угрызся ў векавую балотную цаліну. Ён рабіў заход за заходам, уздымаючы тлустую, ніколі нікім яшчэ не кранутую зямлю.

— Не забыў прафесію? — смяяўся ўвечары Сямён Юдзенка, які замяніў Паўла за рулём. — Сяргей, нясі «казу», замераем выпрацоўку...

Ніколі ў Паўла не было такога добрага настрою, як у гэты дзень. Яму здаваўся асаблівым і смак свежага хлеба, які елі трактарысты, і пах бензолу, і даўно знаёмы спеў матора...

Непрыкметна Павел уцягнуўся ў калгаснае жыццё. З раніцы ён ішоў на электрастанцыю. Там, у машынным аддзяленні, корпаліся Канстанцін Бабарыка з Анатолем Рыбаком — электратэхнікі. Хлопцы расказвалі яму, як яны вучыліся ў Магілёве на курсах, як праводзілі ў калгасе электрычнасць. Паўлу было прыемна, што гэтыя юнакі, якія яшчэ зусім нядаўна скакалі па вуліцы на бярозавых кійках, так добра разбіраюцца ў тэхніцы.

Калгас жыў напружаным жыццём. На таку, не змаўкаючы, гула малатарня. Трактарыст Мікола Заяц касіў атаву, яе вазілі на вялізных карах сіласаваць. Фёдар Юдзенка, камбайнер, збіраўся ўбіраць насеннікі траў. Калгас выконваў збожжанарыхтоўкі: дзве аўтамашыны рабілі па некалькі рэйсаў у дзень...

Аднойчы ноччу да Паўла прыбег шафёр Рыгор Аляксеенка.

— Дапамажы, братка, клапаны штосьці падводзяць. Адзін не спраўлюся, а раніцай збожжа везці...

Павел да раніцы корпаўся ў маторы. Машыну адрамантавалі. Паглядзеўшы на змораны твар Рыгора з глыбока запаўшымі ад бяссонніцы вачамі, ён сказаў яму:

— Ведаеш, давай я адзін рэйс зраблю. Ідзі паспі...

У кабіну побач з Паўлам сеў Марат Шафарэнка, сакратар камсамольскай арганізацыі. Ён быў адказным за збожжаздачу. Як памятаў Павел, Шафарэнка быў камсамольскім сакратаром ужо гадоў з пяць.

— Вялікую, брат, мы работу паднялі, — гаварыў ён Паўлу ў дарозе. — Адна электрастанцыя дзвесце тысяч каштуе, ды радыё — тысяч пяцьдзесят. А клуб калгасу падаравалі мы, камсамольцы. Ён, лічы, нічога не каштуе, нядзельнікамі пабудавалі. Мінулым летам узяліся разам за электрастанцыю і за клуб. Ну, многія гаварылі, што нічога ў нас не атрымаецца. Асабліва крычаў Сцяпан Піскун, каваль, ты яго ведаеш. «Нічога, — кажа, — у вас не выйдзе, вельмі размахнуліся шырока». Ну, мы сапраўды шырока размахнуліся, але не спасавалі. Трыццаць камсамольцаў на работу выходзіла. Лес высеклі, вывезлі трактарамі. Адным словам, і клуб і электрастанцыю адкрылі ў адзін дзень — на Кастрычніцкае свята. І старшыня ў нас цяпер малайчына, малады, баявы!..

За тры гады, што не быў Павел у калгасе, ён пабачыў многае. Працаваў у гарадах, усюды меў справу з тэхнікай. У яго неяк складвалася ўражанне, што сапраўдны прастор чалавеку, які любіць машыну, можа быць толькі ў горадзе, на заводзе. Цяпер ён ведаў, што гэты яго погляд быў памылковы. На прыкладзе свайго калгаса Павел бачыў, што людзям тэхнікі належыць рашаючае слова і на сяле, што за імі будучыня.

Неяк вечарам Павел быў дома, чытаў. З Масквы трансліравалі музыку. Раптам перадача спынілася, і бойкі голас радыста Васіля Пінчука напомніў, што а дзесятай гадзіне будзе паседжанне праўлення. На паседжанне запрашаліся брыгадзіры, аграном Ніна Жагулевіч, заатэхнік Паша Хрушчэнка, брыгадзір трактарнай брыгады Павел Заруцкі і многія іншыя. Пайшоў на праўленне і Павел. Яно было ў клубе. За сталом сядзеў старшыня калгаса Павел Рыбак, рахункавод Самуіл Ушак, брыгадзіры Рыгор Закружны і Фядот Заруцкі, меліяратар Іван Шпакаў. Старшыня расказаў пра тэмпы збожжанарыхтовак, пра ход сяўбы. Брыгадзіры гаварылі аб гаспадарчых справах брыгад. Іх моцна крытыкавалі за слабую ўборку лубіну і насеннікаў траў. Аграном Ніна Жагулевіч намеціла задачы на перыяд сяўбы азімых культур. Яна асабліва папярэджвала аб тым, што трэба строга захоўваць абодва севазвароты. Пасля выступіў зноў старшыня калгаса. Ён расказаў, што намячаецца механізаваць жывёлагадоўчыя фермы, устанавіць аўтапаілкі. Рахункавод Самуіл Ушак пасля прачытаў лічбы кошту работ і механізмаў.

Слухаючы планы хлебаробаў, Павел мімаволі ўяўляў тую багатую перспектыву, што адкрывалася перад калгасам. Усяго яго ахапіла нейкая новае, яшчэ нязведанае раней пачуццё. Ён успомніў, што дзесяць гадоў назад, амаль такой-жа парой, фашысцкія карнікі дашчэнту спалілі гэтую самую вёску Чкалава, спалілі за тое, што яе людзі не схілілі галоў перад чужынцам, хацелі жыць свабодна. Павел успомніў, што жывым быў спалены, прывязаны да шула на сваім двары, бацька Самуіла Ушака. Стары Ціт Ушак прыняў смерць за тое, што не сказаў фашыстам, дзе хаваюцца вяскоўцы, а сёння яго сын складае планы калгаса на будучае.

Пасля праўлення да Паўла падышоў старшыня Рыбак.

— У нас чатыры электраматоры, — сказаў ён. — На сепаратары ўстановім, на ферме, адзін на малацьбу. Заставайся, работы хопіць! І аўтамашыну яшчэ адну купім...

— Заўтра пайду на работу, — адказаў Павел.

Ён вышаў з клуба разам з механізатарамі. Вёска была заліта электрычнымі агнямі. Поўны, круглы месяц, што вісеў над агародамі, здаваўся непрыкметным сярод гэтага зямнога ззяння. У работу Павел уцягнуўся хутка. Некалькі дзён прыладжваў ён электраматор на сепаратары. Яго падганялі даяркі, якім абрыдла круціць цяжкую ручку машыны. Паблізу цесляры з раёна будавалі дом меліяратыўнай канторы. Маладыя тапографы, практыканты з тэхнікума, лазілі па балоту. Адзін з іх, з доўгімі зачасанымі назад валасамі, любіў маляваць. Ён паказаў Паўлу свае малюнкі. На шырокіх аркушах паперы Павел убачыў знаёмыя дубы з бусляніцамі, бусла, які гаспадаром хадзіў па балоце. Малюнкі яму не спадабаліся, чаму — ён не ведаў. Але прычыну падказала даярка Юля Закрутная.

— Ты-б лепш камбайн намаляваў, — сказала яна маладому мастаку. — Гэта цікавей! А то — бусла...

Павел усміхнуўся і пайшоў у склад да кладаўшчыка.

Калгас імя Будзённага
Васілевіцкага раёна,
Палескай вобласці.



У дні святкавання 125-годдзя з дня нараджэння Л. Н. Талстога ў Ясную Паляну з усіх канцоў нашай Радзімы прыязджаюць экскурсанты. На здымку: наведвальнікі каля дома-музея.

Фота С. Іванова-Алілуева і В. Савасцянава (Фотахроніка ТАСС).

Янка БРЫЛЬ

# У ЯСНАЙ ПАЛЯНЕ

Ёсць нешта незвычайнае і невыказнае ў тым хваляванні, з якім ты падыходзіш да велічных помнікаў народнай славы — да месцаў, звязаных з найбольш вядомымі, найбольш любімымі імёнамі.

Калі я падыходзіў да белых вежаў яснапалянскіх варот, у душы маёй з кожным крокам расла тая гордая радасць, якую пранеслі сюдой тысячы нашых людзей, той непакой захаплення і тая трывога, што калісьці прымусілі маладога Чэхава павярнуць свае коні ад гэтых варот... Так і здаецца табе, што вось ён, Талстой, — вечна жывы, нястомны ў працы і цікавасці да людзей, — сустрэне цябе на гэтай цяністай алеі і іменна ў той час, калі анямеюць твае ногі, і рука сама, міжвольна, паднімецца да шапкі, скажа:

— Добры дзень, малады чалавек! Што, і вы таксама пісьменнік?

І ты не зможаш вымавіць вельмі кароткае і вельмі адказнае слова «так», табе захочацца перакрэсліць усё, напісанае табой, усё перапісаць нанова.

У ціхай, зялёнай засені старога парка, над спускам у яр — сціплы ўзгорачак пакрытай вечна свежым папаратнікам магілы, зверху, нібы кавалкам кужэльнага палатна, засланай белымі кветкамі... У славутым «пакоі над скляпеннямі» — у белым прахалодным падвале, дзе столькі год яго пяро паскрыпвала па старонках «Вайны і міру», «Уваскрасення», «Жывога трупа», — цяпер чуваць урачысты голас экскурсавода і асцярожны шорхат соцень ног...

А табе ўсё здаецца, што вось ён выйдзе з-за дрэў, з капелюшом у руцэ, апіраючыся на кій, — так добра вядомы, вывучаны па карцінах і фотаздымках, або што сядзіць ён за сталом у суседнім пакоі, дзе больш сонца, у новым сваім кабінеце...

Так устрывожана, з такім вось невыказным хваляваннем ты ціха ходзіш з пакоя ў пакой яго роднага дома, па раскошным яснапалянскім парку, дзе не адна бяроза і не адзін, ужо стогадовы, дуб пасаджаны яго рукамі, па лузе, дзе калісьці званіла пад бруском яго каса, ад сцюдзёнай студні-крыніцы, з якой ён часта браў ваду, да простай лаўкі з бярозавых жэрдак — «любімай лаўкі Талстога», на якой ён адпачываў на ўскраіне парка, ля поля, глядзеў, прыплюшчыўшы вочы, у зялёны гушчар і думаў над тым, што паспеў і чаго не паспеў нам сказаць...

Ты не адзін. У Яснай Паляне людна бывае заўсёды, а сёлета, калі Радзіма адзначае слаўны юбілей свайго геніяльнага сына, тут асабліва многа людзей.

Ля ўваходу ў літаратурны музей, двухпавярховы белы дом, у якім Талстой вучыў калісьці сялянскіх дзяцей, пад дрэвамі, на простым стале ляжыць — ужо не першая! — аб'ёмістая кніга рэгістрацыі наведвальнікаў. Рэгістратар — ужо таксама не першы за трыццаць год існавання музея — нястомна заносіць у кнігу імёны і адрасы. А ён бясконца плыве — паток гасцей з усіх куткоў неабсяжнай краіны і з заграніцы, людзей, у сэрцы якіх вялікае месца займае вечна жывы Талстой: шахцёры і будаўнікі, калгасныя жнеі і агароднікі, настаўнікі і студэнты, сівабародыя вучоныя і загарэлыя салдаты, дзеці, якія ўжо самі чытаюць Талстога, і дзеці, якіх яшчэ чакае гэтае шчасце, — усе па-святочнаму апранутыя і ўзбуджаныя, пакінуўшы за белымі вежамі варот свае «Пабеды» і аўтобусы, «Масквічы» і грузавікі з лаўкамі ў кузаве, свой бесклапотны смех і клопаты працоўных будняў.

Тут, у гэтым графскім маёнтку, што стаў адным з помнікаў рускай славы, адным са шматлікіх музеяў, кожнае крэсла ў якім і кожнае дрэва любоўна ахоўваецца працоўнымі для пакаленняў, — у Яснай Паляне — асабліва выразна і моцна адчуваеш сувязь жывога з жывым, сувязь народа са сваёй гісторыяй.

Тут няма нічога штучнага, прыцягнутага і выпукленага знарок. На фоне нашага жыцця, на фоне сучаснага мінулае выступае ў правільным размежаванні старога з новым, жывога з тым, што аджыло.

Вось ля дома-музея вядомае «дрэва бедных». Пад гэты стары вяз да графа, што стаў па душы мужыком, ранні ранкам штодня збіралася бедная, босая вёска папрасіць на кавалачак хлеба, хаця-б для дзяцей, папрасіць дапамогі ад галечы і заступніцтва ад



Любімая лаўка Л. Н. Талстога ў запаведніку. Тут адпачываў вялікі пісьменнік.

Фота С. Іванова-Алілуева і В. Савасцянава (Фотахроніка ТАСС).



**Л. Н. Талстой на прагулцы.**

здзеку. Паны, паненкі і панічы яшчэ спяць, усталі толькі слугі, якія рыхтуюць для іх дастатак і ўтульнасць новага дня. Не спіць таксама стары, амужычаны пан, які сядзіць ужо ў сваім кабінецепадвале, з касой і лапатай у кутку, разблытвае вялікае пытанне права на зямлю... А босая вёска цярпліва чакае: яна прывыкла цярпець і чакаць. І вось ён, стомлены волат, выходзіць, нарэшце, на парог. З агідай да сябе выслухоўвае іх скаргі і просьбы, якім няма і, здаецца, не будзе канца, якіх не могуць суняць, задаволіць ні словы мудраца, ні медзякі вялікага гуманіста, ні прашэнне на імя цара, якое за непісьменнага мужыка напіша рука самога генія. Ён, яшчэ раз апынуўшыся над бездданню балючых, невырашальных пытанняў, як ніхто адчуваючы гэтую чорную бездань, ён — самотны, адзін — застаецца на парозе роднага і так балюча і шчыра зненавідзенага дома, а яны, на хаду надзяваючы ірваныя картузы, ідуць па алеі туды, за белыя вежы графскіх варот, дзе пачынаецца той самы жудасны акіян галечы і бяспраўя, якому, здаецца, няма ні граніцы, ні дна...

Сёння на «дрэве бедных», даўно без працы, маўкліва вісіць кавалак рэйкі, звон якой склікаў з далёкіх шпацыраў за сыты стол тую «нікчэмную меншасць», што нават не ведала ў той час сэнсу агульнавядомага слова «голад». Сёння пад вязам сядзяць на лаўцы і стаяць у духмянай засені савецкія юнакі і дзяўчаты. Гэта праўнукі тых, што хадзілі сюды басанож, з палыновай гораччу ў сэрцы: чыстыя, у акуратнай форме «фабзайцы», сталявары і слесары ў адпрасаваных светлых касцюмах, маскоўскія студэнткі і калужскія калгасніцы, якіх па вопратцы цяжка адрозніць ад гараджанак. Юнакі і дзяўчаты спявалі і смяяліся ў дарозе, едучы сюды, будуць спяваць, смяяцца і шумна, усхвалявана дзяліцца ўражаннямі на зваротным шляху. Цяпер яны шчаслівыя і аднолькава ціха, паддаўшыся агульнаму настрою, адпачываюць у цяні або чакаюць сваёй чаргі на ўваход у музей і гавораць амаль пашэптам... Яны не прышлі сюды чаго-небудзь прасіць, — прышлі зблізку і прыехалі здалёк пакланіцца таму месцу, што трапна названа калыскай і магілай іх любімага пісьменніка. Яны маглі-б расказаць яму многа аб тым, чаго ён так доўга шукаў у пакутах, чаго ён так шчыра жадаў ім, сынам і дочкам працоўнага народа, што для яго, Талстога, было неразгаданым і шмат у чым незразумелым, а для іх стала ясным, звычайным, штодзённым, — аб тым, што па праву, нарэшце, завецца шчасцем. Яны прышлі сюды не як прасіцелі і нават не як госці, а як гаспадары ўсёй гэтай роднай прыгажосці — з блакітным і светлавоблачным небам, з духмянай, залатой і зялёнай зямлёй!..

У былой графскай канюшні таксама, як і калісьці, вісяць хамуты, а коні, як жывыя экспанаты запаведніка, хрумстаюць свежае сена. На сцяне старэнькай хаціны, дзе жыў калісьці графскі конюх, таксама, як усюды тут, вісіць мемарыяльная дошка. Прачытаўшы тое, што напісана на ёй, яскрава ўспамінаюцца апошнія старонкі вялікай біяграфіі Льва Нікалаевіча.

Навокал — ясны, багаты фарбамі і гукамі жнівеньскі дзень, а ты да болю выразна ўяўляеш халодную і мокрую восеньскую ноч, калі праз кусты прабіраецца сівы, вымучаны жыццём дзядуля — волат рускай і сусветнай літаратуры, — дарэмна шукае шапку, якую згубіў у кустах, а потым да малога цёмнага акенца конюхавай хаткі працягваецца рука, што напісала поўмільёна геніяльных старонак, і знямоглы ад болю голас просіць:

— Іван, гэта я. Устань, Іван, вязі мяне адгэтуль прэч. Я не хачу памерці тут, у гэтым вар'яцкім доме...

І вось па бруку каля канюшні асцярожна грукочуць колы, і з белых варот назаўсёды выязджае вазок з гаспадаром. У цёмную ноч, у беззваротны шлях, што абарваўся праз некалькі дзён.

Ён не дажыў толькі сем год да той, таксама кастрычніцкай ночы, калі паўсталі мільёны такіх, як Іван, мільёны бяздольных карміцеляў і будаўнікоў жыцця, каб разам з рабочымі, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, назаўсёды вырашыць вялікія пытанні права на зямлю і мірнае шчасце. І ўсё, што нават Талстому здавалася бясконца цёмным, цяжкім, заблытаным, стала такім простым, так цудоўна ясным, нашым.

Вакол старога графскага саду і парка шуміць калгасная збажына. Зямля стала народнай. На полі гамоняць камбайны і гучаць песні шчаслівай, свабоднай, разумнай працы. У зелені садоў чырванеюць чарапічныя дахі калгаснай Яснай Паляны — вёскі, з якой калісьці так многа мужыкоў і баб увайшло ў літаратуру, як сведчанне беды і цемры, якой неабходна было пазбыцца. Побач з вёскай і запаведнікам, як адзін з дастойных помнікаў вялікаму асветніку працоўнага народа, узвышаецца гмах дзесяцігодкі імя Льва Нікалаевіча Талстога. На былой Кіеўскай шашы, што стала цяпер аўтастрадай Масква — Сімферопаль, на той «вялікай дарозе», дзе Талстой сустракаўся з хадакамі і багамольцамі, што хадзілі па праўду да цара і бога, цяпер гудуць грузавікі з жалезам і збожжам, праходзяць поўныя шчаслівай дзетвары аўтобусы. А ў засені парка, на любімай лаўцы Льва Нікалаевіча, сядзіць мужыцкі праўнук — чысты душой, шчаслівы і прагны да прыгажосці жыцця юнак-рабочы. Ён не змог дачакацца таго запаветнага моманту, калі апынецца за светлым сталом свайго пакоя, ён застаўся адзін у парку, разгарнуў тую кнігу, што сёння купіў тут, адну з тых кніг, што тут-жа і была напісана, — і вось ён перачытвае яе ўжо знаёмыя яму, ды вечна свежыя, любімыя старонкі.

Гледзячы на гэтага юнака, на сотні і тысячы падобных яму, асабліва моцна ўспрымаюцца словы Леніна, напісаныя тады, калі за шчасце нашых дзён яшчэ вялася нялёгкая барацьба:

«Талстой-мастак вядомы нікчэмнай меншасці нават у Расіі. Каб зрабіць яго вялікія творы сапраўды здабыткам усіх, патрэбна барацьба і барацьба супроць такога грамадскага ладу, які асудзіў мільёны і дзесяткі мільёнаў на цемру, забітасць, катаржную працу і галечу, патрэбен социялістычны пераварот» *.

Пераварот гэты адбыўся. Творы Талстога сталі ў нас здабыткам усіх. Велічны вобраз яго — непараўнанага мастака слова, нястомнага ў пошуках праўды, бязлітаснага выкрывальніка ўсіх і ўсякіх ворагаў міру, свабоды і шчасця — жывы і вечна будзе жыць у сэрцы нашага народа.

... У пачатку Вялікай Айчыннай вайны, уварваўшыся ў Ясную Паляну, гітлераўскія вылюдкі за сорак пяць дзён спаганілі гэтую святыню совецкага народа і ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва. Кабінет Талстога быў ператвораны ў казарму, вакол магілы пісьменніка закопваліся трупы эсэсаўцаў, дрэвы парка і саду захопнікі секлі на дровы. Толькі імклівае наступленне нашых войск выратавала будынкі Яснай Паляны ад поўнага знішчэння: у пакоях літаратурнага музея і дома Талстога фашыстамі былі раскладзены вогнішчы, якія не паспелі разгарэцца.

Совецкія людзі, яшчэ ў цяжкія дні вайны, любоўна аднавілі Ясную Паляну, і сёння яна, як шмат іншых музеяў і запаведнікаў нашай краіны, захоўваецца народам ва ўсёй сваёй непаўторнай прыгажосці.

---

* В. І. Ленін, «Л. Н. Талстой».



**Магіла Л. Н. Талстога ў яснапалянскім запаведніку.**

Фота С. Іванова-Алілуева і В. Савасцянава (Фотахроніка ТАСС).




# Поспех моладзі

У жніўні на цэнтральных вуліцах Мінска можна было сустрэць дзесяткі юнакоў і дзяўчат у трэніровачных касцюмах, якія накіроўваліся да стадыёна «Дынама». Гэта былі ўдзельнікі буйнейшых у спартыўным сезоне спаборніцтваў — рэспубліканскага пяршынства па лёгкай атлетыцы. У Мінск з'ехалася звыш 400 мацнейшых бегуноў, прыгуноў і мятацеляў з абласных цэнтраў рэспублікі.

На працягу некалькіх дзён яны спаборнічалі за тое, каб хутчэй прабегчы вызначаную дыстанцыю, вышэй або далей прыгнуць, далей мятнуць молат, кап'ё або дыск, штурхнуць ядро.

У бегу на сто метраў сярод жанчын за званне чэмпіёна Беларусі разам з мацнейшай бягунняй Новікавай змагаліся мінчанкі семнаццацігадовая Галіна Лук'янцава і пятнаццацігадовая Людміла Пташнік. Камсамолка Лук'янцава прабегла сто метраў за 12,5 секунды. Гэта — новы рэспубліканскі рэкорд сярод дзяўчат. На здымку № 1 першая злева стартуе Галіна Лук'янцава.

Выдатнага поспеху сярод тых, хто выступаў па мятанню кап'я, дабілася маладая спартсменка Віцебскай вобласці Надзежда Комлева. Ёй належыць рэкорд Беларусі сярод дзяўчат. Ён роўны 40 метрам 90 сантыметрам. На рэспубліканскім пяршынстве Надзежда Комлева заваявала званне чэмпіёнкі Беларусі па мятанню кап'я сярод жанчын. Кап'ё, кінутае маладой спартсменкай, праляцела 38 метраў 55 сантыметраў. На здымку № 2 — Надзежда Комлева пасля перамогі ў спаборніцтве.

Гомельскаму камсамольцу Уладзіміру Татарынаву ідзе васемнаццаты год. Ён доўга рыхтаваўся да адказнага спаборніцтва, і гэта прынесла выдатныя вынікі. Татарынаў прабег сто метраў за 11,2 секунды. Гэтым Татарынаў упісаў сваё імя ў табліцу рэспубліканскіх рэкордаў сярод юнакоў.

З няменшым поспехам выступаў юны бягун Брэсцкай вобласці Тадэуш Кулікоўскі. Калі ён закончыў дыстанцыю 200 метраў, суддзі абвясцілі аб устанаўленні новага рэкорда Беларусі сярод юнакоў, які цяпер роўны 23,1 секунды.

З горада Слоніма прыехала ў Мінск на спаборніцтвы камсамолка Марыя Герасімчык. Яна ўдзельнічала ў бегу на 800 метраў. Юная спартсменка дабілася бліскучага выніку. Яна ўстанавіла новы ўсесаюзны рэкорд сярод дзяўчат. Васемсот метраў Марыя Герасімчык прабегла за 2 мінуты 17,8 секунды.

Поспехі маладых спартсменаў падмацавалі сваімі вынікамі вопытныя лёгкаатлеты і лёгкаатлеткі. Рэкардсменка Беларусі ў штурханні ядра сярод жанчын, выкладчыца Беларускага універсітэта Анна Кустава (здымак № 3) зноў палепшыла свой рэкорд. Ядро, якое яна штурхнула, праляцела 13 метраў 61 сантыметр.

У адным з раёнаў Пінскай вобласці рос і з малых год пачаў займацца спортам калгаснік Васіль Місюк. Тры гады назад ён неспадзявана для многіх спецыялістаў па спорту прыгнуў у вышыню з разбегу на 1 метр 83 сантыметры. Гэта было на адзін сантыметр вышэй рэкорда рэспублікі. Многія лічылі вынік Васіля Місюка выпадковым. У гэтым годзе Місюк даказаў, што ён з'яўляецца мацнейшым прыгуном Беларусі.

Праз некаторы час новае імя было ўнесена ў спіс рэкардсменаў. Майстар спорту Віктар Шадчынеў, выступаючы ў адным з самых складаных відаў лёгкай атлетыкі — прыжках з шастом, — пераадолеў планку, якая знаходзілася на вышыні тры метры 86 сантыметраў.

Некалькі год таму назад яшчэ нікому невядомая маладая беларуская бягуння Ніна Кабыш устанавіла рэспубліканскі рэкорд у бегу на 800 метраў сярод дзяўчат. За гэтыя гады Ніна Кабыш стала майстрам спорту, абараняла спартыўную чэсць Савецкага Саюза ў Парыжы, дзе яна ўдзельнічала ў кросе імя газеты «Юманітэ». З вялікім поспехам удзельнічала Ніна Кабыш і ў пяршынстве Беларусі. Яна стала чэмпіёнкай у бегу на 200 метраў і двойчы паляпшала рэспубліканскі рэкорд у бегу на 400 метраў. У фінальным забегу на гэтай дыстанцыі яна фінішыравала першая (здымак № 4), паказаўшы выдатны час — 57,5 секунды.

Хутчэй за ўсіх прабегла 800 метраў мінская камсамолка Елізавета Ермалаева, якая заваявала жэтон чэмпіёнкі.

Цікавымі былі спаборніцтвы мужчын у бегу на 3 000 метраў з перашкодамі. Удзельнікам трэба было прабегчы 7 з палавінай кругоў па бегавой дарожцы стадыёна «Дынама». На кожным з кругоў ім давялося пераадолець яму з вадой і некалькі бар'ераў. Лепш за другіх гэта зрабіў майстар спорту Анатоль Савенка. Ён фінішыраваў першым і стаў новым чэмпіёнам Беларусі.

Многа маладых спартсменаў вырасла ў Беларусі за гэтыя гады. Сярод іх ёсць і такія, якія паспяхова штурмуюць рэкорды Савецкага Саюза. Такім з'яўляецца і малады таленавіты спартсмен Віцебска Яўгені Жэўжык, які ў мінулым годзе ўстанавіў усесаюзны рэкорд сярод юнакоў у бегу на 800 метраў.

На пяршынстве Беларусі бег на 800 метраў сярод мужчын прайшоў у вострай і напружанай барацьбе. Толькі на апошніх метрах выявіўся пераможца. Ім аказаўся малады рабочы-стаханавец Мінскага патэфоннага завода Іван Мальчукоў. На здымку № 5 ён бяжыць трэцім.

Рэспубліканскае пяршынства паказала, што сярод моладзі Беларусі ёсць многа таленавітых спартсменаў, якія ў будучым пры настойлівых трэніроўках могуць стаць новымі чэмпіёнамі і рэкардсменамі, новымі майстрамі спорту.

**Ю. БАГУШЭВІЧ.**

Фота В. Гундорына.














Рэкардсмен Савецкага Саюза сярод юнакоў у бегу на 800 метраў камсамолец Генадзій Жэўжык (Віцебск, ДСТ «Іскра») на трэніроўцы.

Фота А. Дзітлава.



Прараб перадавога ўчастка комсамолка Марыя Ягорава і брыгадзір Мікалай Шчэцька. Яны сістэматычна перавыконваюць план.



Лепшы брыгадзір будаўніцтва дэпутат райсовета, комсамолка Станіслава Гуд.

# Камвольны камбінат у Мінс

На будаўніцтве камбіната.



інску



Маладзёжнае звяно Франі Світы бетаніруе адно з перакрыццяў галоўнага корпуса.
Фота А. Дзітлава.

Вось ужо больш двух год на поўднёвай ускраіне Мінска ідзе вялікае будаўніцтва. Відаць цагляныя контуры карпусоў, побач з імі ўзводзяцца шматпавярховыя дамы — цэлы гарадок. Тут расце Мінскі камвольны камбінат — адно з буйнейшых тэкстыльных прадпрыемстваў пятай пяцігодкі

Асаблівую цікавасць уяўляе будаўніцтва галоўнага корпуса, дзе размесцяцца ўсе асноўныя цэхі і бытавыя памяшканні. Дах корпуса будзе складацца з шэрагу купалападобных перакрыццяў. Навошта-ж на прадпрыемствах такога тыпу патрэбны гэтыя перакрыцці? Справа ў тым, што ў цэху павінна быць рассеянае, роўнамернае святло. Сістэма сферычнага перакрыцця якраз і спрыяе гэтаму. Пры гэтым усе вокны выходзяць на поўнач, каб у цэх не траплялі сонечныя праменні, якія будуць перашкаджаць рабоце.

На будаўніцтве камбіната ўпершыню ў Савецкім Саюзе для жалезабетонных перакрыццяў ужываецца перасоўная апалубка такога тыпу. Пры дапамозе цялежак, якія могуць перасоўвацца ў адпаведных напрамках па спецыяльна пракладзеных рэйках, апалубка падводзіцца да неабходнага месца і дамкратамі падымаецца да патрэбнай вышыні. Пасля таго, як праведзена ўкладка арматуры і заліўка бетонам, апалубка апускаецца і перасоўваецца да таго месца, дзе павінна быць зроблена наступнае перакрыцце. Перасоўная апалубка дае вялікую эканомію часу і матэрыялаў. Аднаго лесу зберагаецца каля трох тысяч кубаметраў, не гаворачы ўжо аб тым, што скарачаюцца тэрміны будаўніцтва і яно робіцца таннейшым. Раней для гэтага прымянялася складаная сістэма. Падрыхтоўка да работ займала больш часу, чым усталяванне перакрыцця.

За два гады работ выраслі на будаўніцтве свае кадры — муляры, цесляры, арматуршчыкі, бетоншчыкі. Большасць з іх — моладзь. Яны прышлі сюды з калгасаў.

Комсамолец Нікалай Барташэвіч закончыў курсы машыністаў вежавых кранаў. Зараз ён — адзін з лепшых машыністаў будоўлі. Без ніякай спецыяльнасці прышоў сюды Міхась Епімашка. Зараз ён — лепшы арматуршчык. У яго ёсць і свае вучні. Нядаўна Епімашка прыняты ў рады комсамола.

Усе будаўнікі добра ведаюць Марыю Егараву, што прыехала сюды з горада Іванава, дзе яна скончыла тэхнікум. З дзесятніка яна стала прарабам. Комсамольцы абралі Марыю намеснікам сакратара сваёй арганізацыі.

На будаўніцтве камбіната шырыцца спаборніцтва за датэрміновае заканчэнне ўсіх работ. Першую прадукцыю намечана выпусціць у другім квартале 1954 года.

Для будучых рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых камбіната будуюцца жылыя дамы. Першыя дзесяць двухпавярховых дамоў здадзены ўжо ў эксплуатацыю. Вялікія будынкі ўздымаюцца на Чэрвенскім тракце. Заканчэнне іх будзе служыць пачаткам рэканструкцыі гэтай магістралі, якая злучыць камбінат з цэнтрам Мінска. Будзе пабудавана яшчэ дзесяць шматпавярховых дамоў. Тэкстыльшчыкі атрымаюць утульныя, добраўпарадкаваныя кватэры.

Мінскі камвольны камбінат — адно з буйнейшых у краіне прадпрыемстваў. Аднак рабочых будзе працаваць на ім удвая менш, чым на прадпрыемствах такой-жа магутнасці. Усе цэхі абсталёўваюцца па апошняму слову тэхнікі — тут будзе ажыццёўлена аўтаматызацыя вытворчых працэсаў.

У лічбах Дзяржаўнага бюджэта, прынятага нядаўна пятай сесіяй Вярхоўнага Совета СССР, і ў прамове Старшыні Совета Міністраў Саюза ССР таварыша Г. М. Маленкова на сесіі адлюстраваны велізарныя клопаты партыі і ўрада аб дабрабыце совецкага народа. Будаўніцтва камвольнага камбіната ў Мінску — сведчанне гэтых штодзённых клопатаў. Сталіца нашай рэспублікі ўзбагачаецца новым, буйнейшым прадпрыемствам, якое будзе служыць жыццёвым патрэбам працоўных, — выпускаць тонкашарсцяныя тканіны: бастон, метро, трыко, люкс, габардзін і інш.

**Б. МАРТЫНАЎ.**



Міхась Епімашка, які каля двух год таму назад прышоў на будаўніцтва чорнарабочым. Зараз ён — стаханавец-арматуршчык вышэйшай кваліфікацыі. Тут-жа, на будаўніцтве, ён стаў комсамольцам.
Мал. В. Грамыкі.





**Група супрацоўнікаў Інстытута энергетыкі Акадэміі навук БССР, якая працуе над пытаннем павышэння эканомнасці энергасістэм** (злева направа): **кіраўнік работы, дырэктар інстытута, кандыдат тэхнічных навук І. Ф. Валошын, малодшыя навуковыя супрацоўнікі М. Н. Сімкін і камсамолец А. Н. Мацюш.**

Фота А. Дзітлава.

# У НАВУКОВЫХ ЛАБАРАТОРЫЯХ






Светлы, урачысты будынак Акадэміі навук БССР... Цэнтр навуковай думкі нашай рэспублікі. Прайдзіце па шырокіх калідорах, зазірніце ў лабараторыі і кабінеты, пабывайце на эксперыментальных базах! У кожным з восемнаццаці навукова-даследчых інстытутаў, якія аб'ядноўвае акадэмія, вы сустрэнеце і сусветна вядомых вучоных, і маладых, і зусім яшчэ юных спецыялістаў, якія робяць першыя крокі ў выбранай імі галіне ведаў.

Біялагічнае аддзяленне. Тут вывучаюцца глебы БССР, спосабы іх лепшай апрацоўкі, распрацоўваецца сістэма севазваротаў, вышукваюцца шляхі палепшання раслін. Дзейнасць вучоных накіравана на павышэнне ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур не толькі на тэрыторыі нашай рэспублікі, але і за яе межамі.

Сельскай гаспадарцы дапамагаюць энергетыкі, фізікі, хімікі. Шэраг тэм, як рацыяналізацыя перадачы электраэнергіі, удасканаленне сталей, пытанне гідратэхнікі і многія іншыя, мае ўсесаюзнае значэнне. Беларускія вучоныя ствараюць новыя машыны, станкі. У супрацоўніцтве з калгаснікамі-вопытнікамі і стаханаўцамі заводаў распрацоўваюцца новыя, высокапрадукцыйныя метады працы, ідзе барацьба за зніжэнне сабекошту прадукцыі.

У акадэміі складаюцца новыя вучэбныя дапаможнікі для школ і вышэйшых навучальных устаноў. Тут канцэнтруюцца даследаванні па гісторыі Беларусі, вывучаецца эканоміка рэспублікі.

Моладзь, у першую чаргу камсамольцы Акадэміі навук, разам з усім калектывам змагаецца за паспяховае вырашэнне ўсіх праблем мірнага будаўніцтва нашай Радзімы.

На здымках адлюстраваны рабочыя будні камсамольцаў акадэміі.

І. КАМАРОЎ,
сакратар камітэта камсамола АН БССР.

На здымках: **1. На эксперыментальнай станцыі «Бараўляны» Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі; лабарантка Яніна Дзямідка праводзіць дослед з раслінамі, якія выкарыстоўваюцца ў паляводстве як зялёнае ўгнаенне.**

**2. У Інстытуце гісторыі; навуковы супрацоўнік Віктар Шаціла і лабарантка Раіса Шматава рыхтуюць да друку новую работу па гісторыі Мінска.**

**3. У Інстытуце біялогіі; адзін з супрацоўнікаў інстытута, аспірант Аляксандр Шлык, даследуе прыроду хларафіла.**

Фота А. Дзітлава.



Праскоўя НІКІЦІНА

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

**З дзённіка маладой настаўніцы ***



Мал. Н. Гуціева.

У першыя дні мяне здзівіла сапраўдная антысанітарыя і неахайны выгляд класа. На падлозе валяліся паперкі, на дошцы нехта намаляваў лахматага хлопчыка з вялізным носам. Пад малюнкам быў надпіс: «Наш Юрка». Зайшоўшы ў клас, я адразу ўсё гэта ўбачыла.

— Рэбяты, — сказала я, — вы нядаўна слухалі гутарку «Трымайце у чысціні сваё месца». Вы згодны былі тады. Ды гэта і няцяжка было зразумець. А зараз што? — паглядзела я на паперкі. — Дзяўчынкі сядзяць на ўроках у хустачках. Парты стаяць няроўна. Хіба-ж гэта добра?.. Сядайце!

Усе садзяцца. Стаіць толькі дзяжурны і паведамляе, хто адсутнічае ў класе. Адзначыўшы ў журнале, я гляджу на вучняў. Дзяўчынкі былі ўжо без хустачак, між радамі парт не аказалася ніводнай паперкі. Бясшумна рэбяты выраўнялі парты. Знікла карыкатура з дошкі.

Так я паступова прывучала дзяцей да акуратнасці. Вучні ўжо здагадваліся, у чым справа, калі я некаторы час не дазваляла ім садзіцца. Яны ўмомант выпраўлялі свае памылкі і атрымлівалі дазвол сесці.

— Юрка, вучань сёмага класа, мусіць, ужо ніколі не перавыхаваецца, — казалі часта настаўнікі. — Ён такі яшчэ з першага класа...

І сапраўды, Юрка — своеасаблівы вучань. На ўроку ён часта прымае сур'ёзны выгляд, нават бровы нахмурыць, нібы слухае, а рукі ляжаць на каленях з падрыхтаваным для рассмешвання вучняў папяровым катом ці «чалавечкам». Чакае, чакае ён зручнага моманту, і як толькі настаўнік адвернецца ад вучняў, каб запісаць што-небудзь на дошцы ці паказаць на карце, юркавы рукі спрытна ўзлятаюць з-пад парты і махаюць перад вачыма вучняў гэтым катом са стаячымі, нібы калкі, вушамі, вялікімі круглымі вачамі і вусікамі. Махае, ды яшчэ танюсенька выводзіць:

— Мя-яў!

— У чым справа? — звяртаецца настаўнік да вучняў, калі яны грымнуць смехам.

Юрка спрытна схавае сваю цацку, узнімецца крыху з месца і, не смеючыся, пытае:

— Хлопцы, хто гэта так, га? Як вам не сорамна?!.

Пра тое, як падыйсці да Юркі, я думала нямала. Хацелася зразумець, чым жыве гэты хлопчык, што больш за ўсё яго хвалюе, да чаго ён імкнецца. Я вырашыла схадзіць да Юркі дамоў.

Прыходжу. У невялікім пакоіку, асветленым лямпай, нізка схіліўшыся над сталом, ён выконвае пісьмовае заданне па беларускай мове. Мой раптоўны стук у дзверы для яго з'явіўся нечаканасцю. Не пачуўшы адказу, я адчыняю дзверы і пытаю:

— Можна да вас?

— Добры вечар! — замест адказу на маё пытанне скарагаворкай выпаліў Юрка, нібы па загаду, стаўшы на смірна.

Юрка адчувае сябе няёмка. Відаць, зусім не рад майму прыходу.

— Дык гэта ты адзін дома? А дзе-ж астатнія?

— Мама пайшла да бабулі, там і заначуе, а Міша, меншы брат, гуляе...

— Дык ты сам гаспадар?

— Але, такі там гаспадар, але ўсё раблю, — разгублена гаворыць Юрка. Губы яго нервова ўздрыгваюць, твар залівaецца чырванню.

— Чаму «такі там гаспадар»? Ты-ж хлопец спрытны, вясёлы. Мне падабаецца, што ты ўмееш і клас развесяліць, і гаспадарскія справы вядзеш, і ўрокі, калі вывучыш, дык добра адказваеш. Мне думаецца, што ты ўсё зможаш зрабіць, калі захочаш. Загана толькі ў тым, што ты асароміў сябе на ўсю школу, зрываючы ўрокі. Жарты — добрая справа, але яны ў цябе часта не да месца. Добра было-б табе паступіць у драматычны гурток, ты выдатна выконваў-бы ролю жартаўніка і людзям і табе будзе прыемна.

— А калі ў яго можна запісацца?

— У любы час, але пасля таго, як ты выправіш свае паводзіны, станеш дысцыплінаваным.

— Праскоўя Амяльянаўна, я ў гэтай школе ніколі не буду добрым вучнем... Вось і ўсё, — дрыжачым, поўным крыўды голасам сказаў Юрка.

— Чаму-ж?

— Усе настаўнікі на мяне злосна глядзяць, пакрыкваюць. Я не буду хадзіць у школу, усёроўна не перавядуць...

— Няпраўда, Юрка. Так можа думаць толькі той, хто сапраўды не жадае вучыцца. Пастаў перад сабою мэту заўсёды старанна рыхтавацца да ўрокаў, не парушаць дысцыпліны. Калі ў чым цяжка разабрацца самому, звяртайся да таварышаў, да настаўнікаў, тады ўбачыш, што адносіны і настаўнікаў і таварышаў да цябе будуць іншыя.

Расчырванелы Юрка паглядзеў мне ў вочы і ціха сказаў, нахіліўшы галаву:

— Я ніколі не буду зрываць. Вось убачыце, не буду!

— Урокі не будзеш зрываць?

— Ага, — кіўнуў ён галавой.

— Я і хацела, Юра, пачуць ад цябе гэтыя словы. Веру табе. Ты хлопец здольны. Я, мабыць, крыху перашкодзіла табе. Пайду, працуй...

Юрка стаў непазнавальным. Ён уважліва слухаў тлумачэнні настаўнікаў, старанна рыхтаваў урокі, не прапускаў вучэбных дзён. Некаторыя настаўнікі пачалі нават дзівіцца з такіх раптоўных перамен у хлопчыку.

Толькі ў другім поўгоддзі Юрка чамусьці сарваўся: перад урокам хіміі ўваткнуў іголку ў крэсла ўверх вострым канцом. Добра, што гэта своечасова заўважылі.

Што зрабіць, каб канчаткова направіць Юрку? Пэўнага пакуль што я нічога не магла прыдумаць.

... Урокі скончыліся. Намячалася паседжанне вучкома. Некаторыя з настаўнікаў і большасць вучняў пайшлі дамоў. Дырэктар і я вырашылі зайсці на паседжанне. Раптам чуем, у калідоры нейкая беганіна і шум. Дырэктар адчыніў дзверы настаўніцкай. Бачым, група хлопчыкаў сплялася вакол Юркі, яго цягнуць кудысьці.

— Што за шум вы тут узнялі? — рэзка заўважыў дырэктар. — Сілы шмат набралася? Можна выйсці на двор і там паказаць яе.

— Віктар Аляксеевіч (замест Аляксей Віктаравіч), — адарваўшыся ад усіх, тлумачыў хлопчык, — гэта не сілы, гэта мы Юрку вядзем на вучком, вунь ён, у сярэдзіне. Во-во яго рукі ўверсе! — ажывіўся хлопчык, голасна выкрыкваючы словы.

Рэбяты расступіліся. Чырвоны ўвесь Юрка бліснуў на дырэктара вачамі, засароміўся і адступіў убок.

— Каго не клікалі на вучком, ідзіце дадому, вам нечага тут рабіць. А ты, Юрка, зайдзі на паседжанне, — сказаў дырэктар.

Юрка, а за ім і мы накіраваліся ў клас, дзе сядзелі члены вучкома і выкліканыя вучні.

Старшыня вучнёўскага камітэта Коля Падбярэзны крыху разгубіўся. Ён хутка ўстаў, кашлянуў у кулак і, часта паглядваючы на дырэктара, сказаў да вучняў:

— Паседжанне вучкома лічу адкрытым. У парадак дня ставім такія пытанні: першае — аб дысцыпліне вучняў, другое — аб выпуску класных насценных газет.

Дапаўненняў і змяненняў не аказалася.

Па пытанню аб дысцыпліне слова ўзяў вучань шостага класа, піонер, член вучнёўскага камітэта Вася Зарэцкі.

— Колькі разоў мы гаварылі аб дысцыпліне! — павышаным тонам пачаў Вася, — і на зборы звяна і на паседжаннях вучкома. Няхай-бы гэта было навукай для ўсіх! Дык не-ж! Юрку гэта ніколечкі не кранае. Я вельмі добра памятаю, як на зборы атрада Юрка перад усімі піонерамі даваў «чэснае піонерскае слова», што ён ужо будзе дысцыплінаваным, прыкладным. А вось цяпер зноў стаіць пытанне аб дысцыпліне Юркі. Дзе-ж яго тая чэсць, клятва?

— Няхай адкажа! — пачуўся нейчы голас.

— Выйдзі да стала, — патрабавальна сказала сямікласніца Люба, адкінуўшы назад тоўстую, туга заплеценую касу.

Юрка, доўга не раздумваючы, устаў з-за парты і шырокімі крокамі прайшоў да стала, стаў перад усімі. Яго позірк нерухома застыў, уставіўся кудысьці ўдалячынь.

— Раскажы, Юрка, у чым справа, — звярнуўся да яго старшыня. — Для чаго цябе сюды выклікалі?

Юрка паглядзеў на ўсіх, прыняў ранейшае становішча і маўчаў.

— Немагчыма табе цяпер маўчаць, калі таварышы патрабуюць слова! — з гневам прадаўжаў Коля. — У каго, рэбяты, будуць да яго пытанні?

— Якія тут пытанні, калі ён маўчыць, як анямелы! — абурыўся шасцікласнік Толя.

— Ну, дык хто будзе гаварыць? — прадаўжаў старшыня вучкома.

— Дайце мне слова, — павольна і разважліва сказала комсамолка-сямікласніца Марыя — сакратар вучнёўскага камітэта. — Нельга болей цярпець паводзіны Юркі, — заірдзеўшыся, гаварыла яна. На шчоках яе выразна акругліліся ямачкі і выступілі чырвоныя плямы. — У нашым класе ўсе такія здольныя вучні, а Юрка хіба горшы за ўсіх? Ці-ж ён не адказваў калі-небудзь на чатыры? А як добра вершы дэк-

* Заканчэнне. Пачатак глядзі ў № 5.

ламуе, калі падрыхтуецца. Ды вось улезла яму ў галаву нейкая лянота ды глупства і завалодала ім, прагнаўшы вучнёўскае сумленне. Ты, Юрка, даб'ешся таго, што ніхто з табою не будзе сябраваць, ніхто не будзе цябе паважаць.

— Хто яшчэ выступіць? — запытаўся Коля.

Руку падняў сямікласнік Грыша.

— Я... я вось што скажу, — разгублена пачаў Грыша. — У нашым класе большасць комсамольцаў... — Нечакана ім авалодала смеласць і патрэбныя словы напрошваліся самі: — Сорам нам за ўчынкі свайго таварыша. Няўжо мы не зможам яму дапамагчы? Мы-ж давалі абяцанне, калі паступалі ў комсамол: змагацца з усім тым, што будзе перашкаджаць у нашых справах. Давайце-ж змагацца. Юрка вось нам перашкаджае.

— Як з ім змагацца? Біць-жа забаронена?

— Дык выключыць са школы не забаронена, — уставіў нехта сваё меркаванне.

— Калі ўсе згодзяцца выключыць, я таксама не супроць гэтага. Падыму нават абедзве рукі. Хай не перашкаджае!

— Больш выступаючых няма? — запытаў Коля.

— А навошта гаварыць усё тое самае?

— Няхай ён што скажа!

— Толькі чакай яго казкі, дык і вечар тут засцігне, — перагаварваліся вучні.

З-за парты ўстаў дырэктар.

— Дайце мне слова.

— Калі ласка, Аляксей Віктаравіч.

— Я вось што хацеў сказаць вам, рэбяты, — спакойна пачаў дырэктар. — Вельмі правільна, што вы Юрку выклікалі на паседжанне вучкома. Мне спадабалася, як вы горача, з душою, разбіралі яго няправільныя ўчынкі. Засталося толькі вырашыць, што рабіць вам з Юркам, якія прыняць меры. З свайго боку я параіў-бы пакуль што не ставіць пытанне на агульнашкольным сходзе аб выключэнні Юркі, а даць яму пэўны тэрмін, за які ён павінен справіцца, потым праверыць, ці палепшыў ён свае веды, дысцыпліну, як наведвае школу. Дзе Юрку цяжкавата будзе зразумець што-небудзь па прадмету — дапамажыце яму. І калі ён не стане на правільны шлях савецкага школьніка, агульны сход вырашыць, што з ім зрабіць.

— Вось так будзе правільна, — сказала адначасова некалькі вучняў.

На наступны дзень Юрка не з'явіўся ў школу... Устрывожаная такім паваротам справы, я неадкладна-ж вырашыла пайсці да хлопчыка. Застала яго дома. Умела арудуючы сякерай, ён... крышыў табак.

— Ты, Юрка, падрыхтаваў усе заўтрашнія ўрокі?

Юрка здзіўлена паглядзеў на мяне. Сякера, якую ён узняў, так і застыла ў яго руках. Юрка маўчаў.

— Заўтра мы пішам кантрольную работу па беларускай мове, — прадаўжала я, непрыкметна назіраючы за хлопчыкам. — А ты-ж ведаеш, на кантрольнай павінен быць кожны вучань, гэта-ж праверка ведаў, і яна бывае ў нас не так ужо часта. А ты раптам задумаў адседжвацца ў хаце. Рэбяты хвалююцца за цябе.

Юрка ўцiснуў галаву ў плечы і змахнуў рукавом здрадлівую слязу.

— Праскоўя Амяльянаўна, ну, што вы гаворыце? Хіба ім не ўсёроўна? Гэта-ж яны хацелі мяне... хацелі зусім выключыць са школы... выключыць...

Не вытрымаўшы, Юрка кінуў сякеру са злосцю пад апечак, змахнуў накрышаны табак і неяк адразу прыціх, абмяк і зрабіўся быццам да ўсяго абыякавым.

Я зразумела ўсё. Чамусьці мне такім ясным зрабілася юркава становішча, яго крыўда на сяброў, але я перасіліла сябе і сказала:

— На сяброў, Юрка, не крыўдуй. Успомні, колькі непрыемнасцей ты ім зрабіў. Так-бы і ты адносіўся да тых, хто перашкаджаў-бы табе вучыцца, працаваць, расці.

Я падышла і паклала руку на ўздрыгваючае юркава плячо.

— Супакойся, Юрка! Перад табою шырокае і цудоўнае жыццё. Упярэдзе чакае цябе вялікая творчая праца, чакае здаровага, умелага, з добрымі ведамі. Я веру ў тое, што веды ты набудзеш, бо маеш для гэтага і здольнасць і магчымасці.

Я гаварыла і бачыла, што хлопчык з надзеяй глядзеў у мае вочы. Плечы яго перасталі ўздрыгваць, ён толькі часта ўздыхаў.

Нечакана ён вызваліў сваё плячо з-пад маёй рукі і, пачырванеўшы, прызнаўся:

— Ведаеце, Праскоўя Амяльянаўна, каму я табак рыхтаваў?

Я здзіўлена прыўзняла бровы.

— Сабе, — выпаліў Юрка і яшчэ больш засароміўся. — Хацеў наперакор вучням зрабіць. А на ліха ён мне?

Не паспела я прамовіць слова, як Юрка спрытна згроб карэнне і кінуў яго ў печ.

— Заўтра напішу работу... Добра напішу.

Усхваляваная, я пайшла з юркавай хаты. Цяпер у мяне нарадзілася цвёрдая ўпэўненасць, што хлопчык не пакіне больш школы, зменіць свае паводзіны і адносіны да вучобы.

Так яно і было. Назаўтра Юрка з'явіўся ў школу раней за ўсіх. Я нават прыкмеціла, што ён апрануў новую кашулю.

Дыктоўку ён і на самай справе напісаў добра.

Уважліва Юрка сядзеў і ў наступныя дні. Я старалася непрыкметна наглядаць за кожным яго крокам, цікавілася, як ён трымае сябе на ўроках другіх настаўнікаў.

К канцу чвэрці Юрка стаў адным з лепшых вучняў класа.

Гэта была перамога. Я ўпершыню па-сапраўднаму зразумела, што няма ў нашых школах вучняў, якія-б не маглі выправіцца, трэба толькі старанне і правільны падыход самога настаўніка.

Юрка, мой дарагі Юрка, шчаслівага табе шляху ў тваёй слаўнай жыццёвай дарозе!



**Юліус Фучык**
(да 10-годдзя з дня смерці).

# ЛЮДЗІ, БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ!

**(«Слова перад пакараннем»)**

Я любіў жыццё і ўступіў у бой за яго. Я любіў вас, людзі, і быў шчаслівы, калі вы адказвалі мне гэтым-жа...

Я жыў дзеля радаснага жыцця, паміраю за яго...

... Зараз мільёны людзей вядуць апошні бой за свабоду чалавецтва. Тысячы загінуць у гэтым баі. Я — адзін з іх. Быць адным з воінаў апошняй бітвы — гэта цудоўна.

... Аб адным прашу тых, хто перажыве гэты час: не забудзьце! Не забудзьце ні добрых, ні злосных. Цярпліва збірайце сведчанні аб тых, хто загінуў за сябе і за вас. Прыдзе дзень, калі сучаснае стане мінулым, калі будуць гаварыць аб вялікім часе і безымянных героях, якія стваралі гісторыю. Я хацеў-бы, каб усе ведалі, што не было безымянных герояў, што былі людзі, якія мелі сваё імя, свой воблік, свае спадзяванні і надзеі, і таму пакуты самага непрыкметнага з іх былі не меншымі, чым пакуты таго, чыё імя ўвойдзе ў гісторыю.

Няхай-жа загінуўшыя ў баі будуць заўсёды блізкія вам, як сябры, як родныя, як вы самі!

Загінулі цэлыя пакаленні герояў. Палюбіце хаця-б аднаго з іх, як сыны і дочкі, ганарыцеся ім, як вялікім чалавекам, які жыў будучыняй. Кожны, хто быў верны будучыні і памёр за тое, каб яна была цудоўнай, падобны да скульптуры, якая высечана з каменя.

... Мы выканалі свой абавязак. І зноў паўтараю: жылі мы для радасці, за радасць ішлі ў бой, за яе паміраем. Таму няхай смутак ніколі не будзе звязаны з нашым імем.

... Людзі, я любіў вас! Будзьце пільнымі!

**ЮЛІУС ФУЧЫК.**



Нікалай Гастэла — артыст В. Канано ў спектаклі «Гастэла» І. Штока.

## НІКАЛАЕЎСКІ ТЭАТР ЮНАГА ГЛЕДАЧА ІМЯ XXX-ГОДДЗЯ ВЛКСМ У МІНСКУ

З пачуццём вялікай радасці калектыў Нікалаеўскага тэатра юнага гледача імя XXX-годдзя ВЛКСМ выступаў у сталіцы Савецкай Беларусі. Гастролі тэатра з'явіліся яго творчым рапартам юным гледачам.

Нікалаеўскі тэатр юнага гледача за 25 год свайго існавання прарабіў вялікую грамадскую працу, сфарміраваўся і вырас у моцную творчую адзінку. У 1952 годзе ён заняў першае месца на Усесаюзным аглядзе тэатраў юных гледачоў.

У рэпертуары тэатра — савецкія п'есы, якія адлюстроўваюць гераізм Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага будаўніцтва, выхаванне маладога чалавека ў духу камуністычнай маралі, а таксама п'есы аб ролі камсамола і школы ў фарміраванні характару дзяцей і юнацтва.

Тэатр паказаў юным гледачам Мінска «Чэсць змоладу» А. Первенцава, «Гастэла» І. Штока, «Новыя людзі» (паводле рамана Н. Чэрнышэўскага «Што рабіць?», сцэнічная кампазіцыя С. Зарэчнай), «Атэстат сталасці» Л. Гераскінай, «Зямны рай» балгарскага пісьменніка Орліна Васілёва, «Зямля» (паводле аповесці О. Кабылянскай, інсцэніроўка В. Васілько), «Разбойнікі» Ф. Шылера.

Для дзяцей малодшага ўзросту тэатр паказаў спектаклі: «Паўлік Марозаў» В. Губарава, «Р. В. С.» А. Гайдара, «Івасік — Цялесік» А. Шыяна і інш.

І. СУХІНА,
дырэктар тэатра.

Сцэна са спектакля «Паўлік Марозаў» В. Губарава.



Сцэна са спектакля «Чэсць змоладу» А. Первенцава.





# СЯБРОЎКІ

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

**Апавяданне**

Мал. І. Давідовіча.

Набліжаўся навагодні вечар.

Дзесяцікласніцу Аню Дубравіну здзіўляла, што найбольшую актыўнасць у гэтыя дні праяўляла яе сяброўка Клава. Яна прыдумала новыя фасоны сукенак для бала-маскарада, сачыла, як Міша Качан рабіў праводку электрычных лямпачак для ёлкі, і нават згадзілася рэпетыраваць з малышамі танец «Сняжынкі». Аня, якая за дзесяць год знаёмства, здавалася, ведала аб сяброўцы ўсё-ўсё, не разумела, чаму дагэтуль абыякавая Клаўка развіла такую кіпучую дзейнасць. Толькі-ж на мінулым тыдні яна сказала Ані:

— А на вечар я і зусім не пайду. Падумаеш, буду кружыцца поруч з Антанінай Андрэеўнай...

Аня ведала, чаму Клава не хацела танцаваць поруч з настаўніцай рускай літаратуры Антанінай Андрэеўнай. Яшчэ маладая дзяўчына, чымсьці таксама падобная да дзесяцікласніцы, Антаніна Андрэеўна ў класе трымалася строга, і Клава прызналася сяброўцы, што яе пабойваецца. Заўсёды непаседлівая весялуха, чарнявая Клава рэдка дачытвала твор да сярэдзіны. Чытала яна тыя мясціны, дзе апісвалася каханне, або, як яна любіла гаварыць, «перажыванні герояў». Спачатку Аня з нейкім страхам слухала бестурботнае шчабятанне сваёй сяброўкі аб тым, што не абавязкова чытаць увесь твор, потым яна ад шчырага сэрца вырашыла паступова «перавыхаваць» Клаву. Аднак з гэтага нічога не атрымалася. Клава патрабавала, каб Аня расказвала ёй тыя мясціны твора, якія яна не чытала, а потым ужо, вядома, яна і не думала брацца за кнігу. Затое ў час класных сачыненняў Клава па-сапраўднаму пакутавала. Іншая справа, калі такія сачыненні даваліся на дом. Тады можна было параіцца з Аняй, нават даць прачытаць ёй сачыненне. Аня любіла падкрэсліваць сказы чырвоным алоўкам.

— У цябе прыроджаныя здольнасці настаўніцы, — уздыхаючы, не раз гаварыла ёй Клава.

Але ў класе Дубравіна нібы перараджалася. Яе злавала непамерная жвавасць сяброўкі. Здавалася, яна нават не пазнавала Клаву, калі часам паглядвала на яе нейкім затуманеным позіркам. Клава разумела, што яе сяброўка перажывала незнаёмы ёй момант творчага натхнення і ў такую хвіліну нават не заўважала яе, Клаву.

Затое Антаніна Андрэеўна без асаблівых цяжкасцей даведалася, што Клава не выяўляе асаблівых схільнасцей да літаратуры і за павярхоўнасць, як яна казала, паставіла Клаве на тым тыдні двойку.

Клаве ўсё давалася параўнальна лёгка, і яна здзіўлялася, гледзячы, як Аня вечарамі праседжвае над кнігамі, нястомна робіць выпіскі, занатоўвае прачытанае.

— Ну і цярпенне-ж у цябе! — не раз гаварыла яна сяброўцы.

Часам Клава адрывала сяброўку ад кніг, каб схадзіць разам у кіно або на танцы. На танцы Аня хадзіць не любіла. Затое Клава адчувала сябе ў роднай стыхіі, калі пад гукі юлікавага акардыёна кружылася, задуменна нахмурыўшы бровы.

Заканчвалася першая палова навучальнага года, а яна так і не вырашыла, у які інстытут паступаць, якой прафесіі прысвяціць жыццё. Яе захаплялі плаўныя піруэты балерын і авеяныя рамантыкай паходы геалагічнай экспедыцыі; ёй хацелася стаць выдатнай гімнасткай або даследчыцай. Часам яна пыталася ў Ані, ці ёсць у яе артыстычныя здольнасці. Дубравіна аглядала сяброўку з галавы да ног, нібы бачыла яе ўпершыню, і адказвала:

— Ты гэта, Клаўка, сапраўды марыш аб сцэне? Дык ведай, што ніякіх здольнасцей у цябе няма...

— Ну, а геолагам? Геолагам я змагу быць? — ледзь не плачучы, не адставала тая.

— Геолагам? — Аня задумвалася. На яе прыгожым ілбе нават паяўляліся дзве малюсенькія маршчынкі. — Падумай сама, які з цябе, Клаўка, будзе геолаг? Ты, мусіць, думаеш, калі ступіш крок, дык адразу і адкрыеш невядомыя залежы каштоўных мінералаў? А праца геолага — гэта цярпенне...

— А я што? Не магу цярпліва працаваць? — злавалася Клава.

— Ты? Вядома, не можаш...

Аню асабліва занепакоілі клавіны паводзіны за апошні час. Перад навагоднім вечарам яна не прыходзіла ў школу падрад некалькі дзён. Камсамольская арганізацыя даручыла Ані, Мішу і Юру Гавароўскаму схадзіць да яе на кватэру.

Ведаючы клавін характар, Аня адна адразу пасля школы забегла да сяброўкі. Яе здзівіла, што той не было дома.

Клава жыла ў бабулі. Маці ў яе не было — памерла яшчэ ў вайну, бацька працаваў дырэктарам буйнага саўгаса кіламетраў за сорак адсюль і з-за празмернай занятасці рэдка наведваўся да дачкі.

— Дзе-ж Клава? — запыталася Аня ў бабулі.

— А хто яе ведае? З самага ранку пайшла з тым ветрагонам у раён. А чаго ёй туды трэба?

— З Юлікам?

— Але-ж, з Юлікам. А там вунь пісьмо ад бацькі прышло.

Аніна сэрца трывожна замерла. Сапраўды, чаго-ж Клава пайшла ў раён з гэтым Юлікам? І галоўнае—ніводным словам не абмовілася нават з ёю...

Аня развіталася з бабуляй і выйшла. Юліка яна недалюблівала, але не надавала асаблівага значэння адносінам яго з Клавай. Ведала Аня, як часам нецярпліва пакручвалася Клава, калі чула голас юлікавага акардыёна. Часам яна прызнавалася Ані:

— Хоць і здалёк ідзе, а адразу пазнаю Юліка. Як ты, Аня, мяркуеш: гэта каханне ці не?

Аднак дзіўна: тая Аня, якая прачытала безліч кніг і адказвала на любое, самае цяжкае пытанне, тут не магла адказаць. Ёй не падабаўся самаўпэўнены, балбатлівы загадчык мясцовага клуба Юлік. А ў школе ёй падабаўся то разважлівы, спакойны аднакласнік Міша Качан, то сімпатыі яе заваёўваў знаток літаратуры, зачыншчык усіх дыспутаў Юры Гавароўскі. Таму яна нічога не магла адказаць сяброўцы, хоць бачыла, па кім уздыхала Клава яшчэ з мінулага года...

Калі потым Клава вярнулася з раёна, ад яе Аня не пачула ні слова пра Юліка. А хлопцам Мішу і Юру тая наогул прыгразіла, што выправадзіць іх з пакою, і яны ўвесь час дыпламатычна маўчалі.

Назаўтра Клава прышла ў школу і нават выправіла двойку. Яна ўзяла на сябе і частку абавязкаў Антаніны Андрэеўны: падахвоцілася рэгістраваць маскарадныя касцюмы. Аня наглядала за сяброўкай, не разумела прычын раптоўных змен яе паводзін, і нейкае трывожнае пачуццё не пакідала яе.

... Надышоў нарэшце доўгачаканы навагодні вечар. Дзесяцікласнікам можна весяліцца да раніцы... Праз поўгода яны пакінуць школу... Можа ад такіх думак у вачах іх паявілася нязвыклая сур'ёзнасць, а ў паходцы — сталасць. Нават Клава хадзіла з сяброўкамі па калідоры прыціхшая і задуменная.

Вось іхні клас. Усё тут так блізка сэрцу. Вунь фікус, прынесены некалі пяцікласніцай Аняй Дубравінай. Цяпер ён востралістым сцяблом упіраўся ў столь. Нават насценгазета ўсё ў той-жа дубовай рамцы, якую зрабіў Юры Гавароўскі.

— Ой, дзевачкі, карыкатура яшчэ вісіць! — захвалявалася Клава.

Хлопцы засмяяліся. Сапраўды, усе ўбачылі, што на рысунку да адной з заметак усё яшчэ намалявана Клава ў туфельках на высокіх абцасах. Пад малюнкам стаяў подпіс:

Я па танцах уздыхаю...
А што ў дзённіку я маю?..

У дзённіку віднеліся малюсенькія тройкі і нават высоўвала галаву аднекуль збоку двойка, падобная да той, што паставіла Антаніна Андрэеўна. «Сяброўскі шарж» гэты маляваў школьны мастак Міша Качан. Відаць, ён нямала пастараўся: Клаву можна было пазнаць, асабліва па яе задзірыстым носіку. А подпіс?... Зразумела, подпіс зрабіла рэдактар Дубравіна. Спачатку Клава нават пакрыўдзілася на сяброўку і не хацела размаўляць з ёю, але з гэтага нічога не атрымалася. Аня проста сказала:

— Гэта перажыткі мінулага ў цябе — крыўда за крытыку...

І Клава здалася. Не, не магла яна думаць, што злосць на Аню ёсць перажыткі мінулага. Ды і наогул крыўдзіцца доўга яна не магла.

У час падрыхтоўкі да навагодняга вечара газету вынеслі некуды ў піонерскі пакой, і на яе зусім забыліся, а цяпер хтосьці яе прынёс, і ўсе, смеючыся, разглядалі карыкатуру і перачытвалі заметкі.

— А ты мяне непадобнай намаляваў, — звярнулася да Мішы Клава. — Што гэта за туфлі такія?

Міша разгублена глянуў на Клаву і пачырванеў. Ён наогул не ўмеў размаўляць з гэтай бойкай дзяўчынай.

— Дык што-ж? Гэта-ж шарж... Сяброўскі...

— Ха-ха... «Сяброўскі». Чулі? — падміргнуў Юры Гавароўскі. — Глядзі, Міша, каб табе за гэты «сяброўскі» шарж не дасталося ад Юліка...

Клава бездапаможна азірнулася на Аню і моўчкі адышла ад газеты. Усе чакалі, што яна зараз скажа такое, ад чаго гэты Гавароўскі адразу прыкусіць язык, але яна змоўкла і прыціхла...

Аднак ужо плывуць срабрыстыя гукі вальса... Нават строгая Антаніна Андрэеўна зараз была зусім як дзесяцікласніца, і Клава здзівілася, як гэта магло стацца, што яна яе раней пабойвалася?

Юлік іграў вальс перад адкрыццём бала-маскарада. Клава сама падышла да пачырванелага Мішы і запрасіла яго на танец. Яна танцавала з Мішам, а бачыла вялікія юлікавы вочы, якія ўсміхаліся адной ёй, Клаве. Адной ёй ён дорыць такую шчаслівую ўсмешку... Але што гэта? Юлік глядзіць зусім не на Клаву, а на Аню. Ну, вядома-ж, ён не спускае з Ані позірку. І як глядзіць?!. Клава адчула, як пахаладзела яе сэрца. Яна міжволі раззлавалася на Мішу: «Кружыцца, не раўнуючы, быццам мядзведзь, а яшчэ ідзе танцаваць! А як доўга цягнецца гэты сумны вальс!.. Ужо час-бы яго канчаць...»

Нарэшце, танец скончаны. Клава стомлена прысела на крэсла, якое з гатоўнасцю падставіў Міша, і замахала каля твару хусцінкай. Яна бачыла, як Юлік перадаў акардыён Марку-кіномеханіку, брату Юрыя Гавароўскага, і падышоў да Ані. « А яна... Як яна на яго зірнула!?.» — думала Клава, зусім не чуючы, як Міша далікатна намякаў ёй, што не шкодзіла-б выйсці на марознае паветра.

— Куды выйсці? — раззлавалася Клава і ледзь не заплакала, убачыўшы, як Аня з Юлікам, нават не тоячыся, вышлі з залы.

Усё цяпер не радавала Клаву. Нават люстра, якое з такой стараннасцю мантыраваў к гэтаму вечару Міша Качан, пачало свяціць цьмяна.

Марк іграў значна горш за Юліка. Ды хіба-ж пойдзе Клава танцаваць, калі іграе гэты няўмека кіномеханік? Клава крыўдзілася на Аню больш, чым на Юліка. Гэта была зусім іншая крыўда, чым за подпіс пад карыкатурай. Была такая крыўда, ад якой хацелася выбегчы з гэтай залы, забіцца дзе-небудзь у куточак школьнага саду і плакаць, плакаць наўзрыд, праклінаючы Аню, Юліка і нават Мішу, які прычапіўся да яе і не адыходзіць ні на крок.



Клава так і зрабіла. Не адказваючы ні слова збянтэжанаму Мішу, яна хуценька выбегла з шумнай залы і, абагнуўшы школу, пабегла да зацененых прысад.

Тут было зацішна і холадна. Задуменна шалясцеў ветрык у абмёрзлых галінках маладых ясакараў. Перад гэтым была адліга, а потым — мароз, і зараз дрэўцы ледзь чутна пазвоньвалі намёрзлымі ільдзінкамі. У высачэзным небе перамігваліся незлічоныя зоркі, і не было ім ніякай справы да клавінай крыўды, да юлікавай хлусні і анінай бессардэчнасці. Каля прысыпанай снегам бяседкі раслі клавіна і аніна таполі. Сяброўкі пасадзілі іх тады на вечную дружбу. Таполі выраслі і падужэлі. Клава абхапіла рукамі сваю таполю і прыціснулася шчакой да яе халоднай, абмёрзлай кары. «Табе цяжка? — здаецца, казала дрэўца. — Што-ж, пацярпі, дзяўчынка. Хто-ж думаў, што Аня такая нягодніца, а Юлік таксама не меншы нягоднік! Ці-ж не ён абяцаў табе вунь пад той бяседкай, што паедзе з табой у Кахоўку або на Волга-Дон? А што ён казаў табе, калі вы ішлі ў раён да вярбоўшчыка? Каб ты ехала з ім зараз, пасля навагодняга вечара. І ты радавалася і спявала. Ты нават бацькава пісьмо забылася прачытаць у той дзень, а прачытала яго толькі ўчора... А бацька-ж цікавіцца тваёй вучобай і абяцае прыехаць да цябе. Прыехаць? Куды ён прыедзе? Ты думала, што Клаўкі ён тут ужо не застане. Гэта добра, што якраз вярбоўшчык аказаўся ў ад'ездзе...»

І Клава ледзь-ледзь не расплакалася. Раптам яна пачула крокі. Дзве постаці, паскрыпваючы снегам, прайшлі пад бяседку, і дзяўчына зразумела, што гэта Аня і Юлік. Нават пачула характэрнае для Юліка пакашліванне, калі ён наважваецца каму-небудзь пярэчыць. Першай думкай было: бегчы адсюль, бегчы, каб не чуць, аб чым яны тут будуць замілавана шаптацца. Але яны зусім і не шапталіся. Аня голасна запыталася:

— І гэта ты так сур'ёзна думаеш, Юлік? І такія прапановы Клаўцы рабіў?

Юлік у адказ невыразна хмыкнуў і нешта прамармытаў. Клава насцярожылася.

— А падумаў ты сваёй галавой, што і табе і ёй трэба вучыцца і вучыцца? — працягвала Аня.

У аніным голасе пачуліся знаёмыя Клаве бязлітасныя ноткі, і яна адчула, як паступова лягчэе на сэрцы. Нават таполя цяпер шаптала нешта заспакойваючае, ласкавае.

— Ідзі адсюль, не трымай мяне на марозе і не паказвайся на вочы, чуеш? — раптам загаварыла Аня. — І не адурманьвай галаву Клаўцы, нікчэмны ты чалавек...

Юлік падняўся, насмешліва ўзяўся ў бокі і агрызнуўся:

— Падумаеш, вучоныя. І пажартаваць нельга...

Нават у цемры Клава заўважыла, як пабялеў твар яе сяброўкі. Юлік спалохана адступіў і, каб не набраць снегу (ён вышаў без галош), асцярожна падымаючы ногі, падаўся да школы.

Некалькі хвілін Аня стаяла, цяжка дыхаючы, потым вышла з бяседкі.

— Як я прагледзела, што гэты дурань ледзь не сарваў з вучобы сяброўку?—услых прамовіла яна.

А Клава стаяла каля таполі, баючыся выдаць сябе, і, затаіўшы дыханне, сачыла, як Аня паправіла накінутую на плечы пуховую хустку і паволі пайшла за занесеныя снегам клумбы.

Клава зразумела, што Аня знарок пайшла з Юлікам, каб адстаяць сяброўку, якой Юлік даўно прапанаваў пакінуць школу.

— Сярэдняя адукацыя? — часта гаварыў ён Клаве. — Глупства, можна цудоўна пражыць і без атэстата...

А яна, дурная, слухала, патаквала яму і не думала, да чаго можа прывесці гэтае празмернае захапленне танцамі і акардыёнам. Можа таму да гэтага часу яна сур'ёзна і не думала аб выбары прафесіі? Клаве зрабілася так сорамна, як ніколі ў жыцці.

Яна вышла з саду і пачула на школьным ганку бесклапотны смех. Клава спынілася, не дайшоўшы некалькі крокаў да школы. Ногі яе пачалі мерзнуць. Яе і цягнула да Ані і нешта не пускала, быццам зараз перад ёй была зусім не тая Аня Дубравіна, што правярала яе сачыненні.

Непрывычна вясёлая Аня сама наляцела на сяброўку і схапіла яе за руку.

— Клаўка, — зашаптала яна. — Там на ганку Міша цябе чакае. Ідзі паглядзі, як падыходзіць яму касцюм мядзведзя... А і дурны-ж ён, праўда?

Сяброўкі шчасліва засмяяліся.

**Ул. НЯДЗВЕДСКІ**

## ЖАДАННЕ

Спеў пачуццяў найлепшых,
Што ў сэрцы сагрэты,
Пакладу сціплым вершам
Я на крыллі газеты.

Да палеткаў зялёных,
Будаўнічых пляцовак
Панясуць паштальёны
Маё шчырае слова.

І калі яму ў полі
Аграном будзе рады —
Значыць, мне ён дазволіць
Быць у дружных брыгадах.

Як маё хваляванне
Муляру перадасца —
Побач на рыштаванні
З ім стаяць буду ў працы.

Як крану сваім словам
Я дзявочае сэрца —
Значыць, ранкам вясновым
Мне дзяўчына ўсміхнецца.

Як слязу ўтрэ хусцінай
Маці ў шчасці бязмерным —
Значыць, будзе Радзіма
Песні сынавай верыць.

**Аляксей КАРПЮК**

# Дзве сасны

Мал. З. Паўлоўскага.

Плыве па небе хмарка. То ўніз пазірае, то спыніцца ды слухае, як конікі ў траве трашчаць, як сцяблінкі збожжа дружна смокчуць зямлю, як шчабечуць у небе жаўрукі.

Напаткаўшы ў полі возерца, хмарка спынілася і заглядзелася ў люстраную ваду. Сонца хмарку ружовіла, вецярок пагойдваў лёгкім яе адзеннем. Але прачнуліся ў возерцы рыбы, сталі гуляць, усхвалявалі ваду — і люстра знікла.

Тады хмарка папрасіла сонца:

— Адлюструй мяне, калі ласка, на тым вунь полі ільну! Хачу яшчэ раз паглядзець на сябе з вышыні.

Абхапіла сонца хмарку промнямі, панесла яе на ільняныя палі. Патрывожаны лён прачнуўся, расплюшчыў мільёны здзіўленых вочак, і поле стала блакітным-блакітным.

— Ой, якая я прыгожая! — усклікнула хмарка, убачыўшы свой адбітак на блакіце ільну.

А вецер-жартаўнік падкраўся, дзьмухнуў, пагнаў па небе хмарку. Ударылася яна з разгону аб другую хмарку і прышчаміла сонцу праменні.

Разгневалася сонца, хацела вецер пакараць, ды ветра ў полі не знайсці і сонцу.

А дзве хмаркі злучыліся ў адну хмару, і паплыла гэтая хмара далей. Да яе з палёў падніmaліся росы, туман з лугоў хаваўся пад яе. Хмара пачула ў сабе нейкі цяжар. Цяпер ёй вельмі хацелася пастаяць на месцы. І хмара спынілася над ракой.

Каля ракі ляжаць штабелі, прывезеныя сюды здалёк. Як толькі вада ў рэчцы паднімецца, з бярвенняў людзі павяжуць плыты і пагоняць іх на вялікія будоўлі.



Наверсе штабеля ляжалі дзве сасны. Адна была малая, тоненькая, а другая — стройная і вялізная, як заводскі комін. Вялікая сасна хвалілася перад сваёй сяброўкай.

— Во глядзі, якая я! — і ва ўсю сваю даўжыню яна бліснула залацістай лускай кары.

— Дзе ты такая вырасла? Раскажы... — папрасіла малая сасна.

І вырашыла хмара падслухаць гэты расказ.

— Я расла ў пушчы, — пачала вялікая сасна, — куды нават вецер не залятае. Маіх карэнняў мароз не кранаў, на мне каршун сто год гняздзіўся, пада мною толькі дзікі звер прабягаў ды рэдка ляснік прыстаўляў да мяне стрэльбу, калі садзіўся адпачываць. Каля мяне ціха струменіла крынічка. А я сабе спакойна стаяла, расла.

За трыста год майго жыцця я хвалявалася толькі адзін раз. Гэта было нядаўна, у вайну. Паранены малады партызан ад ворага ўцякаў. Я з вышыні першая яго ўбачыла, першая ўбачыла за ім фашыстаў, якія беглі па лесе. У партызана былі ногі паранены, аднак ён поўз. Ён знясілеў дарэшты, патроны выстраляў, але аўтамата не кінуў. Адзін фашыст ішоў за ім з сабакам. І вось сабака трапіў на след. Зверху глядзелі сосны, дубы, елкі; яны шкадавалі партызана, хацелі дапамагчы. Але ніхто з нас не ўмеў размаўляць па-чалавечы, ніхто без пілы не ўмеў саскочыць са свайго пня і калодай загарадзіць дарогу фашыстам. Не маглі без сякеры падаць на зямлю, пад ногі ворагу, нашы галінкі.

Ужо сабака па следу даганяў партызана. Да раненага заставаўся ўжо толькі адзін куст арэшніку. Партызан дастаў фінку. У роспачы прытаіўся лес... Раптам з'явіўся зайчык. Забег ён пад нос сабаку, выскачыў з куста і закрычаў:

— О, вось я, бяры мяне! — а сам панёсся.

Сабака кінуў партызанаў след і пацягнуў у другі бок фашыста.

Загудзеў радасна лес, зашумелі кусты. А зайка запятляў, заблытаў свой след, схаваўся за куст, лапкай вусы папраўляе, смяецца. А сабака ўсё на адным месцы круціцца, на ўвесь лес цяўкае ды фашыста за сабою валочыць, толькі той паспявае ногі пераставяць.

Партызан уздыхнуў з палёгкай, схаваў у похву фінку і агледзеўся.

Крынічка да яго зацурчэла:

— Хадзі, хадзі да мяне, я твой след ад сабак утаю, гарачыя раны асвяжу!

Партызан прыпаў да крынічкі, напіўся, раны абмыў, пералез на другі бераг.

Я здалася яму самай прыгожай, ён мяне выбраў. Падпоўз, паклаў каля мяне аўтамат, на аўтамат галаву і заснуў. Я абагравала яго сваімі карэннямі, мох пад ім стараўся быць мяккім, халодныя травінкі да яго ран нахіліліся, мурашкі здалёк абыходзілі нас, каб не перашкодзіць яго адпачынку. Уверсе каршун насцярожыўся, выглядаў: ці не вяртаюцца фашысты; на каліне ціха дзінькала сінічка, каб лепей партызану спалася.

А тым часам сабака і зайца не дагнаў і след партызана згубіў. Фашыст раззлаваўся і стрэліў у лес. Куля паляцела ў наш бок, прабіла лісточкі асіне, сапсавала лісткі дубам, арэшніку, збіла верх рабіне. Я пабаялася, каб яна не кранула майго партызана, наставіла грудзі, і куля спынілася ў іх. Вось тут, бачыш, на самай сярэдзіне ствала, кружочак, як медаль. Гэтаму кружочку зайздросцілі векавыя дубы. З пашанай абнюхвалі мой медаль вавёркі.

Але-ж не доўга мне з ім прыйшлося красавацца. Аднойчы ляснік уважліва агледзеў мяне, паклікаў людзей. Людзі мяне спілавалі.

Вялікая сасна ўздыхнула.

— Добра мне жылося ў пушчы, шкада было яе пакідаць. Але хочацца свету пабачыць. Інжынер тут праходзіў, казаў, — можа на мачту караблю я пайду... Эх, як-бы хацелася мне яшчэ на карабель! Калі толькі ў гэтай рэчцы прыбудзе вада, калі нас у плыты павяжуць?..

Хмара слухала з затоенай цікавасцю.

— Ну, а ты пра сябе раскажы, — сказала вялікая сасна.

І меншая сасна пачала гаварыць:

— Ты расказвала цікава. Але не надта хваліся. Я таксама сёе-тое бачыла. Я расла на беразе мора. Адна. Бацькоў сваіх не памятаю. Казалі чайкі, што насеннем занёс мяне вецер з пушчы. На беразе насенне прысыпала пяском. Дожджык змачыў пясок, я стала расці. Ад ветру навокал трава не трымалася, пясок не ўлежваў, а я ўсё расла. Часамі ў буру хвалі даставалі хмар, на кавалкі рвалася мора, маланкі неба калолі, я гнулася да самай зямлі, але расла. Зімой мяне лёд скоўваў, з мора, як горы, крыгі на мяне паўзлі, а я расла. Расла я і смела глядзела ў вочы нягодам. Ростам я не ўдалася. Вядома, куды мне да цябе! Але ўспомні, што казаў інжынер, праходзячы каля нас: тваё цела — бручка, маё — сталь! Ты марыш цяпер, каб хоць паленам папасці на мора, а я ўсё жыццё там была!

Малая сасна памаўчала.

— А вайна і мяне не мінула, — гаварыла яна далей. — Аднойчы адзін рыбак стаў развешваць на мне сеці, другія нахіліліся над лодкамі. Была ціхая, спакойная раніца. Мора, як люстра, ляжала, вецярок яшчэ драмаў, весела пераклікаліся чайкі. Задымілі каміны рыбацкіх хат, рыбачкі снеданне пачалі варыць. На даляглядзе з'явіліся караблі. Выбеглі на бераг дзеці, замахалі караблям рукамі. Ды раптам адзін за адным загрымелі страшэнныя выбухі. Паляцелі ў мора рыбацкія хаты, забегалі ў роспачы людзі. Маленькі хлопчык схаваўся за мой ствол, прытаіўся. Я не тоўстая, а хлопчык быў яшчэ танчэйшы. Мяне ўсю пасекла асколкамі, абсмаліла агнём, а ўсё-ж хлопчыка я зберагла. Калі нашыя караблі адагналі фашыстаў, хлопчык доўга бегаў па беразе, клікаў бацькоў. Ніхто не адгукаўся, бо хто ў моры ўтапіўся, хто жывым згарэў, каго пяском навекі засыпала. Хлопчык вярнуўся, абняў мяне і доўга плакаў. Жаласліва крычалі чайкі, ціхім усплескам спачувала мора, а ўдалі грозна грымела — гэта нашыя караблі тапілі фашыстаў.

А нядаўна на бераг прыехалі людзі. Малады чалавек, якога ўсе звалі інжынерам, абняў мой ствол і засумаваў. Я пазнала яго...

Ну, што-ж, потым мяне спілавалі і прывезлі сюды. Ах, як шкада было расставацца з морам!...

Ды мы з табой яшчэ паслужым людзям. Ты мачтай станеш, я шпалай лягу пад рэйкі на беразе. Буду ў дарогу цябе праводзіць, выглядаць цябе з берага, твой карабель здалёк пазнаваць. Толькі калі ўжо той дождж будзе? Во, глядзі, хмара!..

Хмары раптам захацелася спусціцца на зямлю і дапамагчы гэтым соснам. І яна закрычала:

— Я падаю, сцеражыся!

Бліснула маланка, пасекла хмару на мільёны кропель. З ціхім звонам кропелькі пасыпаліся на зямлю, струменьчыкамі пабеглі ў раку, напоўнілі яе да берагоў. Здаецца, нічога не значыць адна кропля, але мільёнамі срэбных плячэй сваіх кропелькі лёгка паднялі плыты і, пагойдваючыся, панесліся дзве сасны па рацэ.

У шлях далёкі іх праводзіла вясёлка. Вялікая — на ўсё неба.





# ПЁТР КУПРЫЯНАЎ

**Г. МІХАЙЛАЎ**

Поезд імчаў на захад. Фашысты ехалі амаль без супынку, баючыся, каб нявольнікі, якіх яны везлі на катаргу ў Германію, не паўцякалі. У вагонах былі юнакі і дзяўчаты, якіх гітлераўцы гвалтоўна прымусілі пакінуць радзіму. Сярод іх знаходзіўся і Пётр Купрыянаў.

Яго ўкінулі ў вагон у Барысаве. Хлопец некалькі часу ляжаў нерухома. Усе са спачуваннем глядзелі на гэтага змардаванага юнака, твар якога быў увесь у сіняках і ў крыві, кашуля парваная. Калі яму далі піць, ён апрытомнеў і запытаў.

— Куды нас вязуць?

— У Нямеччыну...

Юнак раптам сеў, і выраз яго твару пераменіўся. Ён стаў рашучым і мужным. «Як, на катаргу, у Германію?.. — маланкай пранеслася думка. — Зноў пакутаваць?».

Пятру ўспомніліся жахлівыя дні ў фашысцкай турме. Ён не забудзе іх ніколі. У жніўні 1942 года гітлераўцы схапілі хлопца ў роднай вёсцы Жодзіна і прывезлі ў Барысаў. Яго кінулі ў сырую камеру турмы. «Нехта выдаў, што я партызанскі сувязны», — вырашыў Пётр Купрыянаў. Праз дзень яго выклікалі да тоўстага эсэсаўца. Не паспеў хлопец добра агледзецца ў пакоі, як сюды прынеслі на насілках яго старэйшага брата Валодзю з забінтаванымі нагамі і грудзьмі. Ён быў ледзь жывы... Пятру хацелася кінуцца да яго, але ён стрымаўся і адмоўна кіўнуў галавой.

— Прынясіце другога! — загадаў эсэсавец.

І сапраўды, хутка ў пакой прынеслі на насілках і другога брата Пятра Купрыянава — Міхаіла. Той у некалькіх месцах таксама быў перабінтаваны. У Пятра закружылася галава. Але так было толькі адзін момант. Ён вырашыў: штоб ні было з ім, а сваіх братоў-партызан не выдаваць ворагу. Ён зразумеў, што з імі здарылася вялікая бяда, што фашысты ў час бою з партызанамі захапілі іх паранеными. І юнак больш не сказаў фашыстам ні слова. Яго катавалі амаль кожны дзень, зноў і зноў пыталіся пра размяшчэнне партызанскага атрада. Ён маўчаў. Даведаўшыся, што ў турме памерлі яго абодва старэйшыя браты, ён пакляўся адпомсціць фашысцкім бандытам.

І вось вагон калыша яго па рэйках чыгункі.

Ноч, але юнак не можа заснуць. Ён уважліва аглядае сцены, спасцярожліва мацае іх рукамі і, нарэшце, знаходзіць месца, дзе можна праламаць дошкі. У Смалявіцкіх лясах ён выскачыў з вагона, а раніцай з'явіўся ў партызанскі атрад «За Радзіму».

Так пачалося баявое жыццё шаснаццацігадовага юнака Пятра Купрыянава. У атрадзе хутка палюбілі смелага і кемлівага хлопца. Ён хутка авалодвае зброяй, становіцца добрым разведчыкам, затым кулямётчыкам і выдатна выконвае кожнае заданне камандавання. У адным з баёў мужна прыкрывае сваім кулямётам адыход атрада і атрымлівае затым першую падзяку камандавання.

З групай падрыўнікоў Пётр не раз ходзіць на чыгунку і пускае пад адхон фашысцкія эшалоны.

За два гады партызанскай барацьбы ён яшчэ больш узмужнеў, стаў сапраўдным воінам. І калі ў ліпеньскія дні сорак чацвертага года Анастасія Фамінічна Купрыянава зноў сустрэлася са сваім сынам, пачуццё гонару запоўніла яе душу. Перад ёю стаяў шыракаплечы хлопец, герой. Маці ласкава сказала:

— Вось, сынок, і на нашай вуліцы свята. Праклятых фашыстаў прагналі. Цяпер можна і дадому.

— Не, мама, яшчэ не час, — адказаў Пётр. — Я хачу разам з баявымі таварышамі дайсці да Берліна, каб канчаткова разграміць фашыстаў.

На грудзях восемнаццацігадовага Пятра Купрыянава ззяў медаль «Партызану Айчыннай вайны» I ступені. Байцы батальёна, куды ён быў залічаны, з пашанай паглядалі на медаль і гаварылі:

— Хоць малады, але, відаць, ужо даваў перцу фашыстам!

Маладога байца прынялі ў часці, як у роднай сям'і. Ён асвойвае абавязкі аўтаматчыка — танкавага дэсантніка. Справа гэтая была новай для юнака. Дапамаглі старэйшыя. На адным з заняткаў яны паказалі, як дэсант павінен абараняць танк ад раптоўнага нападу «фаўстнікаў», як трэба знішчаць агнявыя кропкі ворага. Хлопец хутка асвоіўся ў часці і добра вывучыў свае абавязкі.



Герой Савецкага Саюза Пётр Купрыянаў.

Аднойчы комсорг роты даў Купрыянаву брашуру аб подзвігу Аляксандра Матросава. Затаіўшы дыханне, чытаў малады воін аб жыцці і баявой славе свайго аднагодка. А калі кніга была прачытана, ён сказаў сваім таварышам:

— Так, трэба ваяваць, як Аляксандр Матросаў!

З гэтага часу пачалася дружба радавога Купрыянава з комсоргам роты. Малады воін чытаў кнігі аб слаўных подзвігах комсамольцаў. Юнак сэрцам любіў іх. Глыбокае пачуццё адданасці сваёй Радзіме вяло яго на подзвігі.

... Аднойчы на ўчастку наступлення вораг сканцэнтраваў моцны артылерыйскі агонь. Нашы танкі сумесна з дэсантам на вялікіх хуткасцях урываліся ў размяшчэнне ворага. Ішоў гарачы бой. Снарад разбіў гусеніцу танка, дзе сядзеў ефрэйтар Купрыянаў. Пётр узняўся з аўтаматам і хацеў скамандаваць сваім дэсантнікам заняць кругавую абарону, але ўбачыў, што ад усёй групы застаўся жывым толькі ён адзін.

Механік-вадзіцель адкрыў люк і сказаў ефрэйтару:

— Крышка, браток, паўзі сюды, у танк!

Купрыянаў не адказваў. Агледзеўшы запасныя дыскі, ён нырнуў у траву і папоўз насустрач немцам. І толькі тады механік зразумеў, што аўтаматчык — мужны воін, дасць магчымасць адрамантаваць гусеніцу. Экіпаж танка ўзяўся за справу.

Тым часам Пётр падпускаў фашыстаў усё бліжэй і бліжэй. Яны падыходзілі да танка шырокім поўкругам. Баец чакаў патрэбнай хвіліны. Нарэшце ён падпусціў гітлераўцаў зусім блізка і даў чаргу. Адразу перапоўз на другое месца. Зноў даў чаргу. Варожыя кулі звінелі над яго галавой. Але ён, здавалася, нічога не чуў. Толькі калі быў пастаўлены апошні дыск, яму стала раптам вельмі холадна. Цяпер ён біў адзіночнымі стрэламі.

Але вось прышло і тое страшнае імгненне, якога ён баяўся больш за ўсё. Пётр націснуў на спускавы кручок і не пачуў стрэлу. У гэтую найбольш цяжкую і небяспечную хвіліну радасна і ўрачыста загуў за яго спіной матор танка. Танк пранёсся міма Пятра, абдаючы яго гарачынёй. Вораг адступіў...

І ўсюды, дзе было небяспечна, байцы бачылі наперадзе Пятра Купрыянава. Ён паказваў прыклад астатнім, не раз выручаў сваіх таварышаў, не шкадуючы свайго жыцця.

Неяк перад боем ён прынёс комсоргу заяву: «За любімую Радзіму хачу змагацца комсамольцам. З чэсцю апраўдаю гэтае высокае званне». Комсамольская арганізацыя разгледзела заяву Купрыянава і прыняла яго ў свае рады. Пасля гэтага ён з запалам пачаў выконваць першае комсамольскае даручэнне — працаваў узводным агітатарам.

У канцы лістапада 1944 года часць, у якой служыў Пётр Купрыянаў, атрымала заданне ліквідаваць абкружаную курляндскую групоўку ў Прыбалтыцы. Асабліва жорсткія баі разгарнуліся за авалоданне вельмі важнай вышынёй 107,7, з якой можна было весці абстрэл усіх умацаванняў ворага. На вышыні быў абсталяваны магутны дзот, з якога няспынна пасылалі смерць некалькі кулямётаў. Часць залегла. Ефрэйтар Купрыянаў і яшчэ некалькі байцоў атрымалі заданне знішчыць варожы дзот на вышыні. Узяўшы гранаты, Купрыянаў з таварышамі папоўз да яе. Байцы бачылі, як замертва ўпалі амаль усе іх пасланцы, адзін Пётр усё яшчэ асцярожна поўз наперад. Вось ён размахнуўся і кінуў у дзот гранаты. Два кулямёты змоўклі. Але як толькі байцы ўзняліся ў атаку, загаварыў трэці кулямёт ворага.

Цяпер Купрыянаў адчуваў, што ўсе глядзяць і спадзяюцца на яго. Ад яго рашучасці залежала выкананне задачы. Мінутная пауза — і вось пачуўся яго голас:

— Гады фашысцкія, усёроўна вам не выйсці адгэтуль!

Баец смела папоўз да дзота. Вось ужо некалькі крокаў аддзяляе яго ад дзота. Узняўшыся на ўвесь рост, ён голасна крыкнуў:

— Будзем дастойнымі Матросава! — і кінуўся да дзота.

Натхнёныя подзвігам свайго таварыша, байцы рынуліся наперад і разграмілі ворага.

Герой Савецкага Саюза Пётр Купрыянаў навечна занесены ў спісы часці, у якой служыў і змагаўся. Воіны гэтай часці свята ўшаноўваюць памяць аб сваім баявым таварышу. Штодзённа на вячэрняй паверцы першым выклікаюць яго праслаўленае імя, і правафланговы камандзір аддзялення адказвае:

— Герой Савецкага Саюза ефрэйтар Пётр Купрыянаў загінуў смерцю адважных у баі за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы!

І. НІСНЕВІЧ

# ТАНЦАВАЛЬНЫ КАЛЕКТЫЎ чыгуначнікаў



Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Рыбальчанка.

Калі ў 1936 годзе Гомельскаму чыгуначнаму клубу імя Леніна было прапанавана прыняць удзел ва Усесаюзным фестывалі народнага танца, танцавальная група складалася ўсяго з дзевяці чалавек. Кіраўніка тут не было, і гуртюўцы выконвалі толькі адзін танец — «На рэчаньцы».

Безумоўна, пра тое, каб паслаць такі калектыў на фестываль, не магло быць і гутаркі. І тут кіраўнікам клуба прышла думка—стварыць ансамбль танца. Быў аб'яўлен набор, і за два дні восемдзесят пяць чалавек падалі заявы з просьбай залічыць іх у самадзейны танцавальны калектыў. Сярод новых аматараў танца былі слесары Нікалай Падасінаў і Аркадзь Шайкевіч, комсамольскі работнік Іван Сакалоў, ударніца сталінскага прызыву электразваршчыца Лена Панькова, школьніца Вера Бурэц і многія іншыя.

Лене Паньковай пры ўступленні ў танцавальны калектыў прышлося сустрэцца з нечаканымі «перашкодамі». Яе муж Іван Назарэнка лічыў, што ёй, маці двух дзяцей, «несалідна» захапляцца танцамі. Заўзятая танцорка, Лена не толькі пераадолела гэтую «перашкоду», але ўцягнула і мужа ў танцавальны калектыў. І калі раней муж і жонка спаборнічалі як ударнікі-электразваршчыкі, дык цяпер яны імкнуліся не ўступіць пяршынства і ў танцавальным калектыве.

Спачатку ў ансамблі чыгуначнікаў прафесіянальнага балетмайстра не было. У горадзе працаваў тэатр рабочай моладзі, мастацкім кіраўніком якога быў народны артыст БССР Е. А. Міровіч. Асістэнтам рэжысёра быў А. А. Рыбальчанка.

Былы чорнарабочы Гомельскага вагонарамонтнага завода А. А. Рыбальчанка яшчэ ў часе работы ў дэпо ўвесь свой вольны час аддаваў рабоце ў тэатры рабочай моладзі. Калі ён перайшоў на сталую работу ў тэатр, у яго выявіліся вялікія здольнасці да харэаграфіі. А. А. Рыбальчанка пачаў перыядычна браць урокі ў аднаго з буйнейшых у Беларусі спецыялістаў па народнаму танцу К. А. Алексютовіча.

Калі арганізаваўся ансамбль танца чыгуначнікаў, Аляксандр Аляксеевіч Рыбальчанка стаў яго кіраўніком. Ён пачаў рыхтаваць да Усесаюзнага фестываля народныя танцы «Крыжачок» і «Лявоніху».

Выступленне гамельчан на фестывалі прайшло вельмі паспяхова. Аб іх пісалі «Правда», «Труд», «Гудок», «Советское искусство». Запрашальныя білеты на заключны канцэрт былі аформлены эпізодамі з «Лявоніхі» ў выкананні ансамбля. Але найвышэйшай ацэнкай танцавальнага калектыва было запрашэнне яго ўдзельнічаць у канцэрце для дэлегатаў VIII Надзвычайнага з'езда Советаў.

У 1938 годзе ў жыцці танцавальнага калектыва адбылася важная падзея; акрамя групы дарослых танцораў, у ім была арганізавана дзіцячая група хлопчыкаў. Гісторыя стварэння гэтай групы такая. На адной з алімпіяд дзіцячай мастацкай самадзейнасці А. А. Рыбальчанка звярнуў увагу на тое, што ва ўсіх дзіцячых калектывах ролі хлопчыкаў выконвалі пераапранутыя дзяўчынкі. Для папулярызацыі сярод хлопчыкаў танцавальнага мастацтва ён рашыў стварыць танцавальны дзіцячы калектыў з ліку найбольш таленавітых дзяцей чыгуначнікаў Гомельскага вузла. У склад гэтага калектыва ўвайшлі Косця Бурэц, Шура Неваднічы, Вова Акенчыц, Віля Антонаў, Валодзя Платонаў, Ігар Пілевін, Вася Яўменка і Валодзя Галіноўскі. Цэлы год ішла падрыхтоўка рэпертуара і нарэшце паявілася першая маладзёжная пляска «Юныя чыгуначнікі». Задума паставіць гэтую пляску ўзнікла ў Аляксандра Аляксеевіча ў сувязі з тым, што Гомельскі чыгуначны вузел абсталяваў для дзяцей «Малую Беларускую чыгунку», на якой рэбяты вучыліся тым працоўным працэсам, якія звязаны з работай на транспарце.

Сюжэт пляскі быў такі: юныя чыгуначнікі рыхтуюць поезд «Малой Беларускай чыгункі» да адпраўлення. Дадзены званкі, сігнал дзяжурнага — і поезд рушыў у дарогу. Апошні раз мільгнуў флажок кандуктара, і задаволеныя тым, што ўсё зроблена як належыць, юныя чыгуначнікі пачынаюць сваю пляску.

У 1939 годзе, у дзень 20-годдзя БССР, за паспяховую работу па развіццю танцавальнага самадзейнага мастацтва калектыў Гомельскага клуба імя Леніна быў узнагароджаны граматай Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, а яго кіраўнік А. А. Рыбальчанка — Ганаровай граматай. Калектыў пачаў рыхтавацца да ўдзелу ў дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве.

Асаблівы поспех на дэкадзе выпаў на долю дзіцячага ансамбля, які ўдзельнічаў і ў заключным канцэрце ў Вялікім тэатры. Увесь друк адзінадушна адзначаў выключнае майстэрства гэтага маладога калектыва.

Так ансамбль гомельскіх чыгуначнікаў атрымаў усесаюзную вядомасць.

Вялікая Айчынная вайна часова спыніла творчую работу таленавітага калектыва. Ідуць на фронт яго кіраўнік А. А. Рыбальчанка, а таксама Канстанцін Бурэц, Уладзімір Платонаў, Таня Юркова становіцца адважнай партызанкай. Многія ўдзельнікі танцавальнага калектыва эвакуіруюцца ў совецкі тыл.

У час вайны па-геройску загінула Таня Юркова. Канстанціну Бурэц прысвойваецца званне Героя Совецкага Саюза. Уладзімір Платонаў становіцца вядомым лётчыкам-знішчальнікам. А. А. Рыбальчанка становіцца адважным воінам і ўзнагароджваецца ордэнам Чырвонай Звязды і медалем «За баявыя заслугі».

У снежні 1943 года, калі Гомель быў вызвалены ад фашысцкіх захопнікаў, пачынае адраджацца і танцавальны калектыў чыгуначнікаў. Спачатку ім кіруе выхаванец гэтага-ж калектыва Аркадзь Шайкевіч. У першым-жа рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасці гамельчане займаюць сваё традыцыйнае першае месца.

Дэмабілізаваўшыся з радоў Совецкай Арміі ў 1945 годзе, Аляксандр Аляксеевіч зноў становіцца на чале калектыва. У ансамбль прышло новае таленавітае папаўненне: токар Парфен Ганчароў, электразваршчык Барыс Ісачанка, метэаролаг Галіна Сідаровіч, сталяр Нікалай Хмялеўскі, спартсменка Тамара Коўжун. Пачынаецца напружаная, але захапляючая работа па стварэнню рэпертуара, па аваloданню тэхнікай танца.

У 1946 годзе ў Маскве праходзіў Усесаюзны агляд музычнага і харэаграфічнага самадзейнага мастацтва. У ім удзельнічаў і Гомельскі танцавальны калектыў чыгуначнікаў.

У Маскве, на сцэне Вялікага тэатра, ансамбль паказаў цікава задуманую і інсцэніраваную харэаграфічную паэму «Мяцеліца».

... Ясным зімовым ранкам ідуць дзяўчаты на рэчку бяліць палотны. Захапіўшыся работай, яны і не заўважылі, як да іх падкраліся хлопцы і, забраўшы каромыслы і пранікі, схаваліся. Адзін з хлопцаў застаецца. Падышоўшы да дзяўчат, ён жартам спрабуе спіхнуць адну з іх у палонку. Сяброўкі кідаюцца ёй на дапамогу. Цяпер павінен абараняцца хлопец, але і яго сябры не пакідаюць у «бядзе». Пачынаецца вясёлая, поўная юнацкага задору гульня ў снежкі, якая непрыкметна пераходзіць у імклівы, жыццерадасны танец «Мяцеліца». Раптам падзьмуў ха-



**Танец «Чарот» у выкананні Тамары Коўжун і Барыса Ісачанкі.**
Фота Н. Дзяругіна (Фотахроніка БЕЛТА).

лодны вецер. У паветры закружыліся мірыяды сняжынак. Пачынаецца мяцеліца. Танцоры парамі выбягаюць за кулісы.

Паказ «Мяцеліцы» быў горача ўспрыняты гледачамі як узор сапраўднай культуры і народнасці ў выкананні.

Паспяхова паказалі гамельчане і другую сваю работу — «Сустрэча пераможцаў». Друк адзначаў, што гэта ўзор таго, як можна адлюстраваць савецкую рэчаіснасць сродкамі танца.

Вярнуўшыся з Усесаюзнага агляду, ансамбль пачаў рыхтавацца да 30-годдзя Кастрычніка. Былі падрыхтаваны новыя пастаноўкі: «Беларуская сюіта», украінская і руская маладзёжныя пляскі і інш. Майстэрства калектыва становіцца ўсё больш сталым. Аб гэтым сведчыць і прысваенне А. А. Рыбальчанку ганаровага звання заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, і выдатны поспех ансамбля на Усесаюзным аглядзе мастацкай самадзейнасці ў 1951 годзе, калі «Правда» пісала аб віртуозным выкананні чыгуначнікамі Гомеля народных танцаў, а журы агляду адзначыла наватарства калектыва, яго ўменне ўзбагаціць народны танец элементамі новага, што народжана нашым жыццём.

Удзельнікі ансамбля правільна зразумелі, што асновай іх работы павінна быць вывучэнне народнай танцавальнай творчасці. Яны не аднойчы выязджалі ў калгасы і вывучалі народную манеру выканання танцаў.

Асновай усякага танца з'яўляецца не яго вонкавыя рысы, не прыгажосць асобных рухаў, а перш за ўсё паказ духоўнага вобліку народа, яго настрояў, перажыванняў. Гэтым прынцыпам кіруецца ў сваёй рабоце танцавальны калектыў. І там, дзе ён часам адыходзіў ад гэтага творчага прынцыпа, захапляўся знешняй прыгажосцю, яго сустракалі няўдачы. Так атрымалася з «Чырвонафлоцкай сюітай» — наборам маляўнічых танцавальных рухаў і выпадковых сцэн, якія не даюць уяўлення аб жыцці і працы людзей.

Бясспрэчны ўплыў на паспяховую работу калектыва мае правільная пастаноўка вучэбна-метадычнай работы. Удзельнікі ансамбля ўмеюць правільна спалучаць сваю вытворчую работу з заняткамі ў самадзейнасці. Лепшыя ўдзельнікі танцавальнага калектыва з'яўляюцца і лепшымі работнікамі чыгуначнага вузла. Сярод іх — памочнікі машыністаў Леанід Дабравольскі і Віктар Маркаў, якія працуюць у камсамольскай паравознай брыгадзе, лінейны гідраметэаролаг Галіна Сідаровіч, стаханаўка Ліда Майсеенка і многія другія.

Усе без выключэння ўдзельнікі любяць свой ансамбль, ганарацца ім. Пятнаццаць год працуе ў танцавальным калектыве праваднік пасажырскіх паяздоў Б. Міхайлаў. «З першых дзён мы, гурткоўцы, убачылі, што нам прадстаіць сур'ёзная і ўпартая праца, — расказвае таварыш Міхайлаў. — Наш кіраўнік вельмі патрабавальны. Ён не рабіў ніякіх скідак нікому з нас. І сур'ёзныя цяжкасці не спалохалі нікога. Сардэчная таварыская дружба, настойлівасць у дасягненні мэты, моцная дысцыпліна, любоў да мастацтва — вось тыя якасці, якія заўсёды дапамагалі нам у рабоце».

Многія выхаванцы Гомельскага танцавальнага калектыва з'яўляюцца артыстамі прафесіянальных ансамбляў краіны.

Танцавальны калектыў чыгуначнікаў даў 800 канцэртаў для рабочых вузлавых і лінейных станцый, калгаснікаў, на агітпунктах і выбарчых участках. Ён пятнаццаць разоў узнагароджаны ганаровымі граматамі Вярхоўнага Совета БССР, ВЦСПС, Камітэта па справах мастацтва, занесены ў кнігу гонару абласной камсамольскай арганізацыі, неаднаразова прэміраваны грашовымі прэміямі.

Зараз ансамбль працуе над новымі праграмамі. Тут і харэаграфічная кампазіцыя «Мы — мірныя людзі», і пастаноўка новых танцаў. Вялікая харэаграфічная культура калектыва, таленавітасць яго мастацкага кіраўніка і ўсіх удзельнікаў, гарачае жаданне зрабіць сваё мастацтва блізкім народу дапамогуць гомельскім аматарам мастацкай самадзейнасці справіцца са сваімі творчымі задачамі.

**Выступленне ансамбля перад рабочымі-чыгуначнікамі.**



# Кніжная паліца

## „На беразе Севана“ *

Юныя натуралісты, жыхары армянскага сяла Лічк — Камо, Грыкор, Армен, дзяўчынка Асмік — гэта надзвычай дапытлівыя людзі. Яны пачынаюць сваю дзейнасць з невялікай, на першы погляд, справы. У неспакойнай галаве Камо з'явілася ідэя арганізаваць ферму дзікіх птушак. І вось рэбяты заняліся зборам яек. У сітняках, у самых непралазных мясцінах пабывалі школьнікі. Ім дапамагае дзед Асатур, які ўсё жыццё закаханы ў прыроду, добра ведае і разумее яе. Рэбяты арганізоўваюць своеасаблівую птушкаферму: там выводзяцца і гадуюцца ныркі, казаркі, сінія качкі.

Старшыня калгаса Баграт дапамагае рэбятам у іх цікавых справах: ён аддае для фермы інкубатары, клапоціцца пра корм для будучых птушанят. Баграт здаецца дзецям вельмі строгім чалавекам. Але за знешняй суровасцю хаваецца добрае, шчырае сэрца.

Не толькі птушкафермай заняты нашы юныя натуралісты. Вось мы сядзім з імі на схіле гары і любуемся вялізным возерам Севан.

«Чытач! Праязджаючы ў чэрвені цераз Сямёнаўскі перавал, ты не здолееш утрымацца ад захаплення, калі ўбачыш возера Севан! Якбы ты ні спяшаўся, спынішся, каб атрымаць асалоду ад непараўнальнай прыгажосці воднага блакіту, што песціцца ў абдымках гор», — піша В. Ананян у аповесці «На беразе Севана».

Але нашыя героі не толькі захапляюцца прыгажосцю прыроды, яны нястомна думаюць пра яе ўдасканаленне, яны імкнуцца падпарадкаваць чалавеку стыхію.

Доўгія стагоддзі навакольных жыхароў палохаў дзікі і незразумелы рэў: «Здавалася, нехта адрывіста, з цяжкасцю аддыхваючыся, дзьме пад вадою ў велізарную медную трубу».

Нават мудры дзед Асатур хмурнеў, пачуўшы гэтыя гукі. Ён тлумачыў гэтую з'яву па-свойму: крычаў і гневаўся на людзей вадзяны дракон — вішап. Але такое тлумачэнне не магло задаволіць рэбят. Пачаліся сур'ёзныя, поўныя цікавых прыгод пошукі. Рэбяты ўзрываюць чорныя скалы і вызваляюць з шматвяковай змрочнай цямніцы цудоўны магутны вадаспад. Апісваючы захапленне калгаснікаў, якія глядзелі на вызвалены паток, аўтар піша аб радасных перажываннях аднаго з герояў аповесці — адважнага юнака Камо: «Твар хлопчыка ззяў. З пачуццём глыбокага задавальнення глядзеў ён на халодныя струмені вызваленай ім і яго таварышамі вады, і сэрца яго было поўна бязмежнага шчасця. Ім, юным грамадзянам вялікай Савецкай краіны, удалося ажыццявіць спрадвечную мару свайго народа...»

З вялікай цікавасцю чытаюцца старонкі аповесці, прысвечаныя гістарычным знаходкам. Так, шукаючы ў пячорах соты дзікіх пчол, юныя натуралісты знаходзяць пярсцёнак-пячатку выдатнага палкаводца Артака, які жыў і ваяваў шмат стагоддзяў назад. Знаходзяць яны велізарны шчыт, меч і іншыя рэчы — каштоўныя знаходкі для навукі. Акадэмія навук Армянскай ССР зацікавілася імі, і прыехаўшы з Ерэвана прафесар Севян прыходзіць у захапленне ад разумных і смелых юнакоў сяла Лічк.

Аповесць В. Ананяна «На беразе Севана» зацікаўлівае чытача не толькі напружаным апісаннем падзей, але, галоўным чынам, паказам саміх герояў.

Надоўга застануцца ў памяці і сур'ёзны, удумлівы Армен, і вясёлы нават у самыя трагічныя моманты Грыкор, і трохі баязлівая клапатлівая гаспадынька Асмік. Кранаюць сваёй чысцінёй і непасрэднасцю адносіны паміж Камо і Асмік, у якіх нараджаецца пачуццё першага, юнага кахання.

Вельмі ярка паказаны пісьменнікам вобраз старога паляўнічага Асатура. Дзед суправаджаў рэбят ва ўсіх паходах, вучыў іх чытаць вялікую кнігу прыроды. А якія цудоўныя, рамантычныя легенды расказвае ён сваім юным сябрам! Асабліва запамінаецца легенда, у якой перададзена адвечная мара народа аб вадзе — крыніцы дастатку і багацця.

Але дзед Асатур мае і свае недахопы: ён з вялікай цяжкасцю вызваляецца ад рэлігійных забабонаў і ад уласніцкіх перажыткаў. Усё жыццё ён марыў аб тым, каб разбагацець, і калі ён знаходзіць скарб — старажытны збан з каштоўнасцямі, то ў душы яго адбываецца цяжкая і складаная барацьба. Асатур доўгі час змагаецца сам з сабою. Аддаць ці не аддаць дзяржаве знойдзены скарб? Але ўбачыўшы, што рэбяты не шкадуюць для навукі самага каштоўнага ў свеце — свайго жыцця, дзед прыносіць скарб калгаснікам. «Жыццём гэтай моладзі клянуся, — гаворыць далей дзед, — што сумленне мяне ўвесь час мучыла. У хляве хаваў. Хадзіў, даставаў, узвальваў на плечы — занесці, аддаць, але... ногі не неслі... І думаў: няўжо я, паляўнічы Асатур, які ніколі ў жыцці сваім не рабіў нічога ганебнага, гонар свой страціў з-за гэтай старызны?» Пералом у псіхіцы дзеда Асатура паказаны пісьменнікам надзвычай пераканальна.

Чытач так шчыра палюбіў герояў кнігі «На беразе Севана», што пасапраўднаму хвалюецца за іх лёс і жыццё. Вось Камо трапляе ў бяду, ён ледзь не гіне ў час выбуховых работ. І мы цяжка перажываем гэта разам з яго сябрамі і радуемся яго выздараўленню. Калі Камо праз некалькі дзён пасля няшчаснага выпадку, зноў адчуўшы сябе здаровым і бадзёрым, на досвітку захапляецца прыгажосцю абуджэння прыроды,—мы захапляемся разам з ім.

Аповесць «На беразе Севана» В. Ананяна выдадзена на беларускай мове ў добрым перакладзе С. Міхальчука.

Хочацца, каб наша выдавецтва часцей радавала чытачоў выданнем лепшых твораў братніх літаратур, якія вучаць нас пазнаваць і любіць гісторыю, побыт народаў, прыроду самых розных куткоў нашай вялікай Радзімы.

**Эдзі АГНЯЦВЕТ.**

* В. АНАНЯН. «На беразе Севана». (Аповесць з жыцця юных натуралістаў.) Дзяржвыдавецтва БССР, Мінск, 1953.

## БУДАЎНІКІ МАЛОГА ФЛОТА

Шляхі іх да мадэлізма розныя.

Вайна застала Віктара Міхайлавіча Ермакова за фрезерным станком на Маскоўскім аўтазаводзе імя Сталіна. Неўзабаве ён змяніў рабочы камбінезон на флоцкі бушлат. Шэсць год працаваў ён затым на падводнай лодцы Ціхаакіянскага флота, прымаючы ўдзел у шматлікіх небяспечных аперацыях. Гэта вырашыла яго лёс пасля вайны. У 1948 годзе, скончыўшы курсы марскога мадэлізма пры Цэнтральнай лабараторыі ДТСААФ і атрымаўшы за выдатныя веды грамату, ён прыехаў у сталіцу Беларусі з вялікім жаданнем вучыць дзяцей і моладзь цяжкай, але захапляючай справе — канструяванню мадэлей караблёў.

Разам з многімі вучнямі мінскіх школ адным з першых прышоў у гурток марскога мадэлізма пры Мінскім Палацы піянераў Валерый Гарабцоў. Вялікім было жаданне рэбят займацца ў гуртку, але ніхто з іх не ведаў, што і як яны будуць вывучаць. Казалі, што кожны атрымае адразу інструмент і матэрыялы і будзе габляваць, пілаваць, клеіць.

Але на справе не так лёгка было ўсё гэта.

На першых-жа занятках кіраўнік гуртка Віктар Міхайлавіч папярэдзіў:

— Рэбяты! Каб будаваць мадэлі, мала жадання займацца. Трэба шмат вучыцца, пачынаючы з таго, як трэба трымаць у руцэ малаток, і канчаючы веданнем электраматораў, складаных прыбораў, марскіх тэрмінаў. Таму тыя, хто прышоў у гурток дзеля гульні, адразу павінны пакінуць яго.

Кіраўнік спадабаўся сваёй шчырасцю і сур'ёзнасцю. Рэбяты паверылі ў яго магчымасці па-сапраўднаму навучыць іх, а неўзабаве пераканаліся і ў глыбіні яго ведаў.

Ермакоў разлічыў курс заняткаў на два гады. Спачатку гурткоўцы добра вывучылі класіфікацыю караблёў, сцяжковы семафор, навучыліся кіраваць шлюпкай, правільна карыстацца і падбіраць дрэва для розных частак карабля. Потым пачалі выконваць мадэлі спартыўных яхт.

Самае складанае і цяжкае пачалося з другога года навучання. Юныя канструктары вучыліся чарціць, знаходзіць цэнтр цяжару, разлічваць галоўную ватэрлінію, вылічваць вадазмяшчэнне. Толькі пасля ўсяго гэтага яны пачалі будаваць складаныя мадэлі з гумавымі, электрычнымі і іншымі маторчыкамі.

Першыя мадэлі Валерыя Гарабцова звярнулі на сябе ўвагу. Гэта былі эсмінцы: адзін — настольны, другі — з двума электраматорамі. Яны былі вельмі падобны на эсмінцы, знаёмыя Валерыю па малюнках і фатаграфіях.

А потым Валерый канструяваў глісер. Работа ішла шпарка. Зрабіў разлікі, падрыхтаваў неабходныя дэталі. Сабраў каркас глісера. Далей шмат выточваў, клеіў... І як непадобна была гэтая праца на тую, што рабіў ён некалі, майструючы з дошак і кары лодачкі, якімі так захапляліся яго аднагодкі-таварышы!

Пасля глісера ён зрабіў мадэль лёгкага крэйсера.

Цяжкі крэйсер, апошнюю сваю мадэль, Валерый задумаў даўно. Задумаў зрабіць не простую мадэль, якія рабіліся і да гэтага, а ўнесці свае ўдасканаленні, наблізіць яшчэ больш мадэль да сапраўднага карабля.

Кожны дзень Валерый сядзеў над чарцяжамі. Віктар Міхайлавіч уважліва сачыў за яго работай, але рэдка падказваў што-небудзь. Больш самастойнасці, вынаходлівасці, думкі — так разумеў ён сапраўдную творчасць. А добрая мадэль — гэта творчасць!

Прайшло больш паўгода, пакуль чарцяжы сталі ператварацца ў мадэль. Усе карабельныя надбудовы былі зменены, у корпус былі ўведзены тарпедныя апараты. Не было і выключацеля. Яго функцыі выконвала артылерыйская вежа: паднімеш яе крыху — і электраматорчыкі пачнуць працаваць. А было іх ужо два ды восем маленькіх батарэек, што надавалі крэйсеру хуткасць да двух метраў у секунду.

Гэтая вось мадэль і захапіла ўсіх у ліпені гэтага года ў Мінску на рэспубліканскіх спаборніцтвах па марскому мадэлізму. За арыгінальную канструкцыю Валерыя ўзнагародзілі дыпломам першай ступені.

У вялікім пакоі на сталах прымацаваны ў станках розныя мадэлі — работы членаў гуртка марскога мадэлізма Мінскага Палаца піянераў. Побач з мадэллю цяжкага крэйсера Валерыя Гарабцова стаіць мадэль падводнай лодкі вучня 26-й школы Ігара Ланеўскага і рачны вінтавы буксір вучня 11-й школы Леаніда Байстручэнка, рачныя грузавы транспарт Марата Каралькова з 27-й школы, эсмінец Ігара Бурава з 48-й школы і шмат іншых канструкцый.

Магчыма, не адзін з гэтых юных мадэлістаў, скончыўшы школу, пойдзе далей у вышэйшыя навучальныя ўстановы, каб канструяваць і будаваць сапраўдныя вялікія караблі для савецкага флота, другія, магчыма, будуць сапраўднымі маракамі.

Сёння-ж яны навучаюцца добра і выдатна, ведаючы, што ўся іх далейшая праца, жыццё патрабуюць шмат трывалых, дакладных ведаў.

**А. МАЙСКІ.**



**Валерый Гарабцоў (справа) дапамагае свайму сябру Марату Каралькову закончыць самаходную мадэль марскога грузавога судна.**

Фото Е. Пенчука.



# МАЦЧЫНА ЛЮБОЎ

**Карэйская народная казка**

Мал. І. Давідовіча.

Даўным даўно ў адной вёсцы, недалёка ад горада Кэсон, жыла бедная сялянская сям'я. Мужык працаваў на полі ў багатага суседа, а жонка пякла на продаж рысавыя булкі.

Гэтак і жылі яны, зводзячы сяктак канцы з канцамі.

І быў у іх сын Хан Сек Бон, якога яны вельмі любілі. Дружна жыла сям'я бедняка, пакуль не прышла бяда: захварэў бацька цяжкаю хваробаю і памёр. Паміраючы-ж, сказаў ён сваёй жонцы:

— Няхай наш сын будзе вучоным, і тады ўсе яго будуць паважаць.

І жонка паклялася мужыку выканаць яго апошнюю волю.

Калі Хан Сек Бону споўнілася сем гадоў, маці сказала:

— Пара выканаць бацькаву волю. Дзесяць гадоў ты павінен вучыцца. Ты пазнаеш за гэты час тысячу іерогліфаў, вывучыш лепшыя вершы, авалодаеш медыцынскай навукай і прачытаеш кнігі філосафаў. Пасля гэтага ты зможаш вытрымаць экзамен у Сеуле і станеш вучоным, як хацеў бацька.

Хан Сек Бон пайшоў вучыцца ў Кэсон, і маці засталася адна ў сваёй маленькай чыбі *. Ніхто ў вёсцы лепш за яе не пёк рысавых булак. Яны былі і смачныя, і прыгожыя на выгляд, заўсёды аднолькавыя, роўныя, пышныя. І таму ўсе суседзі куплялі булкі толькі ў яе.

Не было такога вечара, каб маці не думала аб сваім хлопчыку. Яна сумавала без яго, бедавала і плакала. Начамі маці вылічвала, колькі гадоў і колькі дзён міне раней, чым яна ўбачыць дарагога сына.

Але дзён да сустрэчы заставалася яшчэ многа-многа. І вось неяк увечары маці пачула блізка ад чыбі нечыя крокі. Яна адчыніла дзверы і пазнала свайго сына.

Маці бачыла, што Хан Сек Бон змучаны далёкай дарогай, ёй хацелася кінуцца да хлопчыка, прыцісну́ць яго да сваіх грудзей.

Але яна не зрабіла гэтага. Яна нават не ўсміхнулася свайму сыну, а толькі спыталася:

— Чаму ты вярнуўся раней часу? Хіба ты ўжо ведаеш усе навукі, каб трымаць экзамен?

Хан Сек Бон не чакаў такога суровага прыёму. Ён заплакаў і сказаў:

— Я вельмі змарыўся. Шмат дзесяткаў лі * прайшоў я пехатою і не еў з учарашняга дня. Накарміце мяне, а раніцай я ўсё вам раскажу.

* Чыбі — маленькая карэйская хатка.

* Лі — мера даўжыні, каля чатырохсот метраў.

Ах, як хацелася маці абняць свайго сына, пацалаваць яго, накарміць лепшым, што было ў доме, і пакласці спаць на мяккай пасцелі. Але яна нічога гэтага не зрабіла, а спыталася ў сына зноў:

— Хіба ўжо мінула дзесяць гадоў?

Сын адказаў:

— Я вывучыў усе навукі, якія належала прайсці за дзесяць гадоў, і таму вярнуўся раней.

— Тады вазьмі кістачку, туш, паперу і напішы першыя дзесяць іерогліфаў, — сказала маці.

Калі сын выняў з мяшэчка, што вісеў у яго на поясе, туш і кістачку, маці патушыла агонь і сказала:

— Ты будзеш маляваць упоцемку іерогліфы, а я пячы булкі.

Праз некаторы час маці сказала:

— Булкі гатовы!

І пры гэтых словах яна зноў запаліла газнічку. Хан Сек Бон паказаў маці сваю работу. Упоцемку іерогліфы атрымаліся непрыгожыя, няроўныя, а ў некалькіх месцах былі нават плямы ад тушу.

Тады маці сказала:

— Паглядзі на мае булкі.

Хан Сек Бон паглядзеў на булкі. Яны былі роўныя, прыгожыя, аднолькавыя, акуратныя, нібы маці іх пякла пры яркім святле.

А маці паклала на плячо сыну руку і прагаварыла:

— Вяртайся ў Кэсон і прыходзь дадому тады, калі прыдзе час і калі ты будзеш ведаць добра ўсё, што трэба табе ведаць.

Хан Сек Бон пачаў прасіцца:

— Дазвольце мне, мама, застацца дома хоць да раніцы. Я ішоў да вас, не спыняючыся, шмат дзён і начэй, і няма ў мяне сілы зноў ісці ў такую далёкую дарогу.

— Няма ў цябе часу для адпачынку, — сурова адказала маці. — Вось табе на дарогу булкі і — бывай!

Пайшоў Хан Сек Бон у цемры па горных сцежках.

Цяжкай была дарога ў старажытны горад Кэсон. Не раз пearагароджвалі яму дарогу горныя патокі і вылі недалёка дзікія звяры.

Хан Сек Бон ішоў і горка плакаў. Яму здавалася, што маці несправядлівая і жорсткая да яго, што яна разлюбіла яго за тыя гады, што пражыў ён у Кэсоне.

Раніцай ён развязаў хустачку, у якой ляжалі булкі, і зноў убачыў, што булкі, спечаныя ўпоцемку, былі прыгожыя — адна ў адну, адна ў адну!

І тады Хан Сек Бон упершыню падумаў: маці змагла ўпоцемку добра зрабіць сваю работу, а ён не змог. Значыць, яна рабіла сваю работу лепш, чым ён.

Падумаўшы гэтак, Хан Сек Бон паспяшаўся ў Кэсон.

Мінула яшчэ пяць гадоў, і зноў маці пачула ўвечары крокі ля сваёй чыбі. Яна адчыніла дзверы і зноў убачыла свайго сына.

Хан Сек Бон выставіў да маткі рукі, але маці сказала:

— Ці ўсе навукі ты вывучыў?

— Усе! — адказаў сын.

І, выняўшы з мяшэчка паперу, туш і кістачку, ён патушыў агонь.

Праз дзесяць хвілін Хан Сек Бон сказаў:

— Можаце запаліць святло!

Маці запаліла газнічку і падышла да сына. Перад ёю ляжаў аркуш паперы, запоўнены іерогліфамі. Іерогліфы былі ўсе роўныя, прыгожыя — адзін у адзін, адзін у адзін!

І тады маці ўсклікнула:

— Як я чакала цябе! Як я засумавала! Дай мне наглядзецца на цябе, дай мне прыціснуць цябе да сваіх грудзей!

...Мінулі гады, і Хан Сек Бон стаў выдатным вучоным. Калі-ж вучні пыталіся ў яго, як ён стаў такім вучоным, Хан Сек Бон адказваў:

— Матчына любоў дапамагла мне навучыцца не шкадаваць сябе, рабіць усё добра і сумленна. А хто робіць усё добра і сумленна, той можа стаць усім, кім захоча.

*Літаратурная апрацоўка Н. Ходзы.*

Паўлюк **ПРАНУЗА**

# Едзе Зося...

**Едзе Зося паўз мой сад**
**Ранкам на работу,**
**На маё акно пагляд**
**Часам кіне ўпотай.**

**Вымяраць раллю іду**
**На палі пад вечар.**
**Многа ў сэрцы светлых дум...**
**Дачакацца-б стрэчы!**

**Сонца хіліцца ніжэй**
**За лугі, дуброву,**
**А яна далей, далей**
**Гоніць трактар новы.**

**— Мо' правесці вас дамоў? —**
**Зосі прапаную.**
**А яна без лішніх слоў:**
**— Шлях сама знайду я.**

**Я за мерку і ў калгас:**
**— Ну, бывай здарова!..**
**Хоць-бы кінула ў адказ**
**Жарт які ці слова.**

**За ракой агні гараць —**
**Ярка свецяць фары.**
**Да каханае ляцяць**
**Мае думкі-мары.**

# НОВЫЯ ВІТАМІНЫ

Адкрыццё вітамінаў належыць рускай навуцы. У 1880 годзе ўрач Н. І. Лунін доследным шляхам даказаў, што ў прыродных харчовых прадуктах ёсць жыццёва-важныя вяшчэствы — вітаміны. Адкрыццё Н. І. Луніна было забыта ў царскай Расіі і знайшло сваё развіццё толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У Совецкім Саюзе ўпершыню ў свеце створана новая галіна прыродазнаўства — вітаміналогія. Работы совецкіх вучоных А. В. Паладзіна, Б .А. Лаўрова, В. В. Ефрэмава, Л. А. Чэркеса, В. Н. Букіна і многіх другіх паднялі навуку аб вітамінах на вышэйшую ступень. Вялікае значэнне маюць таксама працы беларускіх вучоных — Т. Н. Годнева, В. А. Леонава, М. Ф. Мержынскага, В. М. Цярэнцьева і другіх.

У апошні час навуцы сталі вядомы шматлікія звесткі аб новых вяшчэствах, якія валодаюць вітамінным дзеяннем. Вось некаторыя новыя вітаміны.

**Біяцін.** Здаўна заўважылі, што ўжыванне ў вялікай колькасці сырога бялка яек аказвае таксічнае дзеянне на арганізм. Пры гэтым наглядаюцца галоўным чынам з'явы захворвання скуры: пачырваненне, свербата і шалушэнне, выпадзенне валасоў, а таксама санлівасць і слабасць у мускулах.

Вызначана, што сыры яйкавы бялок валодае ўласцівасцю нейтралізаваць дзеянне асобага вітаміна — біяціна.

Біяцін ёсць у памідорах, моркве, капусце, бульбе, бураках, пякарскіх і піўных дрождждах, малацэ, почках, у пячонцы і сэрцы свіней і буйнай рагатай жывёлы.

Згодна апошніх даных, біяцін аказаўся эфектыўным пры лячэнні скурных паражэнняў і фурункулёза.

**Вітамін $B_{12}$.** Пячонка і яе прэпараты (пячоначны экстракт, гепалон, кампалон) здаўна прымяняюцца пры лячэнні цяжкіх захворванняў крыві. У апошнія гады з пячонкі быў выдзелены вітамін $B_{12}$. Гэта — чырвоныя крышталы, якія добра раствараюцца ў вадзе. У вітаміне $B_{12}$ ёсць кобальт, і пакуль што ён з'яўляецца адзіным вядомым вітамінам, у якім ёсць метал. Вітамін $B_{12}$ у чыстым выглядзе з'яўляецца высокаэфектыўным лячэбным сродкам.

**Пантаценавая кіслата.** Яна вельмі шырока распаўсюджана ў прыродзе. Яе многа ў дражджах, яйках, у мясе рагатай жывёлы, пячонцы, гароднiне, бульбе, зярнятах злакавых культур.

Недастатковасць пантаценавай кіслаты ў арганізме праяўляецца перш за ўсё ў затрымцы росту, у парушэнні работы надпочачных залоз і сэрца. Узнікаюць захворванні скуры і пасівенне валасоў.

Выяўлена цесная сувязь пантаценавай кіслаты з абменам вяшчэстваў, асабліва з вугляводным абменам.

**Параамінабензойная кіслата.** Адкрыццё вітаміннай прыроды гэтага злучэння было звязана з вывучэннем дзеяння пэўнай групы лекарскіх сродкаў, так званых сульфамідаў (да якіх адносяцца стрэптацыд, сульфідзін, норсульфазол, дысульфан і інш.). Вядома, што гэтыя лекі валодаюць уласцівасцю замаруджваць або затрымліваць рост і размнажэнне некаторых хваробаўтваральных мікробаў.

Прыём параамінабензойнай кіслаты павышае ўстойлівасць чалавека да паніжанага атмасфернага ціску.

**Вітамін Р (цытрын).** Вітамін Р павышае ўстойлівасць сценак капілярных кровеносных сасудаў, а таксама ўзмацняе дзеянне вітаміна С і садзейнічае накапленню яго ў арганізме.

З адкрыццём вітаміна Р стала зразумелым, чаму натуральныя вітамінанасіцелі, у якіх ёсць вітамін С (шыпшына, ягады, садавіна, гародніна), заўсёды дзейнічаюць у арганізме чалавека больш паўнацэнна, чым сінтэтычны вітамін (аскарбінавая кіслата). Вітамін Р звычайна суправаджае ў раслінных прадуктах вітамін С. Многа вітаміну Р ёсць у шыпшыне, чырвоным перцы, ягадах чорнай смуродзіны, у апельсінах, лімонах, вінаградзе, слівах, а таксама ў капусце, бульбе, шпінаце і іншай садавіне і гародніне.

Совецкія вучоныя А. Л. Курсанаў, В. Н. Букін, С. Дурмішыдзе паказалі, што дубільныя вяшчэствы чайнага лісту і вінаграда таксама валодаюць дзеяннем вітаміна Р. Вітамін Р знойдзен у вінаградных вінах.

Вітамін Р (цытрын) зараз з поспехам прымяняецца пры лячэнні захворванняў, якія звязаны з паніжанай трываласцю кровеносных капіляраў (артэрыясклероз і т. п.).

**Д. ШАПІРА,**
**кандыдат біялагічных навук.**

# БЕЛЫ ВУГАЛЬ

Белы вугаль — энергія рэк — з кожным годам адыгрывае ўсё большую ролю ў гаспадарчым і культурным жыцці рэспублікі. Сёлета да сеткі калгасных і дзяржаўных сельскіх гідраэлектрастанцый прыбавілася ГЭС «Дружба народаў», дала ток калгасная ГЭС «Чырвоны Кастрычнік» (Лепельскі раён, Віцебскай вобласці). На рэчцы Моўчадзь у Дзятлаўскім раёне, Баранавіцкай вобласці пачалі працаваць турбіны Навасёлкаўскай ГЭС. Упершыню паявілася электрычнае святло ў Механаўскім раёне Віцебскай вобласці, дзе ўступіла ў строй Ключагорская ГЭС.

Даманаўская ГЭС будуецца на рацэ Шчара. Гэтая рака, як і многія іншыя ў Беларусі, цячэ павольна, берагі яе нізкія, а часта нават забалочаныя. Для стварэння вадасховішча і неабходнага напору вады тут прымяняецца абвалаванне. Гэты-ж прыём вады выкарыстаны і на будаўніцтве Панямонскай ГЭС, якое вядзе калгас імя Варашылава на рэчцы Сервеч (Любчанскі раён, Баранавіцкай вобласці).

Заканчваецца будаўніцтва ГЭС «Вайтоўшчына», якая дасць ток некальким калгасам Гродзенскага раёна, будуюцца гідрастанцыі на рэках Друць у Магілёўскай вобласці, Лоша ў Маладзечанскай вобласці, Уша ў Баранавіцкай вобласці і іншыя.

Разам з гэтым прадаўжаецца праектаванне новых станцый. Зацверджаны праект буйнай міжкалгаснай Ваўнянскай ГЭС, якая будзе выкарыстоўваць энергію ракі Рось і дасць ток калгасам Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці.

Па заказу некалькіх калгасаў-мільянераў Дунілавіцкага раёна, Полацкай вобласці заканчваецца складанне праекта гідрастанцыі на рацэ Галбеіца. Ініцыятары будаўніцтва гэтай ГЭС ярка падкрэслілі значэнне электрычнасці ў народнай гаспадарцы, даўшы назву станцыі «Зара камунізма».

**А. СЯРГЕЕЎ.**

**Будынак Ключагорскай ГЭС, якая пушчана ў ліпені гэтага года.**

Фота П. Азарчанкі.





**Ураджай паспеў!**
У садзе Васілевіцкага дзіцячага дома (Палеская вобласць), на першым плане (злева направа): камсамолкі Ліда Кацуба, Тацяна Падсасонная і Марыя Лаўрова.

Фота А. Дзітлава.

